# СЕЧКА

## 1.

Даўно марыў: вось выпішуся, «пераплаўлю» чарнавыя загатоўкі ў мастацкія творы і калі больш рабіць не будзе чаго, не застанецца ніводнага сюжэта, вартага аповесці альбо апавядання, прымуся нарэшце за мініяцюры. За карацелькі, зацемкі, прабліскі, абразкі, нататкі, абыпраштоські (і такое ёсць у Я. Рагіна)…

А што — выгодная справа. Час не марнуецца. Ілюзія далучанасці да творчага працэсу. Вольнае, жанравымі ўмоўнасцямі не скутае пісьмо. Невычэрпнасць матэрыялу — аб чым думаю, тое й пішу. Эканомія нерваў. Адны плюсы!

Заставалася толькі прыдумаць якоесь сваё слова для абазначэння гэтых літаратурных «ліліпутаў».

## 2.

Быў такі — светлай памяці — пісьменнік Мікола Фаміч Капыловіч. Мне заўсёды падабаліся яго апраўданні, калі гутарка пад час якой сумеснай п’янкі зварочвала на плагіятарства. «Мікола Фаміч, у вас жа ў самога выдатная проза, на халеру ён вам, гэты плагіят? Каб пасля ваша імя паласкалі розныя бездары, якія нават чужога садраць не здольныя…»

«Бачыш, Андруша, — разважліва адказваў гэты сімпатычны, бяскрыўдны творчы клептаман, — у мяне вельмі ўчэпістая памяць. Калі б я ведаў замежныя мовы, дык быў бы, можа, геніяльным перакладчыкам. Мне хапае толькі прабегчы вачыма тэкст, каб запомніць яго цалкам. А пасля нашу яго ў сабе, зжываюся з ім… А тут яшчэ алкаголь… Вось і настае момант, калі сам ужо не магу разабрацца: маё гэта, ці чужое, даўным-даўно ў кагосьці вычытанае».

— Ну, а ў вас у «Полымі» што будзе новенькага? — спытаў ён, пазяхнуўшы.

— Шмат чаго… Янка Брыль, напрыклад.

— А, Брыль? Усё сваю сечку піша? — дзядзька Мікола неяк іранічна, нават паблажліва вымавіў гэтае слова.

А я, пачуўшы яго, уздрыгнуў радасна. Бо мне ўжо стала ясна, як назаву будучыя свае карацелькі.

Сечка… Дробна нарэзаныя кавалачкі залацістай саломы. З доўгага робіцца кароткае, з вялікага — малое, але яно толькі на карысць, бо «з сечкай каровы муку лепш ядуць» (А.Асіпенка).

Цікава, што тады мне і ў галаву не прыйшло — гэта ж і я без дазволу носьбіта, без згоды ўладальніка прысвойваю сабе чужое слова!

І як гэта называецца?

### 3.

Паэт Віктар Ракаў прыходзіў у рэдакцыю «Полымя», сядаў за свой вялікі, з шуфлядамі па абодва бакі, канцылярскі стол — абсалютна голы, ні кнігі, ні сшытка, ні паперачкі, — абдзьмухваў чатыры краі яго, затым, як старанны першакласнік, складваў адна на адну рукі і мог сядзець так гадзінамі — не варушыся, пазіраючы перад сабою ў адну кропку.

Боязна было нават знаходзіцца з ім у адным кабінеце, не тое што звяртацца да яго, турбаваць якой драбязою, адрываць ад чагосьці патаемнага, важнага, вечнага…

Пазней я зразумеў, што чалавек проста думае вершы (паводле выразу Алеся Пісьмянкова), ці, хутчэй за ўсё, «паліць за сабою масты» паэзіі.

Палю чарнавікі.
Навошта свету
Знаць, што закрэсліў я ў жыцці сваім?
Гараць чарнавікі —
Душы сакрэты
Віюцца знічкамі, дымком сівым…
Гараць чарнавікі.
І ў іх свячэнні
І думкі, і трывогі — заадно.
І рынуцца ў душу, глыбей, на дно
Абвугленыя прысвячэнні.

Аднойчы цішыня парушылася.

— Хутчэй, хутчэй! — закрычаў да мяне Ракаў. — Як бусы па-беларуску?!

— Каралі, пацеркі…

Ён толькі пстрыкнуў пальцамі — не тое, маўляў. І тут я ўспомніў роднае, матчына, з маленства знаёмае:

— Занізкі!

— Што-што? — Віктар Апанасавіч насупіўся грозна, нібы пачуўшы якую непрыстойнасць; мабыць, яму, магілеўцу, яшчэ горшым падалося гэта за папярэднія словы.

Мяне не здзівіла такая рэакцыя. Я прывык ужо, што за рэдкім выключэннем (нават адзіным выключэннем — Янкі Скрыгана) нашыя пісьменнікі і крытыкі,

рэдактары і карэктары ўпарта не прымаюць мазырскіх дыялектаў, прапануючы замяніць іх на свае — як правіла, з той мясцовасці, адкуль яны самі родам.

А дарэмна не прымаюць. Хоць бы і гэтыя ж занізкі. Чым яны горшыя за пацеркі (штосьці пацёртае, паношанае, таннае — «сэканд-хэнд») ці за каралі (каго хто за што караў)? Этымалогія слова зразумелая — круглыя прадметы нанізваюцца па чарзе адзін ЗА адным. Сугучча з іншымі жаночымі ўпрыгожаннямі: на вушах — завушніцы, на шыі — занізкі. Па алітэрацыі ў гэтую ж кампанію просяцца бурбалкі — калі шарыкі вады падымаюцца на паверхню, як нанізаныя, змацаваныя нябачнай ніткаю… Дарэчы, у нас так і гавораць: «Рыба пускае занізкі». Паспрабуйце сказаць «пускае каралі».

Ды Бог з ім.

Неяк іду я ў метро па станцыі «Плошча Перамогі» да выхаду. І раптам каля адной з калон заўважаю… Віктара Ракава. Ён стаіць бокам да мяне, у сваім старэнькім палітоне, са сваёй тэчкай пад пахаю.

Цэлы рой думак узняўся ўва мне за тыя некалькі крокаў, што трэба зрабіць каля яго. Гукнуць? Падыйсці? Павітацца за руку? У яго псарыяз, ён не падае рукі… Пакратаць за плячо? Пад'едзе цягнік, давядзецца прапусціць, чакаць колькі хвілін наступнага… Гаварыць. Пра што? Успомніць, дзе і калі была яго апошняя публікацыя. Пахваліць, працытаваць… Мне гэта трэба? Міма, хутчэй, хутчэй, пакуль не заўважыў!..

Але ж і сам некалі буду вось так стаяць, стары, хворы, нікому не патрэбны, усімі забыты, і якісь маладзейшы калега з такім жа сумбурам у галаве, як у мяне зараз, утуліўшы галаву ў плечы… Вярнуцца? Канечне, вярнуцца!

І тут да мяне вярнулася адчуванне рэальнасці. І я ўспомніў, што Віктар Апанасавіч Ракаў памёр чатыры



гады назад. А чалавек у метро, калі прыгледзецца, дык нават не вельмі на яго і падобны.

## 4.

У «Бесах» Ф.Дастаеўскага адзін з герояў, пісьменнік Кармазінаў — прататып І.Тургенева, выведзены аўтарам у такім вось сатырычна-карыкатурным плане:

«З год таму назад чытаў я ў часопісе артыкул яго… Ён апісваў гібель парахода дзесь каля англійскіх берагоў, сам быў таму сведкам і бачыў, як ратавалі няшчасных і выцягвалі тапельцаў. Увесь артыкул гэты, прэтэнцыёзны і шматслоўны, напісаны быў з адной-адзінай мэтаю выставіць сябе самога. Так і чыталася між радкоў: «Цікаўцеся мною, глядзіце, які я быў у гэтыя хвіліны. Навошта вам гэтае мора, бура, скалы, разбітыя трэскі карабля? Я ж дастаткова апісаў вам усё гэта сваім магутным пяром. Чаго вы глядзіце на гэтую тапельніцу з мёртвым дзіцём у мёртвых руках? Глядзіце лепш на мяне, як я не вынес гэтага малюнка і ад яго адвярнуўся. Вось я стаў спінаю; вось я жахнуўся і не ў сілах азірнуцца назад; я заплюшчваю вочы — ці не праўда, як гэта цікава?»

Не ведаю, свядома ці падсвядома, але ў Дастаеўскага атрымалася не столькі пародыя на беднага Кармазінава-Тургенева (нямала яму дастанецца ў рамане), колькі характарыстыка ўсяго без выключэння нашага пісьменніцкага племені. Асабліва тых прадстаўнікоў яго, хто любіць пісаць ад першай асобы.

На мяне глядзіце!

Я, аўтар, у цэнтры ўсяго, я сонца, а планеты — героі мае, толькі круцяцца вакол мяне.

Я, аўтар, аснова ўсяго, а тэкст, інфармацыя, дэталі — так, другаснае, рамка для майго партрэта.

Добра яшчэ, што на наша і на чытацкае шчасце хоць зрэдку, хоць калі-нікалі, хоць выпадкова рамка атрымоўваецца больш вартаснаю, больш значнаю за тое, што яна апраўляе…

**5.**

Вядома, «з якога смецця растуць вершы».

Аказваецца, не толькі вершы. Я заўсёды думаў, што гэта анекдот, — як Разуміхін прыходзіць да Раскольнікава і кажа: «Ну, засек ты бабку, і што? Рубель усяго і знайшоў». — «Не скажы, дружа. Адна бабка рубель, дзесяць — чырвонец».

Якое ж было маё здзіўленне, і радасць маленькага адкрыцця, калі ў «Сібірскіх сшытках» зусім маладога Дастаеўскага, на першай жа старонцы прачытаў:

«Выйшаў на дарогу, зарэзаў мужыка-бадзягу, а ў яго і ўсяго толькі адна цыбуліна. «Што ж, бацька, ты мяне пасылаў на здабычу; вунь я мужыка зарэзаў і ўсяго цыбуліну знайшоў». — «Дурань! Цыбуліна — усё капейка, людзі кажуць. Сто душ, сто цыбулінаў — вось табе рубель».

Запісана за пятнаццаць гадоў да з'яўлення «Злачынства і кары».

**6.**

Ніколі не мог даўмецца, што азначае выраз «краса ўратуе свет»? Якое яго практычнае прымяненне? І куды глядзіць свет, чым займаецца чалавецтва, калі ратунак — вось ён, перад носам, чорным па белым аддрукаваны?

Ці мо таму і ў разгубленасці чалавецтва, бо не



хапае канкрэтыкі? Цяжкавата разабрацца, якая менавіта краса? Жаночая? Хрысціянская? Краса прыроды? І якім чынам гэтыя абстракцыі (бо колькі людзей — столькі і разуменняў «красы») могуць нас уратаваць?

Самае правільнае выйсце ў такіх выпадках — зверыцца з кантэкстам. Паглядзець у арыгінале, кім, калі і пры якіх абставінах тая ці іншая сентэнцыя была сказана. Кантэкст увогуле вялікая рэч, сябры мае. Небяспечная штука. Як часта спадарожныя словы не толькі прыніжаюць, скажаюць, перакручваюць на свой лад самую, здавалася б, велічную, непахісную догму, але і цалкам знішчаюць усялякі сэнс яе! Ніштто не раніць больш балюча, чым тваe ж уласныя словы, пазбаўленыя хітрым апанентам кантэксту. Стары, але дзейсны прыёмчык.

Шчыра скажу: напярод здагадваўся, што чакае мяне ў першакрыніцы. Жыло яшчэ ў памяці сёе-тое з «Ідыёта»… Напрыклад, краса Насты Пілiпаўны… Але няўжо так проста? Так прамалінейна? Так тыпічна па-дастаеўску — сыпаць словы направа і налева, не задумваючыся, якая мядзведзева паслуга робіцца нашчадкам? Я да таго гэта, што рабіць такія сур'ёзныя заявы, як веданне лекаў уратавання чалавецтва, і не падзяліцца рэцэптам прыгатавання гэтых лекаў…

Але досыць. Паехалі ў першакрыніцу. Спакойна, стрымана, непрадузята.

Згадка першая. Мышкін пра Аглаю:

— Красу цяжка судзіць… Краса — загадка.

Адэлаіда (гледзячы на партрэт Насты Пілiпаўны):

— Такая краса — сіла. З такой красою можна свет перавярнуць!

Іпаліт (прачнуўшыся) — да Мышкіна:

— Праўда, князь, што вы неяк казалі, што свет уратуе «краса»? Панове! — закрычаў ён гучна ўсім, — князь сцвярджае, што свет уратуе краса! А я сцвярджаю,

што ў яго такія гуллівыя думкі, бо ён закаханы. Не чырванейце, князь… Дык якая краса ўратуе свет?

Харошае пытанне. І цікавая рэакцыя Мышкіна — «князь разглядваў яго ўважліва і не адказаў яму».

І нарэшце, згадка чацвёртая, і апошняя — Аглая Мышкіну:

— Слухайце раз назаўсёды, — калі вы загаворыце аб чым-небудзь кшталту смяротнай кары, ці аб эканамічным становішчы Расіі, ці аб тым, што «свет уратуе краса», дык папярэджваю вас загадзя: не трапляйцеся мне пасля на вочы!

Інтанацыя не столькі Аглаі, колькі аўтара; такое адчуванне, што пад канец рамана яму самому надакучыла круціць і так, і гэтак, і тлумачыць невытлумачальнае.

**7.**

Але праз дзесяць (!) гадоў пасля выхаду «Ідыёта» ў сваім «Дзённіку пісьменніка» Фёдар Міхайлавіч вяртаецца да любімай тэмы:

«Літаратура красы адна толькі і ўратуе», — так ён піша.

І мы нарэшце можам уздыхнуць з палёгкаю. Усё становіцца на свае месцы. Слова «літаратура» ўсё тлумачыць. Пісьменнік адкінуў абстракцыі і ўжыў прафесійны тэрмін. Ён высока ставіць сваю прафесію, лічыць, што ёй трэба аддаваць усяго сябе, рабіць сваю справу прыгожа, каб была ва ўсім краса — і гэта ўратуе.

Усё зразумела. Не зразумела толькі, што рабіць прадстаўнікам іншых прафесій — шаўцу, селяніну, банкаўскаму служачаму, фотамадэлі, — якія не лічаць свой занятак горшым за літаратурны? Іх што ўратуе?

Дарэчы, ледзь не забыўся пра галоўнае. Збіраючы



матэрыял для гэтага эсэ, натрапіў на:

«Краса ўратуе свет, — сцвярджаў Іаган Крыстоф Фрыдрых Шылер у артыкуле «Аб французскай рэвалюцыі канца XVIII ст.".

"Пакуль у народзе захоўваецца ідэал красы, датуль… жывы народ", — паўтараў пазней Дастаеўскі, хаця і ўкладваў у гэта зусім іншы сэнс".

Перш узнікла была спакуса засесці за Шылера, і разбірацца ўжо, што ён меў на ўвазе…

Ды не стаў я гэтага рабіць.

*2002г.*

## СЕЧКА-2

### 1.

Хто растлумачыць, навошта гэтыя прыстаўкі да абазначэння жанру? Не проста аповесць, а "ціхая аповесць", не раман, а "раманчык", "спроба рамана", не апавяданне, а "апавяданне-быль", "апавяданне з жыцця", "эксперыментальнае апавяданне"? Што за перастрахоўка? Каб менш было патрабаванняў да зместу?

Тое самае з пісьменніцкай "цэхавай" прыналежнасцю. Не проста паэт, а "паэт-песеннік", не празаік, а "пісьменнік-баталіст", "дзіцячы пісьменнік"…

Так і ўяўляюцца працягнутыя для знаёмства рукі:

— Вельмі прыемна — паэт-эстэт…

— Празаік-эпік…

— Белетрыст-батавік…

— Паэт з народа…

— Паэт-франтавік…

— Эсэіст-філосаф…

І, як апафеоз, атрыманая мной навагодняя віншавальная паштоўка з Рэчыцы, падпісаная так: "Анатоль Караленка, казачнік-нафтавік, вольная барацьба ў цяжкай вагавай катэгорыі, рэчыцкі Андэрсен".



### 2.

"Пераемнасць традыцый", "славутыя дынастыі", "дзеці ідуць па слядах бацькоў"…

Усё было б зразумела, сімпатычна і ўхвальна, калі б справа тычылася вузка-прафесійнага вопыту, які можна перадаць і якім можна авалодаць: напрыклад, пляценне кошыкаў ці лапцей, свінабойства, выплаўка чыгуну і сталі, кладка печаў, шафёрскія навыкі і г. д.

Але як перадаць у спадчыну такую індывідуальную, непаўторную рэч, як талент? Ці ўвогуле магчыма гэта? Нездарма ж існуе прымаўка: "На дзецях геніяў прырода адпачывае"…

Што б ні казалі, а ёсць у гэтай "пераемнасці" нешта фальшывенькае, саладжавае, нават саромнае. Калі вядучы Клуба Вясёлых і Знаходлівых на вачах мільёнаў людзей памаленьку "перадае" свой дар канферансье сыну… Калі памірае прэзідэнт Азербайджана і нікім больш, як зноў-такі сынам, не знаходзіцца яго замяніць… У газеце "Советская Белоруссия" чытаю: "Выпрабоўваць новыя ўзоры аўтаматаў Калашнікава прыязджаў нават сын вядомага на ўвесь свет канструктара — таксама буйны спецыяліст, аўтар новых распрацовак"…

Ад гэтага апошняга проста дыхнула Гогалем. Памятаеце, у "Рэвізоры", калі Бобчынскі расказвае пра карчмара Уласа, у якога "жонка тры тыдні таму нарадзіла, і такі бойкі хлопчык, таксама будзе, як і бацька, трымаць карчму"?

### 3.

Модны Барыс Акунін у інтэрв'ю выказаў думку аб тым, што сапраўдны пісьменнік павінен быць "меншы"

за свае творы. “Бо інакш, — заўважае Б.Акунін, — калі ён, як асоба, цікавейшы за сваю творчасць, дык ніякі ён, к чорту, не пісьменнік, а які-небудзь гуру, ці філосаф, ці шоўмен, ці проста мілы чалавек. Сэнс занятку любой прафесіяй у тым, каб вынік тваёй працы ўвасабляў лепшае, на што ты здатны”.

І далей: “Не варта знаёміцца з акторам, пісьменнікам, мастаком, якіх вы вельмі любіце. Вам не пазбегнуць расчаравання — яны абавязкова акажуцца больш дробнымі і менш цікавымі за сваю творчасць”.

Падпісваюся пад гэтым, прымаю гэта да ведама і пераадрасоўваю братам па пяру — аматарам публічных выступленняў. Калі вы гадзінамі здольныя барабаніць перад беднымі, асалавелымі чытачамі, дык што застаецца ў творах?

## 4.

Не варта было б і мне дужа блізка “знаёміцца” з адным з самых любімых сваіх пісьменнікаў, Міхаілам Афанасьевічам Булгакавым. Аднак тут вельмі паказальны факт: як у адным целе могуць ужывацца геній-гуманіст і (не пабаюся гэтага слова)… амаль злачынца.

Некалі даўно, у студэнцкія гады, адна мая знаёмая казала: “Як я табе зайздрошчу — ты яшчэ не чытаў “Майстра і Маргарыту”! Які інтэлектуальны пір у цябе наперадзе!”

І пачынала “грузіць” мяне эпізодзікамі кшталту ката Бегемота з чаркай гарэлкі ў адной лапе і з марынаваным грыбам на відэльцы ў другой, тым жа катом, які п’е каву і “нікога не чапае”, прыгодамі зноўтакі ката ў кампаніі з Кароўевым-Фаготам у валютным універмагу, — словам, каб зацікавіць, пераказвала мне



з лёгкасцю павярхоўнага, пасрэднага чытача розныя знешне-займальныя штучкі, якія, відаць, на яе думку і складалі сутнасць рамана.

Аднак нечакана з харошанькіх яе вуснаў сарвалася і такая заўвага.

— Вось толькі не магу зразумець, — сказала яна, — чаму Маргарыта на сатанінскім бале просіць за нейкую Фрыду? Каб той перасталі прыносіць хусцінку, якой яна задушыла некалі сваё дзіця?

І праўда. У Маргарыты што, больш не было клопату, чым нейкая Фрыда? Хіба ёй не было за каго прасіць? Хоць бы за таго ж Майстра. Яна ж і звязалася з нячыстай сілаю толькі таму, каб даведацца пра лёс дарагога, любімага чалавека.

Колькі разоў раман ні перачытвай, кавалак з Фрыдаю выпадае, нейкі ён чужародны, можа нават неабавязковы… Калі не ўлічваць адной дэталі з біяграфіі пісьменніка. Дэталі не столькі далікатнай, колькі да страшнага непраўдападобнай.

Над асобнымі рускімі, і не толькі рускімі, пісьменнікамі вісіць проста рок у сямейным плане. У Івана Буніна памёр адзіны маленькі сын. У Вольгі Кніпер, жонкі Чэхава, здарыўся ў вагоне выкідыш, калі яна цягніком вярталася ад мужа з Ялты ў Маскву. Прынята лічыць, што не было дзяцей ад трох жонак і ў Міхаіла Булгакава. Але гэта не так, лепш сказаць, не зусім так: першая яго жонка была цяжарная. І малады доктар Булгакаў — ужо не ведаю, чым ён у тыя хвіліны кіраваўся, — зрабіў ёй… аборт, г.зн. сваімі ж уласнымі рукамі забіў роднае, першае і, як аказалася, апошняе дзіця.

З такой папраўкай эпізод з Фрыдаю робіцца, канечне, цалкам зразумелы і апраўданы, “хаця ад таго і не менш трагічны”, — скажам у заключэнне, падстройваючыся пад інтанацыю вялікага Майстра і глыбока няшчаснага чалавека.

## 5.

Хацелася, каб гэтыя мініяцюры былі россыпам маленькіх літаратурных аб'ектыўных знаходак, цікавых і дарагіх мне, аўтару, і некаторым маім аднадумцам.

Цяпер бачу, што "якання" мнагавата. Мнагавата "якання", вось у чым справа. І атрымоўваюцца, як справядліва заўважылі ў "Ліме" ў згадцы на першую порцыю "Сечкі", нейкія ледзь не ўспаміны.

А мо яно і трэба так? Працэджваць кожны эпізод праз сіта памяці? Выпрабоўваць яго на сабе, як калісь дактары выпрабоўвалі новыя лекі?..

Карацей: аднойчы ў 1993 годзе званю я ў выдавецтва "Мастацкая літаратура" рэдактару аддзела прозы, цяпер ужо нябожчыку, Уладзіславу Рубанаву. Рыхтавалася да выдання мая другая (і па сягоння апошняя "дарослая") кніга "Смута".

— Так і так, Уладзіслаў Якаўлевіч, — вінаваты перад вамі: дапусціў прыкры ляпсус. У апавяданні "Бляха" герой выходзіць з дому ў ватоўцы, а ў фінале сабакі рвуць на ім "лёгкі балонь курткі"... Трэба паўсюль паправіць на куртку. Навошта я ўвогуле тую ватоўку ўпіхнуў, адкуль яна ўзялася, калі куртка сама просіцца: Бляха ж яе перад гэтым прынёс, як трафей, са сваіх паходаў у "зону"!

— Па-першае, — сказаў Рубанаў, — нічога яшчэ не позна, усё выправіцца ў гранках. Па-другое…

— Я, галоўнае, не разумею, — не хацеў я слухаць, — гэтая ж "Бляха" прайшла і Амерыку, і Маскву, і наш "Лім", і наш "Нёман"… Чаму ні перакладчыкі, ні рэдактары, ні карэктары, ні чытачы — ніхто нічога не заўважыў?

— …Па-другое, — спакойна працягваў Рубанаў, — з чаго вы ўзялі, што ніхто не заўважыў? Можа, і заўважылі, ды падумалі — так трэба? І па-трэцяе, калі б і было позна, і мы не паспелі б паправіць — нічога страшнага не здарылася б. У такіх выпадках аўтару апраўдацца лягчэй лёгкага.

— ?!

— Напрыклад, ваш Бляха мог за дзень не раз, а некалькі разоў пераапрануцца.

— Але ж у мяне не паказана гэтага!

— Пісьменніку і неабавязкова паказваць кожны мікраскапічны рух героя. Хай чытач сам сёе-тое дадумвае.

— Бог з вамі, Уладзіслаў Якаўлевіч. Так можна апраўдаць любую неахайнасць, непісьменнасць… Бяздарнасць, урэшце!

— Абсалютна. Калі аўтар ўпрэцца, ён адвае кожную сваю хібу. На крайні выпадак у яго ў запасе ёсць адно чароўнае слоўка — экзістэнцыялізм. Ён скажа: абсурднасць нашага жыцця я перадаю праз абсурдныя літаратурныя прыёмы.

— А калі б той Бляха… ну, не ведаю, выйшаў з дому мужчынам, а вярнуўся — жанчынаю?

— "За дзень адбылася трансфармацыя героя ў плане яго сэксуальнай арыентацыі", — скажа аўтар.

— Вы жартуеце? А калі ў аўтара сонца… ну, не ведаю, устае на захадзе, і яно — не круглае, а квадратнае?!

— Такімі сродкамі перадаецца ўнутраная эвалюцыя героя. Такім ён гэтае сонца бачыць.

Мы памаўчалі, падыхалі кожны ў сваю трубку. Потым я сказаў паныла:

— А мне здавалася, на першым месцы ў пісьменніка заўсёды павінна быць элементарная павага да чытача. Каб чытач верыў яму, як самаму сабе. Бо, падмануўшыся раз, ён кнігу такога аўтара больш і ў рукі не возьме…

— Андрэй, вядома! Канечне ж, агрэсіўная дурасць, нахабная бяздарнасць заўсёды будуць маскіравацца

пад наватарства! Я проста пацвельваю вас. Для вашай жа карысці, бо падазраю, што вы яшчэ не раз у жыцці пападзецеся на падобную вуду…

**6.**

Вельмі хутка прадказанне яго спраўдзілася.

Я быў дзяжурны па нумары “Полымя” і чытаў аповесць… не важна, якога пісьменніка — на яго месца можна падставіць любога з нас; скажу толькі, што там чарговыя героі прадзіраліся праз чарговыя хмызнякі. З ежы на дваіх быў у іх адзін акрайчык хлеба. Што такое акрайчык у нашым разуменні? — нават не далонь, палова далоні… Героям трэба было расцягнуць яго на некалькі дзён.

Спачатку ён падзяліўся напал, і адна палова была з’едзена, а другая пакінута, затым яшчэ напал, і яшчэ, і яшчэ… Нарэшце, самы апошні кавалачак атрымаўся “памерам з пачак папірос “Казбек”.

Ці таму, што я сам курэц, ці таму, што заспеў яшчэ ў сваім часе той “Казбек” (пачак, скажу вам, не маленькі, папіросы буйныя і нават не 20 іх там, як звычайна, а 25), але штосьці прымусіла мяне спыніцца ў гэтым месцы і зрабіць нескладаны арыфметычны падлік.

У мяне акругліліся вочы — першапачатковы “акрайчык”, які, да слова, адзін з герояў насіў у кішэні, выйшаў памерам… з паверхню пісьмовага стала!

Далей — болей. З-за гэтай нібыта драбязы пачынала рассыпацца аповесць, рушыліся ўсе яе далейшыя сюжэтныя хады, бо, маючы пры сабе такі запас хлеба, героям зусім неабавязкова было выходзіць да людзей, у вёску: не патрэба гнала іх туды, а аўтар вёў сілком…



Чым усё скончылася? Няцяжка здагацца — роўна нічым.

“Каму трэба твая звышпільнасць?” — сказалі мне.

“Хочаш быць самым разумным?”

“Нашто ты ўвогуле лезеш у чужы аддзел?” — і гэта было праўдай, тады я не меў дачынення да аддзела прозы.

“Рана табе яшчэ іншых вучыць”.

І вось яно — прагучала! — чароўнае слова-панацэя:

“Ды ці ведаеш ты, што такое экзістэнцыялізм?!”

Ведаю, трэба было сказаць. Калі гэта — дзядзька, які выходзіць з дому ў ватоўцы, а вяртаецца ў балоневай куртцы, з паўпудовым “акрайцам” хлеба ў кішэні — тады ведаю.

*2004г.*

## СЕЧКА-3

### 1.

Вельмі дапускаю, што эстрадны спявак Барыс Майсееў адзін з самых яскравых прадстаўнікоў нашага дзесяцімільённага народа.

Цалкам пагаджаюся, што ён мае нейкае дачыненне да Дня вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ці да Дня незалежнасці Беларусі.

З іншага боку разумею і тых тры тысячы ветэранаў ВАВ, што запатрабавалі зняць з святочнай праграмы выступленне адыёзнага спевака.

Але забіце мяне: не дапускаю, не пагаджаюся і не магу зразумець вось гэтую інфармацыю: “Но гонорар за так и не взошедшую “Голубую луну” Борис получил” (“Камсамольская праўда”, 9 ліпеня 2004 г.).

Даруйце – які ганарар? За што? У якой суме? З чыіх грошай? Па якім ведамстве праходзіла? І як загадаеце разумець гэта дзесяткам, калі не сотням аўтараў, напрыклад, рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і Мастацтва”? Сярод якіх і вядомыя пісьменнікі, і акадэмікі, і вучоныя, і ветэраны вайны... Якія месяцамі ў вочы не бачаць нават сваіх мізэрных (у параўнанні з Барысавым) ганарараў? Яны што, людзі нейкага іншага, ніжэйшага, чым Майсееў, гатунку? Хіба яны менш, чым Бора, працуюць на карысць Беларусі?..



Хаця, зрэшты, пара ўжо даўно перастаць задаваць гэтыя ў нікуды і ні да кога пытанні. Усё роўна ў адказ будзе цішыня.

### 2.

Выступаючы па тэлевізары, акцёр Сяргей Юрскі (той самы непаўторны Бэндэр з “Залатога цяляці”) расказаў, як ён аднойчы пераражыў сапраўдны шок.

Канцэрт зорак эстрады. Тысячная аудыторыя. Многія з дзецьмі на каленях.

“...І калі я ўбачыў, як уся зала, ад старога да малога, у тысячу галасоў следам за спеваком зацягвае:

Ты отказала мне два раза,
Не хочу, сказала ты.
Вот такая вот зараза
девушка моей мечты!

...Калі я ўбачыў бабульку, якая разам з унучкаю ў такт пляскаюць у ладкі, – у мяне заварушыліся апошнія валасы на галаве. Гэта была вакханалія пошасці, гіпнатычны сеанс нейкага агульнага адурнення (“всеобщего помешательства”), і горка і брыдка зрабілася на душы, і сорамна за радзіму Пушкіна і Чэхава, і жахліва перад той безданню, у якую мая краіна коціцца...”

Дзівак чалавек! Так абвострана ўспрымаць, дык ніякіх нерваў не хопіць. Хай бярэ прыклад з беларусаў. У нас даўно ўжо ні ў кога не варушацца валасы, нікому не горка, не брыдка і не сорамна, калі, дапусцім, на канале “Лад” дзеткі па просьбе вядучага напяваюць свае любімыя песенькі; трэба меркаваць, яны ім замест калыханкі. Вось трохгадовае хлапчанё

бяззубай скарагаворкаю адбарабаньвае згаданую ўжо намі “Голубую луну”. Вось дзяўчынка яго ўзросту, глытаючы словы, ляпеча:

Я буду места, места, места неё
Твая невеста, цесна, цесная-ё!

(У сэнсе, “честна, честная-ё”.) Побач, канечне, бацька, маці, слухаюць сваё таленавітае не па гадах дзіцятка з замілаваннем, з пяшчотаю. Ганарацца за яго, і за сябе таксама, за тое, што вось з маленства прывучаюць свайго нашчадка да культуры.

### 3.

*Якая зорная*
*Цішыня!*
*Якая зорная*
*Вышыня!*
*Якая зорная*
*Глыбіня!..*
*(А.. Пісьмянкоў, “Вяртанне ў Браслаў”)*

Цёплая вераснёвая ноч.

Мы з Алесем Пісьмянковым ляжым каля вогнішча на беразе возера Струста. Зорнае неба над намі, плёск хваляў за намі, утульнае полымя перад намі...

Толькі што мы папарыліся ў лазні, наварылі юшкі, насмажылі баравікоў на патэльні, сала на дубчыках, напяклі ў прысаку бульбы. Цяпер, наетыя і ўлагоджаныя, п’ем патроху гарэлку, курым, прыпальваючы цыгарэты ад вугельчыкаў, і размаўляем.

Ідылія! Усё было б зусім цудоўна, каб не тэма размовы.



Гэта варта было перціся сюды, на край Браслаўшчыны, у глухія запаветныя мясціны, каб прывезці з сабою ўсё тое, ад чаго марылі пазбавіцца ў Мінску, калі выбіраліся на прыроду! Але ж мы такія: у лесе – пра баб, з бабамі – пра лес...

Гутарым мы нават не пра любімую да абрыдласці літаратуру (што было б хоць трохі лагічна), а пра... палітыку. Тэма: дык ёсць усё ж дыскрымінацыя беларускай мовы, ці няма?

**Алесь**. Калі і ёсць, дык няўжо большая, чым у любой іншай рэспубліцы былога Саюза? Аднак толькі ў Беларусі мы маем тое, што маем. У цябе ж у аповесці “Вёска” ёсць выдатны маналог – “ды ці любяць яны самі сябе, гэтую мову сваю?”! Правільна сказана! Трэба любіць і хацець, і тады ўсе дыскрымінацыі бяссільныя. Вось мы з табою любім прыроду, рыбалку і Браслаўшчыну, захацелі гэтага – калі ласка! Ляжым і выпіваем. Хоць тут і запаветная зона, забаронена збіраць грыбы, лавіць рыбу і паліць вогнішча... Нас гэта спыніла? Тое самае і з моваю. Захацелі б вельмі моцна заўтра ўсе рабочыя трактарнага завода загаварыць па-беларуску – і так і было б! І ўсе размовы пра “дыскрымінацыю” адпалі б за непатрэбнасцю!

**Я**. Добра. Вось табе два прыклады. З мінімальнымі каментарыямі. Высновы рабі сам. Першы – наша мазырская раённая газета. Колькі яна існуе, столькі выходзіла па-беларуску. Цяпер, пры двухмоўі, вядома, скрозь па-руску. Акрамя адной рубрыкі – ведаеш, такія спачуванні ў рамках на апошняй старонцы? “Калектыў смуткуе з прычыны...”, “выказваем спачуванні ў сувязі з трагічнай смерцю...” Адно гэта па-беларуску! З чым у чалавека пачне атаясамлівацца беларуская мова?

**Алесь** (*чамусьці ўзрадавана*). З горам, з няшчасцем!

**Я**. Дык тут хоць аддадзім належнае творчаму падыходу... А вось другі прыклад. Як ты растлумачыш

мне дакументальны фільм “Дарога ў нікуды”? У прыватнасці эпізод, дзе дыктар за кадрам абвяшчае: “В аккупированном Минске находилось отребье, носящее псевдонациональные костюмы и умудряющееся даже издавать книжонки, написанные на местном наречии”?

**Алесь**. Не можа быць!

**Я.** Растлумач мне ўсяго дзве рэчы: чаму касцюмы не проста нацыянальныя, а псеўданацыянальныя? Па якіх прыкметах гэта вызначаецца? І што за “местное наречие»? Мінскае? Магілёўскае? Ці ўсё ж гэта тое самае “наречие”, на якім у час вайны пісалі Купала ў Маскве, Колас ў Ташкенце, Мележ – у франтавым шпіталі, Шамякін – у акопах пад Мурманскам? Тое самае “наречие”, вершы на якім напісаныя ляжалі ў кішэнях прастрэленых гімнасцёрак Міколы Сурначова, забітага пры штурме Берліна, Змітрака Астапенкі – у Карпатах, Алеся Жаўрука – пры абароне Сталінграда? Сотняў і тысячаў іншых, што склалі галовы і за гэтае “наречие” таксама, каб рознае брыдоцце па ім не тапталася?

**Алесь**. Не маглі так сказаць па тэлевізары! Ты штосьці перабольшваеш.

**Я.** Пайшлі спаць, Алесь. Заўтра падымацца рана, чарвякоў капаць...

Недзе праз год тэлефануе Пісьмянкоў:

– Ну, паглядзеў я “Дарогу ў нікуды”... Ведаеш, ты казаў праўду там, каля вогнішча.

Якое вогнішча, які фільм, дарагі Алесь Уладзіміравіч! Столькі вады з таго часу сплыло, так даўно было тое, што, здаецца, стала няпраўдаю...



**4.**

Колісь жыў у нашай вёсцы такі Пятро Лапіцкі, па мянушцы Лапідон (мазырскія мянушкі ўвогуле асобная тэма; у нас у кожнага іх па тры, і ўсе адна перад адной брыдчэйшыя).

Быў ён каравачнік, г.зн. ездзіў на падводзе па вакольных вёсках і збіраў рознае рыззё, анучы – па нашаму караўкі, у абмен на пластылін, гліняныя свістулькі, іголкі-ніткі, насоўкі, хусткі... Чамусьці гэты ў прынцыпе важны занятак лічыўся да страшнага непрыстойным. Калі якая матка хацела прыпалохаць свайго нядатнага да навукі ёлупня, дык казала: “Гуляй, гуляй! Будзеш караўкі збіраць, як Пятро Лапідон”.

І з чым мы, малеча, маглі ўвязаць пачуты пазней у школе прыметнік “лапідарны”? Акрамя як з Пятром Лапідонам? Для мяне асабіста да самага апошняга часу гэтае слова было сінонімам расійскаму “топорный”, цяп-ляп зроблены, кандовы, нязграбны...

І вось аднойчы ў крытыцы на сваю аповесць “Нічые” бачу: “Гэтым лапідарным сказам Федарэнка хацеў сказаць...”

Я дзесяць разоў перачытаў сказ, вось гэты:

*“Адбываўся нейкі гістарычны нонсенс”.*

У чым тут лапідарнасць? Дзе нязграбнасць? Нарэшце здагадаўся праверыць на іншых:

– Вадзім, – спытаў у паэта Вадзіма Спрынчана, – як ты разумееш слова лапідарны? Толькі не па слоўніку. Я ведаю – гэта кароткі, ёмісты сказ і т.п. Уяві, што ты не ведаеш слоўнікавага значэння. Чыста суб’ектыўна – якія эмоцыі гэтае слова выклікае?

–Толькі станоўчыя.

– Ты ўпэўнены?

– Абсалютна.

“Вось так, – падумалася мне. – А ты ўжо хутчэй

наязджаеш на бязвіннага крытыка – замест таго, каб выпраўляць уласнае невуцтва...”

**5.**

Памёр Алесь Пісьмянкоў. І ў некралогу на яго раптам кінулася ў вочы, рэзанула па жывому:

“...Мы страцілі паэта з ёмістым мысленнем, які пісаў лапідарна...”

І ўсё ва мне ўзбунтавалася – не, не і не! Хай лепш я застануся невукам, хай буду больш давяраць дзіцячай асацыятыўнасці і сваім эмоцыям, чым цвярозаму сэнсу, – але гэтае слова я ніколі не палюблю.

І яно не павінна стаяць ні ў некралогу на майго сябра, ні ў будучым некралогу на мяне.

**6.**

Памінаючы Пісьмянкова, мы з яго цёзкам, Алесем Наварычам, дагаварыліся да:

– Калі памірае нехта з блізкіх, дарагіх людзей, дык нам, хто яшчэ ТУТ, павінна жыцца лягчэй, бо яны ТАМ за нас каго трэба папросяць.

Ды ці то забыўся пра нас Алесь, ці то не надарылася магчымасці закінуць за нас слоўка, але вось толькі ўсім нам, яго блізкім, не лягчэй, а чамусьці ўсё цяжэй...

*2004г.*



## СЕЧКА -4

**1.**

Можна марыць пабудаваць дом, можна адчуваць у сабе талент дойліда, архітэктара, – але калі ты будзеш блытаць “пілу з напільнікам” (як кандыдат у лаўрэаты Нобелеўскай прэміі пісьменнік-філосаф З.Мяражкоўскі), сякеру з секачом, малаток з малаткарняю, дык, само сабою, мара гэтая ніколі не здзейсніцца.

Каб пабудаваць дом, хату, хлеў ці нават сабачую будку або звычайную шпакоўню, трэба ведаць, як абыходзіцца з самымі элементарнымі прыладамі працы: сякераю, рубанкам, малатком, цвікамі і г.д.

Тоесамаеўлітаратуры.Можнамецьбагатыжыццёвы вопыт, можна вывучацца ў розных універсітэтах, можна пакутваць душою – словам, адчуваць у сабе ўсе неабходныя для пісьменніцкага рамяства атрыбуты. Але вось жа! – чамусьці не атрымоўваецца не тое што прыгожы архітэктурна-літаратурны палац, а нават касабокая, прымітыўная “сабачая будка”. Прычына адна – няведанне, як карыстацца прыладамі працы. У нашым “пісьменніцкім” выпадку гэта мова. І як цясляр, сталяр, будаўнік валодае сякерай, рубанкам, кельмаю, так і пісьменнік павінен старацца да аўтаматызму авалодаць моваю.

Пасля арміі давялося мне працаваць нейкі час у

вясковай, багатай на кніжны фонд бібліятэцы. Быў ужо сякі-такі жыццёвы вопыт, была начытанасць, было неадольнае жаданне "выйсці на людзі" з якім-небудзь, хоць і малюсенькім, мастацкім творам...

І разам з тым нават прыблізна не ўяўлялася, як гэта робіцца. ( "З чаго пачаць?!" – адчайна ўсклікваў у адным са сваіх ранніх вершаў А. Сыс.)

Канечне, у чалавека ёсць лёс. Ёсць над ім Бог, які апякуецца, каб чалавек пайшоў менавіта такім, і ніякім іншым шляхам. Бо нездарма ж у хвіліны найбольшых душэўных пакутаў выкалупнуўся з паліцы не першы, а менавіта другі том Яна Скрыгана. І, канечне, нездарма адкрыўся на "Думках аб мове", "Чарах слова", "Майстэрні"...

Адчуванне было, нібыта мяне ўзялі за руку і вывелі з цёмнай, непралазнай глушэчы, дзе я безнадзейна блукаў, на сонечную паляну, адкуль ужо рукой падаць і да жаданай, цупкай дарогі.

**2.**

*"Кожны народ павінен*
*аберагаць сваю мову больш,*
*чым граніцы, бо мова –*
*галоўная яго абарона, куды*
*больш моцная, чымся ўсе яго*
*цытадэлі".*
(Ірландскі вучоны Дэві)

У снежні 1986 года ў новым тады Доме творчасці "Іслач" адбываўся першы пасля "Каралішчавічаў" семінар маладых літаратараў.

Гэта было штосьці незвычайнае. Дзесяткі выдатных пісьменнікаў, жывых класікаў, вядомых нам раней



толькі па школьных ды універсітэцкіх падручніках... В. Быкаў, І. Шамякін, П. Панчанка, Н. Гілевіч, І. Чыгрынаў, Б. Сачанка, Г.Далідовіч, С. Грахоўскі, І. Навуменка... І іх можна бачыць, можна атрымаць ад іх аўтограф, можна нават, калі пашэнціць, пачуць з іх вуснаў ацэнку і сваёй творчасці!

У фае – не праціснуцца. На сталах поўным ходам распрадаюцца беларускія кнігі. Найдаўжэйшая чарга туды, дзе творы В. Быкава. Прыткнуўся у самы канец той чаргі і я... Але тут на суседнім стале ўвагу маю прыцягнуў прыгожы двухтомнік у супервокладцы. Ян Скрыган. Кнігі толькі-толькі выйшлі. І якія ж дарагія! Больш за пяцёрку. Усе мае студэнцкія зберажэнні разам з кашальком. Наўрад ці, прызнаюся шчыра, купіў бы іх, каб раптам спіною не адчуў на сабе нечы пагляд. Паварочваюся – каля сцяны... мой кумір уласнай персонаю! Такога ж, як я, невысокага росту, стаіць і назірае за мной праз акуляры. Цяпер, калі прайшло амаль дваццаць гадоў, я магу памыляцца, але тады падаліся мне ў тым позірку і просьба, і надзея, і гонар, што хтосьці можа цікавіцца не адным Быкавым, а яшчэ і такім дарагім двухтомнікам...

Канечне, усе сумненні разам адпалі. Я ўзяў кнігі і пачаў расплачвацца.

– Вы праўда збіраецеся купляць? – сказаў Ян Аляксеевіч. – Мо вы чыталі мяне раней?

– Чытаў, і даўно вас вельмі люблю.

Прыязная ўсмешка знікла з яго твару.

– Як гэта "люблю"? – суха спытаў Скрыган. – Можа, вы хацелі сказаць, "даўно люблю вашую творчасць"?

Вось тут і даляцеў да мяне, як да Ю. Алешы некалі, "гук невядомага інструмента", якім карысталіся тыя, для нас ужо легендарныя, пісьменнікі страшэнна далёкіх 20-х. Перада мною стаяў чалавек з іншага свету, з ім нельга было гаварыць так, як мы, пачынаючыя

літаратары, адзін з адным гаварылі. Я зразумеў, што значыла для яго нават адно-адзінае няправільна, нязграбна ўжытае слова. Дзевятнаццаць год пакут, арыштаў, допытаў!.. Міжволі зразумееш цану Слова, якое можа выратаваць, а можа і безнадзейна пагубіць.

Я зрабіў чарговае глупства – пачаў апраўдвацца.

– Прабачце, Іван Аляксеевіч, я не зусім добра ведаю родную мову...

– Як так?!

– Бачыце, я родам з Мазыршчыны, у нас іншае маўленне, і лексіка...

– Няўжо такая кепская мова? – яшчэ больш строга спытаў Скрыган. – А ваш зямляк Мележ як пісаў на ёй?

Я не ведаў, куды падзецца ад сораму. Я думаў, чалавек будзе рады, што вось купілі такую дарагую яго кнігу, і за гэта прапусціць міма вушэй любую недарэчнасць, тым больш нявінны моўны "ляп"...

Вядома ж, тонкі псіхолаг Іван Аляксеевіч выдатна зразумеў сітуацыю:

– Хадземце да мяне ў пакой. Падпішу кнігі. І дайце, калі ласка, пачытаць штосьці сваё.

## 3.

Назаўтра раніцаю ў сталоўцы Ян Аляксеевіч аддаў мне апавяданне. Акрамя рукапісу ў папцы яшчэ ляжаў ліст.

– Насупраць аднаго слова я нават паставіў плюсік, – сказаў ён. – Вось гэтае – "выдаўжыўшы" ногі. Ніколі раней такога не чуў. А казалі, кепская мова...

Апавяданне ўсё спрэс было пакрэслена алоўкам – які халодны душ пасля "маладосцеўскай" пахвальбы! І нічога ўжо нельга паправіць – вось-вось павінен выйсці часопіс менавіта з гэтым апавяданнем.



У вялікім, на цэлую старонку, напісаным дробным, вельмі выразным і прыгожым каліграфічным почыркам пісьме было амаль усё тое, што я чытаў у "Майстэрні", у "Чарах слова", у "Думках аб мове", у "Ненадрукованых апавяданнях"... Усё тое, што, як думалася раней, я завочна засвоіў на "пяць". Аказваецца, мала тэорыі, трэба практыка і практыка... Плюс упартасць.

Ян Скрыган цалкам справядліва адзначаў расцягнутасць апавядання, слабы дынамізм, рыхлую кампазіцыю, невыразнасць галоўнага героя... "І потым: няма такой думкі, такой з'явы, такога эпізоду, якія нельга было б выказаць на 6 – 7 старонках. Тады навошта Вам для таго ж самага спатрэбілася ажно 16 старонак?.."

(Ліст той, запабягаючы наперад, пад час летніх канікулаў, калі нашыя інтэрнатаўскія пакоі засяляліся абітурыентамі, укралі – укралі разам з падпісаным двухтомнікам, куды яно было ўкладзена, разам з новымі румынскімі туфлямі, разам з масіўным залатым пярсцёнкам, які я знайшоў на вуліцы і збіраўся прадаць цыганам на Батанічнай... У шафе валяліся толькі дзве супервокладкі. Ніякіх іншых кніг больш не ўзялі, а было іх у пакоі каля паўсотні, і з аўтографамі таксама.)

У той жа дзень разбіралі нашыя апавяданні. "Прэзідыум" на сцэне занялі вядомыя пісьменнікі. Мы, пачаткоўцы – у зале. Хаця мушу сказаць, што слова "пачаткоўцы" не дужа нас характарызавала. Публіка там сабралася яшчэ тая. Крыўдна, непрыемна было слухаць, як некаторыя маладыя (ніхто з іх так і не застаўся потым у літаратуры) нападалі чамусьці менавіта на Яна Скрыгана.

– Колькі можна насіцца з гэтай моваю! Мова – другаснае! Задача для нас цяпер – вярнуць чытачоў, якіх вы, старэйшыя, паспяхова ад сябе адвярнулі!

Змест, сюжэт – вось галоўнае! Твор павінен быць нацыянальны на форме і нацыяналістычны па змесце! (Так дазвалялася ўжо тады гаварыць.)

Ян Аляксеевіч раз за разам мусіў падымацца і адказваць на падобныя закіды і рэплікі. Ён выглядаў разгубленым. Яшчэ б! Тлумачыць будучым пісьменнікам такія рэчы, як неабходнасць валодання мовай!

Нехта, здаецца, Яўген Лецка, назваў маё прозвішча. Ян Аляксеевіч ажывіўся.

– А тут якраз адваротная сітуацыя. Нібыта і мову ведае, нібыта і сюжэт стараецца выбудаваць... Але колькі ж лішноты! З шаснаццаці старонак там варта пакінуць максімум шэсць...

– Я згодзен, згодзен! – закрычаў я з залы, спалохаўшыся, што зараз пачнецца публічны разбор, ці, лепш сказаць, разнос, як у “Ненадрукованых апавяданнях”. – Я ўсё зразумеў, папраўлю!

– А вы не спяшайцеся, – марудна азваўся Уладзімір Дамашэвіч. – Вы вельмі лёгка з усім і з усімі згаджаецеся. – І да Скрыгана: – Апавяданне чытаецца натуральна?

– Чытаецца натуральна.

– Дык навошта рэзаць?

Ізноў паляцелі з’едлівыя рэплікі з залы – ўжо ў маю абарону... Ян Аляксеевіч сумеўся.

– А пісьменнік будзе, – сказаў ён крыху недарэчы. – Добры пісьменнік! (Прашу прабачэння за нясціпласць, але менавіта гэтыя словы прагучалі.)

З самымі супрацьлеглымі думкамі, з поўнай кашай у галаве вяртаўся я з семінара. Не тое, што мая вера ў праваце любімага пісьменніка пахіснулася – не; проста паралельна ўзнікла яшчэ адна, я б назваў яе – “дамашэвіцкая” вера... А самае галоўнае, прыкра было, што не скарыстаў моманту, не сказаў Яну Аляксеевічу тых слоў, якія павінен быў сказаць, не пакланіўся яму, не падзякаваў за “кніжную” навуку, не выпіў з ім, урэшце, па сто грам... Мо калі б я расказаў яму хоць кораценька пра сваё жыццё, пра тое, што менавіта ў яго творах знайшоў для сябе паратунак – мо ўсё інакш склалася б? А цяпер у яго памяці я застануся адным з тых крыкуноў з залы; цяпер ён мяне, мабыць, увогуле не стане чытаць.

## 4.

Другая сустрэча адбылася гадоў праз шэсць, на нейкай вечарыне ў Доме літаратара. Я, малады, шчаслівы, крыху п’яны, трымаючы за руку каханую дзяўчыну, прабіраўся між крэслаў, шукаючы, дзе сесці. Раптам мяне паклікалі... Ян Скрыган. Ані не змяніўся знешне. Смяецца.

– Ян Аляксеевіч?! Няўжо вы помніце мяне? Які я рады!

– Я таксама вельмі рад (і тут паправіў!), што вы незлапомны.

– Ян Аляксеевіч, дарагі...

– Я рэгулярна сачу за вашымі поспехамі ў друку...

– Ды якія яшчэ “поспехі”! – перабіў я і, каб змяніць тэму, прызнаўся: – А ведаеце, я не збярог ні кніг з аўтографамі, ні ліста... Укралі!

– Праўда? Як хацелася б, каб у нас у жыцці былі толькі такія страты. Для пісьменніка найвышэйшы гонар, калі яго кнігу крадуць, ці не здаюць у бібліятэку... Што да ліста – дык мо яно і добра? Што ён прапаў? Мо ў тым якісь сімвал?

– Дык шкада вельмі...

– Не шкада, а шкода, -- смеючыся, ізноў паправіў Скрыган. – А я напішу вам новы!

Не напісаў. Праз год яго не стала. І я ўжо ніколі не

даведаюся, як ацаніў бы ён, скажам, аповесць "Нічые", дзе я "ўрываюся ў чужыя палесціны" – апісваю любыя яго сэрцу Слуцк і Случчыну...

У яго апавяданне "Дакументальная рэвізія", а ў мяне раман "Рэвізія"... Галоўны герой рамана – Труханoвіч, а родная вёска Яна Скрыгана – Труханавічы...

**5.**

Увогуле, хацелася б крыху паразважаць на тэму пісьменніцкіх "пераклічак".

Адкуль бярэцца, адкуль узнікае гэтая нябачная духоўная сувязь паміж самымі рознымі літаратарамі, аддаленымі адзін ад аднога пакаленнямі, стагоддзямі – у часе, і тысячамі, дзесяткамі тысяч кіламетраў – у прасторы? Няўжо праўда, што існуе нейкае пятае вымярэнне, дзе думкі могуць матэрыялізоўвацца і жыць самі па сабе, незалежна ад таго, хто іх спарадзіў? І калі хоць выпадкова, хоць на кароценькі міг у тое вымярэнне патрапіць, дык...

Ці прасцей усё? Ці проста некалі, недзе, ад кагосьці штосьці пачуў, убачыў, прачытаў, запомніў – а потым забыўся, і цяпер выдаеш як уласнае?

Была ў мяне некалі аповесць "Такое кароткае лета". Назва ўзялася вядома адкуль – з прыпеву папулярнай у тыя гады "папсовай" песні. За што я і быў пакараны. Многія наракалі: маўляў, толькі пачынаеш чытаць, так мелодыя трывала, навязліва засядае ў галаве і ўвесь тэкст ідзе пад рэфрэн песенькі, бы пад стук малатка за сцяною. Паэт Мікола Мятліцкі зрабіў наступнае: паківаў мне пальцам і сказаў:

– Асцярожней з загалоўкамі, хлопцы! У Раісы Баравіковай ёсць верш – "Такое кароткае лета"!

Як?! – хацеў усклікнуць я. Але не ўсклікнуў. А



толькі задумаўся. Мала верагодна, каб Раіса Баравікова "пазычыла" радок з той самай крыніцы, што і я. Хутчэй наадварот: аўтары песні ў яе "пазычылі". Тады чаму толькі радок, а не ўвесь верш? Ці, можа, ёсць яшчэ нехта трэці (пяты, дзесяты...), хто нашмат раней прамовіў гэтыя прыгожыя словы – "такое кароткае лета" – і яны перайшлі ў сваё пятае вымярэнне, і зажылі аўтаномна, і могуць наведваць цяпер галовы новых гаспадароў, не пытаючы дазволу ў ранейшых?..

Спатрэбілася паўтара гады, каб зразумець, што непакоіць мяне ў прыпеве цудоўнай песні на словы Р.Казаковай:

Переходы, перегрузки,
Долгий путь домой,
Вспоминай меня без грусти,
Ненаглядный мой.

Дык гэта ж… назва апошняй прыжыццёвай кнігі светлай памяці Васіля Уладзіміравіча Быкава! Не верыце? Калі ласка: В. Быкаў. Доўгая дарога дадому. ГА БТ "Кніга", Мн. 2002.

У Івана Антонавіча Брыля кніга мініяцюраў называецца "Праблескі", а ў выдавецтве "Посредник" у 1895 годзе выходзіў зборнік "Проблески"...

Уладзімір Уладзіміравіч Набокаў (які пакінуў даследчыкам сваёй творчасці столькі загадак, што ста пакаленням не разгадаць), з'едліва заўважае:

"...Лёгкі зрух у спектры значэнняў замяняе "Унесенных ветром" (украдзеных з "Цінары" Доўтана) на "Отброшенные розы" (украдзеныя з таго ж верша)..."

У такім разе адкажыце мне: хто б цяпер ведаў пра таго Доўтана з яго "Цінараю" (што гэта ўвогуле за слова такое?), каб не геніяльны раман М. Мітчэл?

### 6.

Таксама лепш цытаваць па-руску: прымаўка “Одним миром мазаны”. “Миро” – духмяны алей, які варыцца патрыярхам раз у чатыры гады і, зварaны, дадаецца па меры неабходнасці ў стары... Гэта так, для даведкі. Цікава іншае: «миро» слова запазычанае (з грэцкай) і “метро” запазычанае (з французскай). Тады чаму ў першым выпадку мы смела скланяем, а ў другім – не? Чаму б нам не прыслухацца да таго ж Івана Аляксеевіча Скрыгана, які сорак гадоў назад пісаў:

“Усё трымаем у чужаземных такія словы, як “паліто”, “піяніна”, “кіно”, бо не дазваляем іх скланяць, а ў народзе іх усё роўна скланяюць”...

Добра, хопіць. Згодзен з вамі. Усё гэта так неістотна! Вакол бушуюць цыклоны, цунамі, на сонцы выбухі, магнітныя буры, ідуць лакальныя войны, грымяць тэракты, свет перапоўнены катаклізмаў... А мы, купка пісьменнікаў, знайшлі праблему: скланяць ці не скланяць слова “метро”!

Успамінаецца эпізод з аповесці Мапасана “На вадзе”, пераказаны, дарэчы, Іванам Буніным у сваім апошнім апавяданні “Бернар”.

“Чысціні на яхце ён (Бернар) пільнаваўся да таго, што не цярпеў нават кропелькі вады на якой-небудзь меднай частцы...”

“Ды якая карысць чалавецтву, – пытаецца ўжо Бунін, – магла быць у тым, каб Бернар адразу ж кідаўся выціраць тую кроплю? А вось ён выціраў яе. Навошта, чаму?”

“Мы гэтага не ведаем. Але мы павінны ведаць, што ўсё у гэтым незразумелым для нас свеце мае нейкі сэнс, нейкі высокі Божы намер, скіраваны на тое, каб у гэтым свеце стала хоць крышку лепш”.

*2005 г.*



## СЕЧКА-5

### 1.

Іслач-86. Семінар маладых пісьменнікаў. На пытанні адказвае ні многа ні мала Васіль Быкаў.

Перабудова, галоснасць, Гарбачоў... “Ускорение, брат, ускоренье!..” (Трэба быў нам той Гарбачоў. Замест таго, каб пакарыстацца выпадкам ды спытаць штосьць людскае, сапраўды важнае, што магло б дапамагчы пасля ў жыцці і ў літаратуры.)

Запомнілася:

– Чаму на Вас апошнім часам так напалі крытыкі?

– Хлеб з таго маюць.

– У Вашым рамане “Кар’ер” даказваецца існаванне Бога. Вы самі верыце?

– Уся сусветная гуманістычная літаратура, па вялікім рахунку, падпарадкавана аднаму: пошукам Бога ў сабе і вакол сябе. Я лічу, што ў кодэксе камунізма шмат агульнага з пастулатамі хрысціянства.

Тут голас У. Дамашэвіча з дальняга кутка:

– Васіль Уладзіміравіч, калі Вам лягчэй пісалася: цяпер, калі Вы ўжо ў зеніце славы, ці ўпачатку творчай дарогі?

Адказ прагучаў цікавы. Але не менш цікавымі былі і паводзіны Быкава. Ён хутка падняўся і зашпіліў пінжак.

– Уладзімір Максімавіч – рэдактар маёй першай

кнігі, – патлумачыў. – Без яго я наўрад ці зрабіўся б пісьменнікам.

"Колькі ж гадоў Уладзіміру Максімавічу?! – шапнуў мне, помню, Валодзя Граўцоў, так, так, той самы цяперашні спецыяліст па курсах валют. Але я не адказаў. Мяне іншае ўразіла. Якая павага пісьменніка да рэдактара! Як да колішняга Настаўніка, перад якім усе здымалі шапкі... Які сімпатычны, перайманння варты рух! Ну, хто б асудзіў Быкава, калі б ён не падняўся?

А адказ быў такі:

– Канечне, лягчэй пісалася напачатку. Была навізна, чаканне чагось незвычайнага, было творчае трымценне і розныя ружовыя мары. Цяпер усё ведаеш наперад. Ну, напішацца новы твор, ну, надрукуюць у нас, выйдзе кніга, потым перакладзецца ў "Нёмане", потым у Маскве ў "Советском писателе" кніга выйдзе, ну, з'явіцца некалькі дзяжурный рэцензій у "ЛіМе" і ў "Литературке", ну, на замежныя мовы перакладаць пачнуць, на чарговую прэмію вылучаць...

І неяк да таго мнагавата налічыў Васіль Уладзіміравіч гэтых, і яшчэ іншых выдаткаў пісьменніцкай славы, што ледзь не дабіўся адваротнага эфекту. Будучыя творцы слухалі ды маталі на вус. "Нам бы калі-небудзь Вашыя клопаты! Ужо б мы!.."

**2.**

Такога, як В. Быкаў, і рэдагаваць лёгка, прыемна і ганарова, хоць і адказна, само сабою.

А вось іншая гісторыя. Я выпадкова стаў яе сведкам. У ранейшай рэдакцыі "Маладосці" ўпрошвае начальства таго ж У. Дамашэвіча, (загадчыка аддзела прозы): "Максімавіч, а мо падрыхтуйце?.. Ведаем, што слабізна, ды дужа важны аўтар..."



– Тады я павінен перапісаць за гэтага важнага аўтара кожнае слова, – сказаў Уладзімір Максімавіч, вагаючы на далоні ("сэрца графамана") таўсценную папку. – Зрабіцца яму сааўтарам. А я не хачу быць сааўтарам.

Дык і сааўтарам быць яшчэ не горшы варыянт. Горшы – гэта калі прысунецца ў рэдакцыю які-небудзь Ідыёт Паліфамеевіч, бездар, крыкун, скандаліст і паклёпнік. Замест таго, каб падзякаваць рэдактару ды засесці ціхенька за школьную граматыку, у вышэйшыя інстанцыі бяжыць! Па тэлефоне "ананімна" пагражае! Сурокі хоча накінуць! У суд абяцае падаць! Дзяржаўныя ўстановы, адрываючы людзей ад важных спраў, сваімі бесталковымі скаргамі завальвае!

Во якія ёсць аўтары. І ў карак такому не дасі, бо на афіцыйнай жа пасадзе, пры выкананні... Мусіш прыязна ўсміхацца, цярпліва тлумачыць:

– У вас тут памылка на памылцы. Вось вы пішаце: я гасцяваў у сваёй цётачцы. Трэба – у цётачкі.

– А хто вырашае, як трэба? А можа, мне падабаецца так! А можа, у мяне мова такая: бруістая, крыністая, вячыстая! Якое вы, рэдактары, маеце права ўмешвацца ў аўтарскую жывую мову...

Маем. На той простай падставе, што воляю лёсу апынуліся ў гэтых крэслах. На той падставе, што пакуль не мы да цябе, а ты да нас ходзіш. Прычым асабіста я вельмі дапускаю, што ўсё можа лёгка памяняцца, і ўжо заўтра я да кагосьці прыду, пацвердзіўшы старую, як свет, і простую, як усё мудрае, сентэнцыю:

Ты рэдактар – я "дурак",
Я рэдактар – ты "дурак".

Грубавата, затое справядліва.

## 3.

Іван Пташнікаў і Адольф Барановіч, рэдактары прозы, сядзелі ў адным "палымянскім" кабінеце, я – у сумежным. Чыталася мая аповесць "Вёска". З-за сцяны чуваць не толькі кожнае слова, а нават шорханне старонак, якія перагортваюцца...

Без фальшывай сціпласці (хаця чым тут хваліцца?) скажу, што многа чаго ў жыцці перанёс. Але мала што можа параўнацца з кашмарам, калі пры табе чытаецца твой уласны твор, няважна, уголас ці аднымі вачыма.

– Піша, – гудзе бас Івана Мікалаевіча, – героя выклікалі ў органы на бяседу! За сабраным сталом бывае бяседа, а ў органы выклікаюць на гутарку!

Чырвоны, бягу на двор курыць. Вяртаюся – зноў чую:

– Чаму ён (г.зн. я) піша "даведкавы аддзел"? Хіба ён кажа "гарэлкавы аддзел"? (Адольф Усцінавіч з веданнем справы падхіхіквае.) Упэўнены, што ён кажа "гарэлачны аддзел"!

Нарэшце праз тыдзень пакуты мае... хацеў напісаць скончыліся, ды не – працягваюцца. Трэба зняць заўвагі.

– Што гэта за сказ узроўню "Чырвонай змены"? – пытае Пташнікаў.

– А Ікс так піша, – абараняюся.

– Навошта такая наварочаная канструкцыя? Вы ўяўляеце, як такімі словамі можна расказваць гэта, дапусцім, блізкаму сябру?

– А Ігрэк падобныя канструкцыі дапускае...

Іван Мікалаевіч памаўчаў.

– Гэтае слова як сюды патрапіла?

– У Зэта вычытаў...

– Ведаеце што, дарагі, – сказаў Іван Мікалаевіч і склаў акуратна аркушы, – калі ў вас арыенціры



на X, Y і Z , тады я зараз падпісваю аповесць, і шчаслівага плавання. Калі ж вы сапраўды сабраліся стаць пісьменнікам, выберыце сабе, калі ласка, іншых куміраў.

У Адольфа Усцінавіча таксама знайшліся заўвагі – ён чамусьці вельмі не любіў чужых дыялектных слоў, нават апраўданых (затое направа і налева ўжываў свае, мядзельскія). Сказ гучаў так: "Можна пакласці колькі *семак* на гультая ката, які спіць... тады куры асцярожна склёўваюць іх..." Меліся на ўвазе семкі са сланечніка.

**Адольф Усцінавіч** (*размахваючы слоўнікам*). Што за семкі? Зярняткі! Або сланечнікі, або гарбузікі!

**Я**. Зярняткі жыта бываюць! У яблыках, у грушах зярняткі! Сланечнік – гэта "кола"! А гарбузік – гэта малы гарбуз! А ўсярэдзіне – семкі!

**Адольф Усцінавіч**. Тады – семячкі!

**Я**. А без ласкальна-памяншальнага? Без русізмаў? Ну, чым кепска: у мяне жменя *семак*, адна з іх – *семка* жаночага роду, я даю табе *семку*...

Днямі маглі на такія тэмы спрачацца. І не балелі ж галовы ні пра тыражы, ні пра падпіскі, ні пра фінансаванне, ні пра запас твораў у рэдакцыйных партфелях.

## 4.

Гады два, калі не больш, вёў я ў газеце "Звязда" рубрыку "Конкурс кароткага апавядання". Прыносіць свой твор і Адольф Барановіч. Сціплы, ветлівы, добранькі.

– Пачытай як-небудзь, Андрэй Міхайлавіч... Толькі, крый Божа, не падумай, што я дзеля нейкіх прэмій! Ніколі не атрымліваў іх і не хачу. Ведаю, што не надрукуеце, але...

Неўзабаве з’яўляецца ў газеце апавяданне. У Адольфа распрамляюцца плечы. Адольф бурчыць:

– Ну і прадмову напісаў. З такой прадмоваю на якую прэмію можна разлічваць...

У канцы года складаю спісак прэтэндэнтаў, ёсць там і прозвішча Варановіч. Крывіцца Адольф:

– Дадуць якое трэцяе месца. Лепш бы ўжо нічога...

Даюць першае месца. Зноў не дзякаваць Богу!

– Капейкі заплацілі. Каб ведаў, не звязваўся б.

– Слухай, – кажу, – май ты сумленне. Напачатку ж за шчасце было ўсяго толькі надрукавацца...

– А ты мне ўказвай! Сынок! Многа на сябе бярэш! Я, калі хочаш ведаць, такіх прэмій варты!.. – і панесла, і паперла.

Назаўтра прыходжу на працу, а на стале – у рамачцы пад шклом, каліграфічнай мастакоўскай вяззю выпісаны, чорнай тушшу акуратненька абведзены – верш.

Хоць мы і прапітыя,
Ды таленавітыя.
Гэта праўда, а не блеф:
Я – А.В., а ты – А.Ф.!

Ну як крыўдаваць на такога чалавека?

**5.**

У крамах я звычайна стараюся не пазіраць на цэннікі, каб лішні раз не раздражняцца. Не з-за лічбаў на іх, а ад здзеклівага перакладу. Мне ўвесь час здаецца, што гэта робяць знарок. Нпр., рускае слова “изюм”. Ні разу не бачыў, каб яго пераклалі проста – *разынкі*, абавязкова напішуць – *разінкі*, *рызінкі*, *рэзінкі* або, як у



адным гастраноме – *гумкі* (раз ужо “разінавы” корань).

Цікава, хто адказвае за змест на гэтых цэнніках? На афішах, абвестках, этыкетках, упакоўках, рэкламных плакатах, расцяжках? (Зразумела, у першую чаргу нас цікавіць беларускамоўная прадукцыя такога кшталту.) Павінны ж быць нейкія рэдактары, ці карэктары, ці іншыя спецыялісты, якім можна было б у выпадку сумленнай працы выказаць падзяку, выпісаць прэмію – і наадварот?

На рэкламных патрыятычных шчытах “Квітней, Беларусь”, расстаўленых па ўсім Мінску, пільныя, ды проста пісьменныя грамадзяне адразу заўважылі памылку: адсутнасць коскі пасля слова “квітней”. Пайшоў розгалас. З-за нейкай маленькай, як пісала “Камсамолка”, “закорючки” усчалася ледзь не цэлая кампанія. Званілі у рэдакцыі газет, на радыё і тэлебачанне, слалі паштовыя і камп’ютэрныя пісьмы... У адсутнасці знаку прыпынку (паказальны факт для нас – пісьменнікаў і рэдактараў) людзі адчулі элементарную непавагу да сябе. І да сваёй Радзімы, якую сапраўды хацелася б бачыць квітнеючай. Іх цалкам справядліва абурыла гэта. Ёсць рэчы, з якіх нельга глуміцца.

“Кампанія” дала плён. Прынамсі, на некаторых шчытах коска з’явілася. Газеты ўзрадавана адзначылі гэтую невялічкую арфаграфічную перамогу – як перамогу культуры над бескультур’ем – і супакоіліся. Ніхто не заўважыў, ці заўважылі, ды прамаўчалі, “каб не дражніць гусей”, што на шчыце засталіся яшчэ дзве памылкі, не менш грубыя, чым прапушчаная коска: адсутнасць клічніка ў канцы і адсутнасць кропкі над *і* ў малой літары.

У двух словах тры памылкі! І гэта дэманстратыўна выстаўлена на агляд тысячаў мінчан, а галоўнае, гасцей сталіцы! А цяпер уявіце, каб падобнае – тры

памылкі ў двух словах – дапускаў карэктар ці рэдактар якой-небудзь мільёнатыражнай газеты, або часопіса, або кнігі... Ды яго праз пяць хвілін звольнілі б за прафесійную непрыгоднасць, нават без выплаты “выходного пособия”!

### 6.

Дурная мода не ставіць кропку над маленькім *і* паступова прывяла да таго, што пішуць ужо замест *ў* складовага (кароткага) – проста *у*, замест *ё* – паўсюль *е*... Шкада на дзве кропачкі фарбы? Дык ёсць адваротныя прыклады. Над кнігарняй “Светач”, звярніце пры нагодзе ўвагу, у рэкламным слове БЮРГЕР над Ю красуюцца два ладныя, масіўныя і абсалютна непатрэбныя гэтай літары круглякі.

Як казаў той яўрэй, пазіраючы на вясёлку: ”На гэта дык у іх грошай хапае”.

Помню, біліся некалі супрацоўнікі старога часопіса “Нёман”, адстойваючы права захаваць *ё* хоць бы ў назве на вокладцы. Спрачаліся, упрошвалі, пагражалі, даказвалі пісьмова і вусна, што пісаць і вымаўляць Н*е*ман – гэта “моветон”, гэтак жа непрыгожа і непісьменна, як Велга замест Волга або Сёна замест Сена. Вынік? На вокладцы і ўнутры часопіса “*ё*” захавалася. А “в остальном”: як пісалі па-руску Неман, так і пішуць, як вымаўлялі дыктары – так і вымаўляюць. Адно глупства аўтаматычна цягне за сабою другое, і вось пачынае ўжо і па-беларуску гуляць Падн*е*манне замест Падн*я*монне, і г.д.

У адрозненне ад рускай, у нашай мове замена *ё* на *е* можа мяняць сэнс слова. Нпр., еду (*на чымсьці*) і ёду (*медыцынск.*), елка (*у лесе*) і ёлка (*навагодняя*), лес (*дрэвы*) і лёс (*наканаванне*), ёсць (*у наяўнасці*) і есць (*фізіялагічны працэс*)... Дарэчы, пра апошняе. У праграме тэлеперадач вырашылі ў знак павагі да памяці У. Караткевіча даць цытату з яго па-беларуску; далі:

“Быў. *Е*сць. Буду”.

Хто есць, каго есць? У метро на схеме размяшчэння станцый напісана: “ст. Магіл*ё*ўская”, але “ст. Маладз*е*жная”. На афішы ў калідоры Міністэрства культуры можна прачытаць: “Ус*е*й сям’*е*й на канцэрт”. Чаму адно слова так, а другое гэтак? Паспрабую адказаць: усё ад таго ж, як і ў выпадку са шчытом, і з Караткевічам, і з Нёманам на ўсіх наплявацельства. Нічога нам за гэта не зробяць. Будзем яшчэ цырымоніцца з гэтай т.зв. мовою. Знарок пішы, Ванька, як пішацца – сайдзёць, праглынуць, яшчэ і не такое глыталі!

### 7.

Далей проста неверагодны выпадак.

На канале БТ імпазантны мужчына ў модным касцюме і элегантная жанчына дзеляцца з гледачамі сваёй радасцю ад прыдуманай імі назвы новай тэлерубрыкі. З гонарам распавядаюць, як няпроста гэта было, бо патрабаваліся словы прыгожыя, лёгкія ў вымаўленні, якія неслі б нацыянальны каларыт і разам з тым напоўненыя былі глыбокім падтэкстам. Аказалася:

“Забыть тебя не имею силы”.

Поўная ўжо глухата? Звычайная лянота? Бо хіба цяжка было звярнуцца да вельмі прыстойнага перакладу гэтых радкоў С. Гарадзецкім:

“О детства уголок мой милый,
С тобой расстаться я не в силах”?

І ніякай логікай не вытлумачыць, ніякім розумам

не зразумець, чым не дагадзіў стваральнікам рубрыкі арыгінал:

“Забыць цябе не маю сілы”?

Па-мойму, лепш за іншыя варыянты. Проста і з густам. І выдумляць нічога не трэба.

**8.**

*“Магчыма, пісьменнік разумеў, што ў пэўным сэнсе гэты твор будзе развітальным, таму пісаўся ён з асаблівым эмацыйным настроем, калі ў аўтара ёсць адно жаданне – адкрыць усё тое, што складае таямніцу сэрца...”*

(З рэцэнзіі.)

Слова не мае патрэбы ў адвакатах. Яно здольнае само за сябе пастаяць. Вось яскравы прыклад.

...Перагортваю-перачытваю апошнюю прыжыццёвую аповесць аднаго пісьменніка, майго блізкага земляка – аповесць, урывак з рэцэнзіі на якую вынесены ў эпіграф гэтага раздзельчыка. Аповесць выйшла дзесяць гадоў назад, рэцэнзія – сёлета.

Калі браў твор з паліцы, цеплілася яшчэ ў душы смешная, дзіцячая надзея... Мо за дзесяць гадоў нешта ў аповесці само сабой памянялася? Мо, як у казцы Андэрсена, словы неяк перабеглі з аднаго месца на другое, перетасаваліся, сталі ў іншым парадку?..

Не. Усё тое ж. Усё чужое ж. За выключэннем некаторых геаграфічных аўтарскіх паправак. Так, М. Прышвін “шел по берегу *ручья* и под кустом заметил ежа… и тот свернулся и затукал”, а наш аўтар “ішоў берагам *Убарці* і пад карчом убачыў вожыка... і той згарнуўся і затупацеў”...



Гартаю. Вандрую па тэксце, па такіх да болю знаёмых з дзяцінства, са школы яшчэ прышвінскіх мясцінах... Шапочуць пад нагамі апалым лісцем салавухінскія бярэзнікі і асіннікі... То тут, то там на вочы трапляюцца

Павустоўскага паляны
І Нікіціна кусты...

Мне б спыніцца, пасядзець на пяньку, палюбавацца наваколлем, падзяліць разам з аўтарам яго захапленне і замілаванне. Ды нешта “не хоцца”, як казаў вялікі рускі пісьменнік Віктар Пятровіч Астаф’еў. Справа ў тым, што ўсё гэтае наваколле, любаванне і замілаванне садрана аўтарам з чужых твораў. Больш таго – у асноўным са школьных праграмных твораў. І смешна ад усяго гэтага, і сумна, і, нарэшце, цікава: няўжо за 10 (дзесяць) гадоў у дзесяцімільённай краіне так і не знайшлося нікога, хто б гэта заўважыў? Што робіцца з намі? З нашай моцнай некалі літаратураю, з нашымі рэдактарамі, карэктарамі, настаўнікамі, выкладчыкамі, крытыкамі, пісьменнікамі?.. Якога чытача мы хочам зацікавіць, калі адзін аднаму і нават самі сабе ўжо нецікавыя?.. Але хопіць. Далей не буду – мэта іншая. Мэта – паказаць, як слова за сябе помсціць.

У нашай аповесці:

“Прызнаюся: некалі з пагардай адносіўся да валуёў. Але неяк у адной мінскай кватэры, дзе любяць смачна паесці, паставілі на стол талерку з грыбамі. Усе яны ў талерцы былі розныя па велічыні, марынаваныя, смачныя...”

Дзядзька Мікола, дзядзька Мікола! Якія валуі?! Не мог беларус, а тым больш мазырскі паляшук, як вы, напісаць такое! І ні ў якай мінскай кватэры ніякіх валуёў перад вамі не ставілі. Я быў бы ўпэўнены ў гэтым, нават калі б і не ведаў салавухінскага, гадоў на 30 раней за вас надрукаванага:

“Признаюсь, что долгое время относился к валуям с пренебрежением. Но однажды в одном московском доме, где любят вкусно поесть, подали на стол грибы. Все они были ровные (у аднаго розныя, у другога роўныя – разбярыся тут) по величине... маринованные, вкусные...”

*2005 г.*



## СЕЧКА-6

### 1.

Гляджу фільм “Станцыйны наглядчык”, зняты ў 1974 годзе яшчэ тымі, сапраўднымі майстрамі.

Гляджу... Запісваецца на плёначкі памяці (на ўсялякі пажарны): прозвішча галоўнага героя – Мінскі, едзе ён у Пецярбург са Смаленска...

Гляджу – і не магу зразумець, дзе фальш? Чаму пры такой выдатнай акторскай гульні, пры тым, што рэжысёр (С.Салаўёў) ступае практычна след у след за Пушкіным, не прапускае ніводнага эпізода, фільм тым не менш не складваецца, нечага не хапае яму, ці – наадварот, штосьці лішняе?

Цягну з паліцы “Аповесці Белкіна”. Чытаю. На фільм, што ідзе паралельна, само сабою, забываюся... І – калі ласка, вось ён, дыяменцік мой! Вось дзеля такіх знаходак-залаціначак і задумвалася некалі гэтая “сечка”... У фільме актрысе, якая выконвае роль Дуні (М.Кушнірава), 25 гадоў. Хай выглядае яна на 20, хай на 18... А ў Пушкіна:

“...Девочка лет **четырнадцати...”**

**14**, спадары маралісты, а не 25 і нават не 16! Натуральна, узнікне фальш, калі жанчына пачне карыстацца мімікай, паводзінамі і лексіконам дзяўчынкі-падлетка. Больш таго – характар перастае класціся на сюжэт, не супадае з ім, як пры кепскім

дубляжы не супадае рух вуснаў са словамі (гэта на тэму, хто лепш валодае матэрыялам: рэжысёр або ўсё ж аўтар тэксту?). Дарослая дзяўчына, нябось, сто разоў падумала б, перш чым адважыцца на такую авантуру (усё кінуць-рынуць, збегчы з першым стрэчным), як робіць наша неразважлівая, зялёная Дунька. Канечне, Пушкін не горш за нас з вамі, сучасных "рэжысёраў-сцэнарыстаў", разумеў гэта. Інакш яму што, шкада яму было б пару-тройку гадкоў гераіні накінуць?

– Аляксандр Сяргеевіч, ну зноў вы за сваё... (Прыблізна так гэта адбывалася.) Бенкендорф лютуе... Давайце хоць на 17 пераправім? Не шкадуеце вы сябе, дык мяне пашкадуйце, старога рэдактара... Вы ж не забывайце, што гэта ў хрэстаматыі ўключаць, у праграмы школьныя, фільмы здымаць пачнуць... Навошта нашчадкам такая, як яны скажуць, падстава? Ну, 15 – і па руках! Менш не магу – хоць выклічце мяне на дуэль!

Можна таксама здагадацца, што адказаў на гэта далёка не заўсёды падатлівы Алесь Сяргеевіч.

**2.**

У тых жа "Аповесцях Белкіна" ёсць пра дуэль. Дуэль. Адзін страляе – міма! Другі – вырашае пакінуць за сабою права на стрэл да лепшых часоў.

Дык вось – "даўным-даўно, тысячу гадоў назад" сядзім у кавярні Дома літаратара: Глобус, я і адзін папулярны Фельетаніст. Гутарым пра масонаў, заадно пра фармазонаў... Лухта, карацей, розная.

– "Он фармазон, он пьёт одно, – кажа Фельетаніст, разглядаючы на святле фужэр, – стаканом красное вино". Умелі пісаць людзі! Выдатную характарыстыку даў Грыбаедаў Чацкаму.



– Дапусцім, – кажу, – не Грыбаедаў, а Пушкін, і не Чацкаму, а Анегіну. (Я ж яшчэ студэнт, усё гэта цяпер у другі раз пасля школы праходзіцца.)

Фельетаніст недаверліва гмыкае.

– Не, што-што, а расейскую літаратуру ён ведае, – няпэўна кажа Глобус; ці то хваліць мяне, ці то заводзіць нас на спрэчку.

– "...В деревне кто живёт, – пачынае мармытаць Фельетаніст, – да он властей не признаёт... Он фармазон... " Грыбаедаў!

– Пушкін.

– А вы паспрачайцеся...

На што? Значыць, так: калі прайграю я – стаўлю графін, ці, як тады казалі, "колбу" каньяку, калі Фельетаніст...

– Тады, – кажу, – без чаргі, без усялякай рэдактуры друкуеце любы мой артыкул.

Няма праблем. І ў той момант, калі Глобус перабіваў нашы счэпленыя рукі, Фельетаніст успомніў! Успомніў, і нават працытаваў упалым голасам, пасля менавіта якога эпізоду Анегіна пачалі дражніць фармазонам; гэта калі ён

Барщины основы
Оброком лёгким заменил...

Цяпер адзін з нас – самы галоўны рэдактар самай галоўнай беларускай газеты. А другі так і не выкарыстаў вакансію надрукавацца на любую тэму, без чаргі і без рэдактуры. Права на стрэл застаецца ў сіле...

**3.**

Падобныя промахі, канечне, несур'ёзныя, бяскрыўдныя і выпраўляюцца механічна, зверкай з арыгіналам.

Але ёсць сапраўдныя памылкі, недарэчныя, грубыя, абсурдныя, якія выправіць не так проста, калі ўвогуле магчыма – яны не пяром, а сапраўды ўжо нейкай сякерай, тупой і шчарбатай, высечаны ў слоўніках і, адпаведна, у нашых пісьменніцка-рэдактарска-карэктарскіх мазгах.

Усяго некалькі прыкладаў.

а) Адкуль у беларускім слове **чацвер** пры склонах бярэцца літара Г – чацвярГа, чацвярГом?.. Чым кепска было б так, як людзі ў жывой мове скланялі, скланяюць і будуць скланяць, нягледзячы на ўсе падручнікі, слоўнікі і нашыя намаганні: чацверКа, чацверКам; у множным ліку – чацверКаў, чацверКамі?

б) З той жа оперы: чаму Фінляндыя, але Ірландыя? Толькі не трэба дурыць мне галаву, што, маўляў, так прынята, устаялася, зафіксавалася; я вам на гэта прасцей і адразу адкажу – таму, што ў рускай мове так. Капіруем бяздумна! Ну, не пабаяліся ж мы, напрыклад, назваць іхнюю лампу сваёй лямпай, хлорку – хлёркай, дуршлаг – друшляком? Каму перашкодзіла б, каб нармальна гучала і Ірляндыя?

в) У нас дапусцяць і прапусцяць самыя неверагодныя граматычныя і стылёвыя ляпы. Але паспрабуйце хоць кантрабандаю правезці праз рэдактарска-карэктарскую мяжу нармальны склон слова **лоб** – лоба, лобе, лобам; марна! Беднае О, як небяспечны наркотык, умомант будзе вынюхана, выгледжана і выпраўлена на “па слоўніку” – лбе, лбом, лба. І вось ужо маладыя аўтары, справядліва не разумеючы, чаму нельга так, пішуць: рта, рце, льда, льдом... А чым кепска было б, каб не парушаўся натуральны фанетычны ланцуг: у роце, на лобе, на лёдзе, ротам, лобам, лёдам?..



**4.**

г) Чорт ведае што робіцца з прыслоўем **падчас** і прыназоўнікам **пад час.**

Здавалася б, абсалютна розныя граматычныя формы, таму і ў напісанні павінны розніцца. Правіла – прасцей не бывае: калі ў сказе ёсць тлумачальнае слова ў родным склоне – значыць, гэта прыназоўнік, пішы асобна:

**“Пад час** (у час, у часе) <u>вандроўкі</u>, <u>канікулаў</u>, <u>вучобы</u>...”

Няма тлумачальнага слова – значыць, гэта прыслоўе, пішы злучна:

“**Падчас** мне рабілася блага”...

Уся мудрасць. Аднак разагнаўся – дадуць табе прасцей.

Сумнавядомы “Слоўнік беларускай мовы” (1979г.) у двух значэннях прапануе толькі **падчас**.

Паслужлівы “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (1979г.) любую недарэчнасць ахвотна падпірае прыкладамі: “У разведцы ці ў баі падчас блакады. Шамякін.” (Падазраю, што несумленныя карэктары падчас свядома скарысталіся слабасцю даверлівага Івана Пятровіча і прапусцілі памылку, каб афіцыйна яе ўзаконіць. Мэта? – а работы пасля менш.)

Лепшы з усіх, “Русско-белорусский словарь” (1953г.) нарэшце правільна перакладае **подчас** толькі як прыслоўе – падчас, часамі, часам; калі ж пайсці ад зваротнага і глянуць рускае **во время** – убачым адзіны прыклад:

“во время революции – у (**пад**) час рэвалюцыі”.

Мудра паступілі перавыдаўцы гэтага ж слоўніка ў 1993г. З таго ж прыкладу “во время революции – у час рэвалюцыі”, як бачым, **пад** у дужках знікла, але і **падчас** не прапанавана! (Маўляў, разбірайся,

Федарэнка, сам, а мы ўмываем рукі...)

Але найлепш ілюструе абсурднасць сітуацыі “Беларуска-рускі слоўнік” (1989г). Ён таксама дае **падчас** толькі як прыслоўе. Дык вось, калі ўявіць, што чалавек, які кепска валодае моваю (а ўявіць такое зусім не цяжка), узяўся пры дапамозе гэтага слоўніка перакласці, скажам, нашае “**падчас** вучобы...”, у яго атрымаецца:

“Иногда... время от времени... временами... кое-когда... учебы”.

(Так, падобна, і вучыліся.)

Добра. Хай. Згодзен – у нас заўсёды пад рукамі наш Катэхізіс, Асноўны Закон, маральны Кодэкс, Біблія, Каран і Тора пад адной вокладкай – наш нязменны, маналітна-непарушны, вечны СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ пад рэдакцыяй Бірылы. Але акрамя яго ў нас жа яшчэ ёсць (прынамсі, павінна быць) галава на плячах, павінна быць хоць нейкае адчуванне логікі і мастацкага густу. Нават у судзе здараюцца выпадкі, калі варта адступіць ад абсурднай літары закона. Ды і ў нас – пачалі ж пісаць не па-бірылаўску “гаркам” замест “гаркома”, і што, свет перакуліўся? Толькі лепш стала. Піша ж спакойна сабе часопіс “Вожык”: “Пад час святкавання Новага года ...” (№12, 2005г.) – і што? Толькі чытаць прыемна.

### 5.

Ніколі ў жыцці не навучуся рэдагаваць чужыя тэксты ручкаю. У мяне кожны раз мурашкі па целе, калі бачу спярэшчаныя ўздоўж і ўпоперак рэдактарскімі ці карэктарскімі чарнiламі старонкі. І згадваецца гісторыя.

Рэдагавалі твор У.Караткевіча – адзін з яго <...>



раманаў. Правак – мора. Прыходзіць узбуджаны, настроены на змаганне Уладзімір Сямёнавіч. Глядзіць. Моўчкі бярэ рэдактара за каршэнь і піхае яму ў руку сцірку (па слоўніку – гумку, рызінку). І пакуль той – чырвоны, няшчасны, прыніжаны – таксама ж пісьменнік! – знішчаў плён свае працы (увесь стол у брудных скатках паперы), Караткевіч як ні ў чым не бывала курыў на падаконніку і, ківаючы нагой, абдумваў чарговы шэдэўр.

– Дзве рызінкі сцёр! – расказвалі сведкі. – Да пазногцяў! <...>.

А калі б заўвагі былі зроблены ручкаю? У часы, калі пра камп’ютэр ніхто паняцця не меў?

### 6.

Свой першы рэдактарскі матэрыял я ледзь не вылізваў, так стараўся.

– Нявычытаны матэрыял, – сказаў адказны сакратар “Полымя” Віктар Ракаў. – Гэта што? – падкрэсліў пазногцем.

Было напісана: “Настаўніца апытвала вучняў. Ніхто не мог ёй адказаць. Ламаў і я не вельмі складаную сваю галаву”.

– Што за не вельмі складаная? Як ты такое прапускаеш?

– А чым замяніць?

– Чым? Ну, хоць бы: што такое не вельмі складаная? Простая, прымітыўная... А ў дачыненні галавы?

Я хіхікнуў, а Ракаў закончыў:

– Вось няхай так і піша: ламаў і я дурную сваю галаву!

Самае цікавае, што Віктар Апанасавіч быў недалёка ад ісціны...

**7.**

Ці я са скуры вылузваўся, перапісваючы за аўтара амаль кожнае слова, ці рэдагаваў "па дыяганалі", цяплял – заўсёды чуў ад Віктара Ракава адно і тое ж:

– Нявычытаны матэрыял.

Аднойчы Віктар Апанасавіч быў у адпачынку і артыкул без яго візы прайшоў усе стадыі складанага "палымянскага" канвеера, а гэта – малодшы рэдактар, рэдактар аддзела, стыліст, намеснік галоўнага, галоўны, тры (!) карэктары, прычым з падчыткаю (было некалі: адзін карэктар чытае ўголас, два другія ловяць памылкі на слых)... Зразумела, якім пасля такога сіта стаў артыкул: брудны, скрэмзаны, неэстэтычны. Забіраю яго на выхадныя дамоў. Перадрукоўваю на машынцы, на фінскай паперы, слова ў слова, коска да косачкі – сваё так не рабіў. У панядзелак вяртаецца з адпачынку Ракаў, артыкул кладзецца яму на стол.

– Нявычытаны матэрыял, – сказаў Віктар Апанасавіч, мацаючы прыгожую паперу.

І ўсё ж адзін раз традыцыя парушылася. Гэта калі артыкул напісаў, і паклаў ужо на мой стол, сам Ракаў. "Вось яшчэ, – падумаў я, – была ахвота звязвацца..." Выправіў на першай старонцы "ў пяці кіламетрах" на "за пяць кіламетраў" і аддаў назад.

Паўдня Віктар Апанасавіч круціў адзіную заўвагу і так, і гэтак, вымаўляў на розныя галасы, звяраўся са слоўнікам, хадзіў раіцца з карэктарамі і стылістам, тэлефанаваў у Інстытут мовазнаўства і сябру ў Энцыклапедыю...

Нарэшце перад абедам я пачуў нязвыклае:

– Вычытаны матэрыял.

*2006г.*



## СЕЧКА-7

**1.**

Няўжо нас пасадзяць у турму, калі мы пачнем пісаць па аналогіі са словам лаЎр у нескладовае ў словах саУна і фаУна? Ці лОбе ў месным склоне замест лбе? Ці чацверКа замест чацвярГа? Ці калі раздзелім словы пад час у значэнні прыназоўніка?

Правільна – можна сказаць: вось прычапіўся да гэтай драбязы. Калі, напрыклад, мы прачытаем, ці пачуем, ці напішам, што чалавек не еў з мінулага чацвярГа замест чацверКа, дык ніхто не паблытае з пятніцай, і калі мы выпраўляемся ў саУну замест саЎны, дык зразумела, што не ў бібліятэку.

І ўсё ж, і аднак, і тым не менш. Куды б мы не выпраўляліся і калі б апошні раз не елі, давайце хоць зрэдку ўспамінаць – асабліва мы, людзі, воляю лёсу звязаныя з пісьменным Словам, – давайце хоць зрэдзьчас згадваць, што напачатку ўсё ж такі быў Гук, затым Літара і толькі тады – яно, роднае.

**2.**

*«…О, когда б только эти войска!..»*
Б. Акуджава

З усіх войскаў прызнаю толькі ПВ – пісьменніцкія войскі, з усіх войнаў прызнаю толькі адну – “вайну” з папераю; з усіх перамог прызнаю толькі перамогу над непакорнымі, капрызнымі, наравістымі словамі, калі яны пасля (часта даволі жорсткага) змагання здаюцца нарэшце і, як палонныя, выстройваюцца ў тым парадку, які задавальняе мяне, “камандарма”-аўтара.

## 3.

Асабліва грашаць гэтым паэты, усякаючы, абразаючы, перакручваючы словы дзеля, як ім здаецца, рыфмы і рытмікі. Замест растае пішуць – тае, каля – ля, галава – голаў, каленяў – калень, дзвярыма – дзвярмі, уцячы – уцеч...

У любым кантэксце, ва ўсіх выпадках пайшло гуляць усечанае “гэта”. “Гэта лес і гэта поле”... Ужо нават не задумваемся, што, напрыклад, “гэта дзяўчына” – зусім іншае, чым “гэтая дзяўчына”, як і “дзякуй табе” – не адно й тое ж, што “дзякую табе”. Ёсць стары надзейны спосаб праверкі правільнасці напісання слова, ці словаспалучэння – перакладам яго на вялікую і магутную. “Это девушка (а не...)” і “эта девушка (сделала то-то...)”, “благодарю тебя (за что-то)” і “благодари!» – загадны лад.

Не кажу пра націскі, тут ужо рука, ці язык – уладыка. Рогамі, выходныя, начы, вачы (у множным ліку), былі, пілі, бралі, гналі...

## 4.

Я быў самым першым слухачом і часткова рэдактарам некаторых вершаў Анатоля Сыса. Справа



ў тым, што ў яго не было (ніколі) уласнай машынкі. Ён прыходзіў да мяне ў інтэрнат з нататнікам і прасіў набраць чарговую, як ён называў, “лухту”. Ён чытаў, смакуючы кожнае слова, а я ляпаў па клавішах. Так набіраўся яго славуты “Пацір”, той самы, дзе:

Паэт сказаў: п’ем за Айчыну!
І кожны выпіў – за сябе…

“Налілі праз краі віна”, – дыктуе Сыс.

“Толя, – кажу. – Ну вуха ж рэжа. Налілі, а не налілі!”

У тыя гады Сыс верыў мне менш, чым каму, упарта адгаворваў мяне адмовіцца ад пісання. Само сабою, не паверыў і цяпер. Што ён робіць? Моўчкі спускаецца ўніз (я следам – цікава ж), да вахты, дзе тэлефон, ні ў кога не пытаючы дазволу, падсоўвае апарат да сябе, набірае нумар.

“Алё, Рыгор Іванавіч? Як правільна: пілі ці пілі?”

Выслухоўвае, моўчкі кладзе трубку, мы падымаемся ў пакой і дыктоўка працягваецца.

Радкі выйшлі ў такім выглядзе:

“І налілі праз край віна”, – ад чаго, канечне, толькі палепшалі.

Зразумела, да кожнага паэта не прыставіш Барадуліна. Я пра іншае. Памыліцца той, хто падумае, што Сыс зрабіў для сябе нейкія высновы. У яго чарговай кнізе (калі ласка, вам на ўзбраенне, цяперашнія і будучыя складальнікі слоўнікаў):

…Як мяне хрысцілі,
як па снезе санкі галасілі,
як папа у госці запрасілі,
пілі-елі, потым елі-пілі…

Вось так.

**5.**

У Сыса быў перыяд, калі ён, здавалася, не параіўшыся папярэдне з Рыгорам Барадуліным, без яго дазволу не хадзіў нават у прыбіральню.

Сядзім у кабінеце галоўнага рэдактара часопіса “Крыніца” Някляева. Уладзіміра Пракопавіча няма, мы з Сысам у чаканні яго выпіваем. У мяне рот не закрываецца, я пісаў тады розныя дрындушкі парасейску…

Сыс паслухаў. Бярэ трубку. Другой рукой лёгка ад мяне, які ірвецца да тэлефона, адбіваючыся:

– Дзядзька Рыгор? Паслухайце, што Федарэнка мне зараз прачытаў. Слухаеце? «Тройка мчится. Мелькают страницы. Под дугой Бородулин звенит»…

Для Сыса не існавала гэтых “толькі між намі, ты ж не ўздумай сказаць”; ён шчыра ненавідзеў сакрэты на вушка, шушуканні па куточках; часта ў якой кампаніі, паслухаўшы: “а вось той такі і такі, а гэты напісаў тое і сёе”, Сыс моўчкі кіраваўся да тэлефона, каб слова ў слова перадаць усё абаненту. Раскусіўшы яго, многія пры ім навучыліся асцярожнасці і пачалі прыкусваць языкі.

**6.**

Яшчэ пару выпадкаў, ужо не звязаных з філалогіяй, але па-свойму цікавых.

Тым, хто плявузгаў на Сыса пры жыцці і працягвае рабіць гэта пасля яго смерці (“правактар”, “стукач”, “засланы” і г.д.) раю пачытаць рэспубліканскую прэсу канца 80-х.

Пры ўсёй знешняй цвёрдасці Сыс у душы моцна перажываў. Аднойчы неахвотна прызнаўся:



– Матка плача дома, сына фашыстам абзываюць на ўсю рэспубліку... А гэты “фашыст”, калі кабана рэжуць, уцякае за самы дальні хлеў і вушы затыкае...

Праўда, то быў ранні Сыс.

А вось позні. Едзем у тралейбусе ад мяне. Праязджаем каля новай царквы на Прытыцкага. Анатоль пазірае ў вакно на залатыя купалы, раптам усхопліваецца з месца, падае на калені і, надрыўна плачучы ўголас, пачынае біць лобам у брудны тралейбусны дол (хрысціцца ён не ўмеў да канца жыцця):

– Божанька, міленькі, родненькі, пашкадуй хоць ты свайго сына, паглядзі, як яму цяжка, як з яго ўсе знушчаюцца!

Ніводзін чалавек не засмяяўся, нікога не абурыў гэты цырк, нікому не падаўся кашчунным – наадварот, людзі глядзелі на ламаку-клоуна з павагай, спачуваннем, жалем...

– Трэба ж!

– Які набожны малады чалавек...

– Малайчына, не тое што...

Нейкая бабулька выцерла са шчакі слязіну і, нагнуўшыся, уклала яму ў кішэню маленькі яблык, які Сыс, калі мы выйшлі з тралейбуса, з праклянцямі шмякнуў аб асфальт і расчавіў абцасам.

**6.**

Як абсалютна правільна напісаў у “Дзеяслове” (№ 21) Мікола Сцепаненка, напачатку Сыс быў страшэнна пераборлівы, далёка не з кожным выпіваў і тым больш далёка не кожнаму адкрываўся. Такіх, як сам – бомжаў, бабылёў, п’яніц – ён не любіў і пазбягаў, яго, нібы па закону кампенсацыі, цягнула да людзей паважаных,

самастойных, у сем'і поўныя, дзе ёсць дзеці, беларуская мова, дзе муж служыў у арміі, а гаспадыня – добрая, утульная, умелая кухарка...

З часам гэта прайшло. Ён усё больш аддаляўся ад іншых і набліжаўся да сябе, любімага. Быў перыяд, калі інакш як Іісыс Хрыстос ён сябе не называў... (Зрэшты, эталон сціпласці і ветлівасці Антон Чэхаў таксама падпісваў пад фотаздымкам, дзе яго трымаюць за рукі маладзенькія Яворская і Шчэпкіна-Купернік – "Спакушэнне **святога** Антонія".)

Па меры дэградацыі змяняліся і яго літаратурныя прыхільнасці. Раней Сыс любіў гаварыць пра Быкава (якога не чытаў, канечне), цаніў яго вышэй за ўсіх у беларускай літаратуры, на той падставе, што:

– Пляваць, як ён піша, галоўнае – ён ваяваў!

Аднойчы, быў яшчэ жывы Адольф Варановіч, прыходзіць Сыс у "Полымя". Машынальна бярэ са стала папку – новы твор Васіля Быкава, адгортвае і чытае ўголас рэкамендацыю галоўнага рэдактара: "У аддзел прозы. Давесці рукапіс да ладу і ў адпаведнасці з сучасным правапісам!"

– Што?! – не паверыў вачам Сыс. – Давесці да ладу?! Народнага пісьменніка, куміра нацыі, прэтэндэнта на Нобеля?!

Вылаяўся, махнуў рукою і пайшоў.

І вось чытаю ўжо згаданы нумар "Дзеяслова", і ў адным з артыкулаў нібы рэхам з таго свету адгукаецца... Сыс!

"Можа, беларусы далі сьвету знаных і прызнаных геніяў літаратуры і мастацтва? – пытае аўтар, С. Абламейка. – Таксама не. /.../ Васіль Быкаў? Дык трэба яшчэ **давесьці сьвету**, што гэта пісьменньнік сусьветнага маштабу..." (Выдзяленне маё. – **А.Ф**.)

Давесці рукапіс да ладу, давесці твор да шырокай грамадскасці, давесці ўсяму свету... І ўпарта чамусьці



лезе ў галаву крылатае і дурное кінакамедыйнае: "Давесці кліента да кандыцыі".

*2007 г.*

## СЕЧКА-8

### 1.

Шмат дзіўнага можна знайсці ў нашых слоўніках. Напрыклад, чаму лЯмпа, але лАмпада?

Што азначае “ўнікнуць” у нармальнай беларускай мове? Правільна – пазбегнуць, прамінуць, ўратавацца, ухіліцца ад чаго-небудзь. Але не быў бы наш слоўнік тлумачальным, каб не “патлумачыў” яшчэ адно, абсалютна чужароднае значэнне гэтага слова – пранікнуць, увайсці, удумацца... “Віктар учытваўся, унікаў у змест”. (У. Паўлаў.)

Слоўнік дае – раскладушка, а чым кепска так, як піша Павел Місько – раскладанка?

Слова наведвальнік (якое асацыіруецца з рускім “пододеяльником”). А хіба кепска, як у Сяргея Дубаўца – наведнік (чуеце пераразвон: адведкі, даведка, даведнік...)?

Па слоўніку “кавычкі” – двукоссе. А няможна так, як у Валянціны Коўтун (і як нас, помню, вучылі ў школе) – лапкі? Узяць у двукоссе – узяць у лапкі...

### 2.

Надпісы-графіці на платах, на сценах, на асфальце, на снезе лыжнай палкаю і на пяску – дубцом... З



дзяцінства цікавасць, цяга да іх, здаровая і ў той жа час крыху саромная – гэта ж выпадкова можна і пра сябе штосьці прачытаць! Хто ты, што ты ў чужых вачах, з чым цябе параўноўваюць, з кім плюсуюць.

«Таня плюс Володя мелок выводит»…

На вуліцы Лабанка, дзе я жыву, на тратуары перад адным з дамоў красуецца надпіс: “Бязьмежна кахаю цябе! Пойдзем поруч па шчасьці праз усё жыцьцё! М.” З’явілася сімпатычнае прызнанне ўвосень, за зіму літары сцерліся, пабляклі – і вось увесну, не паспеў сысці снег, тою ж фарбаю словы аднавіліся, з прыпіскай: ”Жыву дзеля цябе”. Паказальна, што людзі, якія спыняюцца і чытаюць, далей стараюцца ісці так, каб не наступаць на літары – нібы гэта рассыпаныя жывыя кветкі.

Зноў-такі ў маім раёне, на парэнчах моста праз канал:

“Пусть плачет тот, кому мы не достались, пусть сдохнет тот, кто нас не захотел!”, – і подпісы: Віка, Іра, Каця, Наста. Акуратны, роўненькі, вельмі прыгожы почырк. Дата.

### 3.

Пачакайце: у Буніна ёсць апавяданне, якое так і называецца – “Надпісы”!

Тая ж тэма, тая самая думка. Кожны хоча пакінуць пасля сябе след, хай нават і ў выглядзе “Тут былі Воля і Коля”...

“Усё чалавецтва, – піша Бунін, – пакутуе на гэтую слабасць. Уся зямля пакрыта нашымі подпісамі, надпісамі і запісамі. Што такое літаратура, гісторыя? Вы думаеце, Гамерам, Талстым, Нестарам кіравалі не тыя ж самыя памкненні, што і сёмым Івановым? Тыя

ж, запэўніваю вас".

І далей: "Яны (надпісы) то пошлыя, то дзівосныя па сіле, глыбіні, паэзіі, выказанай нават у якім-небудзь адным радку, які ў сто разоў больш каштоўны, чым многія і многія гэтак званыя вялікія творы".

## 4.

"Декабрь "выдался" не совсем удачный", – чытаем у "Пане з Сан-Францыска" (піша даследчык творчасці Буніна А. Саакянц), – і двукоссе ў слове **выдался** падкрэслівае іронію пісьменніка да тых, з чыйго лексікону ён здабыў гэты штамп".

А вось Набокаў, раман "Дар". "Зима, как большинство памятных зим и как все зимы, вводимые в речь ради фразы, выдалась (они всегда "**выдаются**" в таких случаях) холодная".

Цікава, хто з класікаў быў першы, а хто – другі? Бунін, пачытаўшы Набокава, у перавыданні ўзяў слова-штамп у лапкі? Ці Набокаў развіў да бліскучага гратэску знаходку старэйшага калегі?

Увогуле, дэталь у мастацкім творы. Часта, калі не заўсёды, ірацыянальная, невытлумачальная. Чаму дзеянне адбываецца зімою, а не летам? Чаму прозвішча героя такое, а не іншае? Мой дзядзька Сцяпан расказваў анекдот:

– За высокім плотам, у якім дзірка, сядзіць армянін. І гучна паўтарае: "Дваццаць адзін, дваццаць адзін, дваццаць адзін!" Падыходзіць цікаўны, нагінаецца, прыстаўляе вока да дзіркі. Армянін, тыцнуўшы пальцам: "Дваццаць два, дваццаць два!"

Не ведаю, чаму армянін, затое ведаю, што калі б з-за плота гучаў голас проста імярэка – анекдот, несумненна, страціў бы штосьці.



Неяк Алесь Асташонак вучыў мяне, як запомніць яго тэлефонны нумар.

– Не старайся, – кажу. – Тое, што можна запісаць, я не запамінаю ніколі. Каб не загружаць галаву.

– Запомніш! 237-26-26. Паперадзе кожнага нумара двойка, так? Трыццаць сем – чорны год. І два разы па дваццаць шэсць бакінскіх камісараў.

Сапраўды, запомніў.

## 5.

*Письма издалека…*
*Боже, как странно,*
*как нелепо!*
(З песні.)

Даўно мне, яшчэ студэнту, Ян Скрыган напісаў пісьмо, у якім з майго вялікага (і вельмі пасрэднага, калі шчыра) апавядання пахваліў адно-адзінае слова – "выдаўжыўшы". "Ён сядзеў, выдаўжыўшы ногі", – гучаў цалкам сказ. Рэдактары ўпарта раілі памяняць гэтае слова на "працягнуўшы, выпрастаўшы, выцягнуўшы", але яно неяк выжыла – ці то выпадкова, ці то хапіла розуму адстаяць яго.

Ніхто пра пісьмо Скрыгана не ведаў. І вось нядаўна, праглядаючы старыя "ЛіМы" (за 1997 год), натыкаюся на Алеся Асташонкаўскае:

"Знайшоў у Федарэнкі надзвычай, як на маю думку, удалы выраз: "выдаўжыў ногі". "Выпрастаў ногі" заўсёды засмучала сваёй двухсэнсоўнасцю".

З той жа падборкі ў тым жа "ЛіМе": "Многія расказвалі, што маюць лісты ад чытачоў, няхай сабе найчасцей і калег. А я дык ніводнага..."

І з-за гэтага перажываў. Колькі памятаю Алеся,

яго – разумнага, таленавітага, начытанага – заўсёды хвалявала падобнае глупства: чытачы, званкі, пісьмы, рэакцыя на новы твор, "пяцёркі-дзесяткі" лепшых пісьменнікаў, "абоймы" ў крытычных аглядах – хто названы першым, хто апошнім, хто з кім стаіць побач... Нашто яму гэта было? У 43 гады? Што ён тады чытаў? Калі ласка:

"Акутагаву, Федарэнку, Пятровіча, Глобуса, Оруэла, Гладзіліна, Купрына, Сэліна, Ж.-М. Карэ, Маэма, Рэмбо, Віктара Ерафеева, Фолкнера, Борхеса, Фітцджэральда, Анатоля Жука, "Слоўнік тэатра" Патрыса Паві, "Слоўнік антычнасці", а таксама Г. Сямёнава і У. Рубанава, Даўлатава і Валодзіна".

Невераготная каша! З такім падборам аўтараў будзеш перажываць. І як дзіўна, што не памог яму Чэхаў, якога ён па-сапраўднаму ведаў, любіў, разумеў. Хоць бы вось гэтае, з "Чайкі": "Я не бачыў свайго чытача, але чамусьці ён у маім уяўленні бачыцца мне недружалюбным, недаверлівым. Я баюся публікі, яна страшная мне, і калі мне даводзіцца ставіць сваю новую п'есу, мне здаецца кожны раз, што брунеты варожа настроеныя, а бландзіны холадна абыякавыя".

Яшчэ лепш у Пушкіна: "Пішу для сябе, друкую для грошай".

## 6.

Чаму мы баімся арыгінальнасці? Дзеля якога такога крайняга выпадку беражэм уласны розум, а жывімся чужымі, часта бесталковымі, калі не сказаць – пошлымі, афарызмамі?

Ну, што такое: "Прыгажосць уратуе свет"? Што хацеў сказаць гэтым аўтар – дарэчы, зусім не Дастаеўскі, а Шылер?



Як гэта: "Нельга двойчы ўвайсці ў адну й тую ж раку"? Нельга ўвайсці ў адну і тую ж плыткую, бягучую **ваду**, а рака са сваімі нерухомымі берагамі як звалася Свіслач, так і будзе звацца, і ўваходзіць у яе і выходзіць з яе, адной і той жа, можна пакуль ногі не забаляць.

Чаму пра нябожчыкаў трэба "або добра, або ніяк"? Хто гэта сказаў? Бессмяротныя, вечныя багі? Ці мы, якія ўсе пагалоўна асуджаны на знікненне, якіх аддзяляе ад мёртвых у лепшым выпадку некалькі няшчасных дзесяцігоддзяў?

## 7.

Быў у мяне артыкул – "Новыя і старыя", друкаваўся ў "ЛіМе". Асноўная думка там – нічога не толькі новага, а і проста людскага нельга стварыць, калі максімальна не засвоіш набыткі папярэднікаў. Немагчыма з першай прыступкі лесвіцы адразу ўскочыць на пятую ці на дзевятую. Іншымі словамі, перад тым як маляваць "Чорны квадрат", Малевічу някепска было б мець у сваім творчым актыве палотны ўзроўню Левітана ці Веласкеса, бо так, калі ў яго адзін квадрат (хай нават тры) – гэта не наватарства, а, на жаль, усяго толькі "чорны квадрат".

Нечакана гэты бязвінны, прахадны артыкул выклікаў цэлую дыскусію. Самы першы адгукнуўся Алесь Асташонак:

– Колькі ты выпіў, перш чым пісаць такое? – абурана сказаў па тэлефоне. – Куды ты клічаш? Якіх "старых" нам браць за ўзоры? Мы і так безнадзейна адсталі ад сусветнай літаратуры! Трэба ісці з жыццём у нагу, вучыцца жыць па-новаму, мысліць па-новаму...

Не прайшло і нейкіх 15 год, як у мяне саспеў адказ. Па-першае:

По-новому мыслить нельзя.
Меня убеждают в обратном,
Но я повторю многократно –
По-новому мыслить нельзя!

Па-другое, жыццё – гэта зусім не цягнік, на які можна паспець, а можна спазніцца. Жыццё – гэта не маршрут з пункта А ў пункт Б. Скажу больш – наўрад ці яно ўвогуле куды-небудзь рухаецца, а калі і рухаецца, дык толькі разам з намі, як шапка на нашай галаве.

*2007 г.*



## СЕЧКА-9

### 1.

*“Капірайтэр (copy-writer) – складальнік рэкламных тэкстаў”.*

**“Слоўнік рэкламных тэрмінаў”**

*“Капірайтэр павінен быць як мінімум пісьменны...*

*Заробак капірайтэра на стаўцы складае ў сярэднім 400 – 600 у. а. па Расіі, у буйных агенцтвах – 1500 – 3000 даляраў ЗША”.*

**З інтэрнета**

Пачуў ацэнку сваім эсэ – дробнатэм’е.

Ну, па-першае, пачынаючы некалі “сечкі”, я і не прэтэндаваў на глабальнасць, пакінуўшы гэтую прывілею сапраўдным волатам нашай сучаснай літаратуры, такім як, напрыклад, Карыдонаў, Мюар Фарыдовіч (“Маладосць”, 6, 2007), іншым...

А па-другое – што значыць дробная тэма? Возьмем хоць бы талстоўскую ці мележаўскую Ганнаў. Адна пакахала Вронскага, другая – Васіля, вось і ўся тэма. Дык, можа, справа зусім не ў тэме? “Няма, як сказаў вялікі Шэкспір, кепскіх роляў, а ёсць паршыўцы акцёры, якія псуюць усё, што ім ні дай” (М. Булгакаў, “Барвовы востраў”).

І, калі ўжо зайшла размова пра цытаты, вось чарговая "дробная" тэмка. Хто ездзіць у мінскім метро, звярнуў, канечне, увагу на кідкую рэкламу: бязрукі Антон Паўлавіч Чэхаў у майцы, на якой напісана: "Все майки хороши, кроме скучных". Такое абыгрыванне вядомага выслоўя "Усе жанры добрыя, апроч сумных". Унізе – нумары тэлефонаў, адрас сайта. Рэкламуюцца маечкі, на якіх можна на заказ рабіць розныя прыкольныя надпісы (напр., "Я вас всех e-mail").

І што? А тое, што Антон Чэхаў тут, выбачаюся, не прышый да майкі рукаў. Крылатыя словы "все жанры искусства хороши, кроме скучных" прагучалі гадоў за 150 да яго нараджэння, з вуснаў французскага пісьменніка і філосафа Мары Франсуа Аруэ, інакш – Вальтэра, і менавіта яго пародзістая галава, калі на тое пайшло, павінна красавацца на рэкламе.

Вось вам практычная карысць ад гэтых некалькіх невялічкіх абзацаў. Цяпер мы ведаем праўду. І, катаючыся ў метро, можам у душы пасміхацца з непісьменных прафесійных капірайтэраў, з усімі іхнімі тысячамі даляраў.

**2.**

Паблажлівасць да дэталяў заўсёды адпомсціць аўтару. Нязначная, несур'ёзная на першы погляд "драбяза" можа перавярнуць увесь сюжэт.

Мы помнім (з "Сечкі"-2), як у аднаго вядомага пісьменніка герой паміраў з голаду, маючы ў кішэні "акрайчык" хлеба памерам з пісьмовы стол.

У другога пісьменніка вучні пішуць сачыненне "Па раману Чарнышэўскага "Что делать?", і галоўны герой, дзесяцікласнік, называе свой літпасаж "Клоповоняющий роман клоповоняющего молодого человека", а ў кароценькім уступе /да сачынення/ паведамляе, што рызыкоўны тэрмін "клоповоняющий" належыць, вядома, не яму асабіста, а пісьменніку Фёдару Дастаеўскаму". Настаўніца ўражана эрудыцыяй свайго вучня і пачынае паважаць і кахаць яго. Замест таго, каб сказаць: "Ведаеш, мілы мой, табе б самаўпэўненасці крыху паменш, а адукаванасці крыху пабольш. Раю для пачатку схадзіць у бібліятэку, пачытаць пісьмы Талстога, звярнуць увагу на даты, даведацца, хто на самой справе ўжываў гэты рыкоўны тэрмін, калі і ў сувязі з чым. А ўжо тады, так і быць, прыходзь – "побеседуем о жизни и любви".

Я бяру толькі тыя промахі, якія па неахайнасці аўтараў і недаглядзе рэдактараў пабачылі свет і, на жаль, зажылі самастойным жыццём. Звычайна гэта выпраўляецца на ранняй стадыі – у рукапісе. У нашых двух, нават трох выпадках трэба было б "пасадзіць" галаву Вальтэра замест галавы Чэхава, зменшыць герою акрайчык хлеба і памяняць Дастаеўскага на Талстога.

Аднак гэта хутка і без праблем робіцца, калі аўтар адэкватны. Калі ён давярае рэдактару, слоўніку і крыніцам паходжання цытат.

Калі ж ён упёрты, як баран, ды яшчэ ўзброены якімсьці білетам якогасьці саюза (як індульгенцыяй ад бяздарнасці, як пропускам у літаратурны рай), такому сто слоўнікаў пакажы – без толку.

А між тым твор яго пачынаецца: "Чалавек шагаў..." Кажаш: "Ну а чым кепска – крочыў, ступаў, цёгся, валокся, плёўся, перастаўляў ногі?"

– Не, я хачу – шагаў. Мне казалі, што можна так, а хто – не помню, і недзе я чытаў, а дзе – забыўся.

Чалавеку, не звязанаму з рэдактарствам, немагчыма паверыць, што робіцца ў літаратуры апошнім часам.

Праца рэдактара ўсё больш ператвараецца ў працу псіхолага, у пэўных выпадках – псіхатэрапеўта. Але гэта было б паўбяды. Усё часцей рэдактару даводзіцца выконваць ролю ідэолага (зампаліта, палітрука), калі на першае месца ў ацэнцы твора ставіцца не мастацкая вартасць, а “партыйная прыналежнасць” аўтара.

Ужо згаданы намі Антон Чэхаў, ацэньваючы некалі раман сярэдненькага французскага пісьменніка Эдуарда Рода, мімаходзь даў бліскучую характарыстыку цэлай літаратурнай з’яве:

“Если, г. Золя, мы и не так талантливы, как Вы, то зато мы в Бога веруем”.

– Хай мы і пішам “шагаў”, затое да ўладаў лаяльныя. Вот так-то, господа!

**3.**

Яшчэ адна старая, “дробная” пісьменніцкая тэмка.

Чалавек напісаў апавяданне, 21 старонку. Яно прынятае да друку. Шчаслівы аўтар, тым не менш, рэдка калі забудзе пацікавіцца: “А что я буду с этого иметь?”

– Колькі я за яго атрымаю?

– Ну, прыблізна дзвесце дзесяць тысяч, – адказваю я, успамінаю сваю ідэалагічна-выхаваўчую функцыю і, калі аўтар чалавек малады і не безнадзейны, пачынаю тлумачыць, што літаратурная праца павінна быць самадастатковай, што грошы ў ёй не галоўнае, што найвышэйшы ганарар для пісьменніка – давядзенне свайго твора да дасканаласці...

– Каб словам было цесна, а думкам прасторна.

– Ах, вунь яно што, – мармыча аўтар. – Вось як трэба пісаць... Цяпер зразумеў. А ведаеце – можна, я сваё апавяданне забяру і яшчэ над ім папрацую?



Падпраўлю, перапішу, скарачу...

Праз некаторы час апавяданне зноў у мяне на стале. Яно ў тры разы карацейшае і ў тры разы лепшае. Я радуюся не менш за аўтара. Мае словы не прапалі дарма. Якая ўсё ж цікавая, любімая, важная для людзей наша рэдактарская праца!

І вось апавяданне надрукавана ў часопісе. У дзень выплаты ганарару аўтар заходзіць да мяне і ўпалым голасам, нічога не разумеючы, кажа:

– Семдзесят тысяч... Але ж вы казалі, апавяданне пасля дапрацоўкі стала ў тры разы лепшым?

– Так і ёсць.

– Дык што ж гэта... За твор, у тры разы горшы, плацяць у тры разы больш, і наадварот?

Я разводжу рукамі. Такая ў нас дзіўная ганарарная арыфметыка. З апушчанай галавой аўтар выходзіць, і няцяжка здагадацца, у якім накірунку ён будзе працаваць далей, які з варыянтаў выбярэ – сем старонак прыстойных ці дваццаць сем пасрэдных.

**4.**

Зараз у нас спярша пацякуць слінкі, а потым слёзкі.

Ёсць на адным з курортаў Францыі віла. Нічым, здавалася б, не знакамітая. Так сабе – палац як палац.

Аднак жа калі вядомы расіянін – начальнік Чукоткі, народжаны ў Комі яўрэй літоўскага паходжання з беларускім прозвішчам, уладальнік англійскага футбольнага клуба і розных “заводаў, газет, параходаў” захацеў набыць яшчэ і гэты палац ва ўласнае карыстанне, яму катэгарычна адмовілі, нават нягледзячы на яго грошы.

І ведаеце, чаму? Аказваецца, віла знарок пабудавана для “**стомленых ад жыцця французскіх**

**пісьменнікаў**". Менавіта такая фармулёўка.

Наіўныя, смешныя французікі! Замест таго, каб разбірацца з сваімі касмічнымі праектамі, ядзернай зброяй, атамнымі электрастанцыямі і бунтамі ў парыжскіх прыгарадах яны яшчэ знаходзяць час на нейкіх пісьменнікаў, да таго ж стомленых ад жыцця! Апошняе асабліва сімпатычна, бо ясна, што гэта наўрад ці Мантэні і Мапасаны, – хутчэй за ўсё гэта пісьменнікі ўзроўню прыкладна нашага Міколы Купрэева, які памёр у доме састарэлых, а пры жыцці, ратуючыся ад холаду, ездзіў у электрычках ад Івацэвічаў да Жабінкі і назад...

Бог святы! Няўжо ёсць яшчэ недзе людзі, нават цэлыя краіны, цэлыя нацыі, якія разумеюць, што пісьменніцкая праца па шкоднасці "сродни изготовлению цинковых белил", а па карысці для дзяржавы – вышэй за часовыя набыткі ўсіх спартсменаў і выканаўцаў папсы разам узятых, што гэта дзяржаўны скарб, што гэта дзякуючы ім, пісьменнікам, і нікому больш, займелі некалі тытульныя назвы самі дзяржавы і носяць іх дасюль, што стомленых ад жыцця вытворцаў і носьбітаў гэтага скарбу варта ўсяляк аберагаць, ашчаджаць, пахмяляць, забяспечваць ім бязбедную старасць, бо цалкам магчыма, што гэта можа аказацца адзіным плюсам, адзінай добрай справай, якая апраўдае і сваё эпізадычнае прабыванне на гэтай грэшнай, у прыватнасці, французскай зямлі…

– Рабіць ім больш няма чаго, гэтым французам, – я так скажу.

«Падающего – толкни!» Стаміўся ад жыцця?! Мы табе стомімся! Вілу захацеў? А вілы табе ў зад! Палац на беразе мора?! А ў электрычку, катацца з Ліёна ў Льеж ці з Парыжа ў Брэст!

Толькі так.



## 6.

*«Скажите нам, Отечества отцы,*
*кого же мы должны принять за образцы?»*
**А. Грыбаедаў**

Ну, і па традыцыі – мовазнаўчая тэмка.

Каторы раз пераконваюся, наколькі "жывая" мова прыгажэйшая і разумнейшая за мову "вучоную", прыдуманую якойсьці адной, "не вельмі складанай" галавой.

Напр., на Мазыршчыне людзі казалі і кажуць не "таленавіты", а "таленТавіты". І праўда: куды і чаму гэтае канцавое "т" знікае? Чаму захавалі яго рускія: таланТ – таланТливый?

Я заўсёды пішу па-свойму – "свінЮшнік", а мне заўсёды ўпарта правяць на "свінУшнік", тлумачачы тым, што суфікс -ушк больш беларускі за -юшк. А куды падзенем тое, чым комін закрываюць: юшку? А рыбны суп (дарэчы, цікава, што ў такой "рыбнай" краіне, як тая ж Францыя, не знайшлося для абазначэння гэтай стравы аднаго слова, а называюць яе – soupe de poisson – суп з рыбы)? А тое, што з носа ці з вуха цячэ, калі кулаком добра прыкласціся?..

"**За**браўся" і пайшоў, "**за**вярнуўся" і пайшоў. Паправяць на "сабраўся" і "павярнуўся". І без гэтага выбухнога "з" слова бяднее. А яно павінна быць паўнакроўным, мець гук і колер, каб выклікаць асацыятыўны вобраз. **З**абраўся – тут і **з**абраў кашулю ў штаны, і **з**аправіў калашыны ў боты, і **з**аправіўся – у сэнсе, пад'еў... **З**авярнуўся (актыўнасць дзеяння, экспрэсія) – пакаЗАў ЗАд...

У "Слоўніку эпітэтаў беларускай мовы", стар. 157. "Данік... крадком цікуе на мілы, прыгожы твар яе (Я. Брыль, Сірочы хлеб)". Перакладзем на рускую:

“Даник... украдкой следит на милое, красивое лицо её”.

– Адэскі акцэнт, – як трапна заўважыў Алесь Наварыч.

Цікаваць можна толькі ЗА кімсьці і ЗА чымсьці. Звычайная памылка, нічога страшнага (у любімага пісьменніка Янкі Брыля – Льва Талстога таксама можна сустрэць: “Накурившись, между солдатами завязался разговор”, “Хаджы-Мурат”). Вось толькі ці варта падаваць гэты “адэскі” сказ як эталон прыгожага пісьменства, як прыклад для пераймання? Ці абавязкова было ўключаць яго ў слоўнік тыражом 49 тысяч асобнікаў – пад рэдакцыяй, “увы”, прафесара Ф. М. Янкоўскага?

**7.**

І ў заканчэнне – тэма “выдаткі славы”.

Сяджу неяк у сталічным дзіцячым парку імя вялікага беларускага пісьменніка Максіма Горкага на лавачцы. І раптам заўважаю, што са мной людзі вітаюцца. Мяне яўна пазнаюць. У мой “бок” кідаюць позіркі. Прычым на тварах у людзей прыязныя усмешкі і нават як бы ўхмылачкі. Вось бабулька з унукам... Вось маладыя дзеўкі... Пенсіянер з сабачкам, і сабачка таксама са мной вітаецца, весела гаўкнуўшы...

“Ну што ж, – думаю, – вось я і славуты. Чаго чакаў, хацеў, тое нарэшце адбылося. Мяне ведаюць, пазнаюць, вітаюцца... А толку?”

Что слава? – яркая заплата
На бедном рубище певца...

І тут я выпадкова перавёў вочы ўніз, і на ніжняй



дошачцы, акурат пад сабой, прачытаў выразнае нецэнзурнае слова з трох літараў.

*Мінск, 2007 г.*

## СЕЧКА-10

### 1.

Ёсць такая ЕАП – еўрапейская асацыяцыя перакладчыкаў, дык вось яны нядаўна пачалі судзіцца з выдаўцамі. Прычына – адсутнасць гарантаваных заказаў, мізэр аплаты... Усяго 30 еўра за старонку перакладу, гэта ў Германіі, у Італіі ўвогуле 15. Дайшло да таго, што некаторыя "вымушаны акрамя асноўнай (перакладчыцкай) дзейнасці займацца яшчэ і пабочнай".

Нічога сабе! Гэта што ж, уночы перакладаць, а раніцаю ехаць у рэдакцыю якойсьці нямецкай "Маладосці" ці італьянскага "Полымя", сляпіць апошнія вочы, перапісваючы чужыя тэксты? Толькі ў суд! Трэба, каб усё было жалезна, гарантавана. Каб устаў раніцай – на стале тры рукапісы, з Іспаніі, Шатландыі і з Беларусі. Выпіў кавы, выкурыў цыгарэту, уключыў камп'ютэр, разгарнуў слоўнік... Пераклаў (не прыдумаў – пераклаў з гатовага) старонкі чатыры да абеду, пагуляў, качак пакарміў на возеры, вечарам -- яшчэ чатыры... 30 х 8 = 240 еўра. У дзень.

А ніхто не хоча 49 тысяч беларускіх рублёў за якую-небудзь "Сечку" ў "ЛіМе"? Не перакладную – арыгінальную? Якая пішацца не ў асноўны, г.зн. нармальны, законны пісьменніцкі час, як на добры лад павінна было б быць, а менавіта ў пабочны, у свой асабісты – урыўкамі, начамі, на выхадных, у адпачынку?.. Матэрыялы для якой збіраюцца па каліве месяцамі, ды і пішацца якая, калі ўжо ўсё гатова і пад рукою, не восем і не чатыры старонкі ў дзень – добра, калі чатыры сказы...

Мне праўда шкада еўрапейскіх перакладчыкаў. Хаця б таму, што яны даволі актыўна перакладаюць і мяне ў тым ліку. Аднак жа — усё адносна...

### 2.

Адзін аўтар, буйны графаман (графаманы дзеляцца на ціхіх і буйных), крычаў:

– Якое ты маеш права мяне рэдагаваць, калі тэксты мне дыктуе сам Гасподзь?!

– У такім разе я вымушаны рэдагаваць самога Госпада, -- адказваў я. -- Або ён дыктуе вам з памылкамі, або вы кепска расчуваеце яго дыктоўку.

Гэта не анекдот. І ўжо тым больш не анекдот наступная гісторыя. Нейкі японец (як у Вайновіча – "какой-то японец из Токио") пачаў перакладаць "Братоў Карамазавых", захапіўся, напёр у тэкст сваёй японскай адсябецiны, тлумачачы потым у інтэрв'ю, што, маўляў, "сам Дастаеўскі падказваў мне ў тэксце магчымыя хады". (Толькі аб гэтым марыў Дастаеўскі, больш яму рабіць не было чаго.)

Што вы думаеце – пайшло. Бестселер. Чужы тэкст, чужы сюжэт, чужы раман падпісваецца сваім іменем, і рука не задрыжыць, пералічваючы ганарар – наўрад ці 49 тысяч беларускіх рублёў. Цяпер ён, гэты японец з Токіа, працуе над "Злачынствам і пакараннем", у планах – "Ганна Карэніна".

"Працуе", "у планах"... Усё як у дарослых.

Рымейкі, рэміксы... "Фабрыка зорак"... Бярэцца

старая цудоўная песня, пераспеўваецца, усё гэта без згадкі аўтара тэксту, без прозвішча сапраўднага -- першага – выканаўцы... Чорт ведае што. Плагіят, публічны крадзеж, злачынства без пакарання...

Ці мо я перабіраю меру? Мо яно так трэба? Іван Бунін таксама ўсё рваўся перапісаць "Вайну і мір"... У нас у газеце "Советская Белоруссия" апытанне: "Как вы относитесь к стёбному переосмыслению произведений Коласа и Купалы?" Леў Талстой любіў "переосмысливать" Мапасана, змяняючы сюжэт, загалоўкі... Адкуль гэты сверб да чужога? Ці мо сапраўды творчая ідэя, аднойчы рэалізаваная, адрываецца ад аўтара, пачынае жыць самастойна – настолькі, што на яе перастаюць дзейнічаць такія паняцці, як маральнае ці аўтарскае права? Дзяўчынка дасягнула паўналецця, атрымала пашпарт і больш не мае патрэбы ў апякунстве...

Не ведаю.

## 3.

Яно мне адразу не спадабалася, гэтае слова, як толькі яно выскачыла Піліпам з канапель і пайшло, пайшло гуляць рукі ў бокі!..

Слова "гламур". Карані яго ў лацінскім grammatica – вучэнне, з латыні патрапіла ў французскую мову і падзялілася на grammaire – тое ж вучэнне, і grimoire – вядзьмарская кніга, зборнік заклінанняў, а калі пераплыло ў Брытанію, да яго дабраліся шатландцы і прыдумалі ўласна glamour – чары, вядзьмарства. Інакш, гэта звычайны англіцызм, абгладжаны рускімі языкамі, помесь шатландскага з наўгародскім, з той жа серыі асацыятыўных неалагізмаў, як і піар, крэатыўны,



хайтэк... Яно, на думку тых, што яго ўвялі, прыгожа, загадкава гучыць. Тут і лямур, і тужур, і ажур, і гля-нец на вокладках часопісаў, і нібыта гля-нцаваты, гла-дкі стыль жыцця...

Піцерскі гламур... Маскоўскі гламур... Мінскі... "Вращение в гламурных кругах"... "Мечтаю воспитать свою двухлетнюю дочь в гламурной среде"... "Не принадлежу к гламуру, но стремлюсь к нему"... Кароль, каралева гламура... Як казаў герой аповесці У. Крупіна: "Яны там тое і робяць, што ўвесь час злучаюцца без разбору адно з адным, а нам глядзі па тэлевізары".

І як жа я добра парадаваўся (хараша парадаваўся, напісаў бы Янка Брыль), калі пачаў заўважаць, што мова спакваля, але ўпэўнена стрэсвае з сябе гэтую "сабчакаўшчыну", як з гэтага "гламура" пачынае аблазіць яго пошлы глянец, асыпацца яго фальшыва-бліскучае шалупінне... І вось ужо -- калі ласка, яно перад намі, слова-гібрыд, голенькае:

"Гламурнік адстойны...", "уже давно гламур ассоциируется с банальной безвкусицей", "гламур – не светский лоск, а светский лох..."

І г. д.

## 4.

Здаровая, жывая, прыгожая мова сама сябе фільтруе, сама лечыцца. І ўсё ж у некаторых выпадках ёй трэба наша дапамога.

Каму з нас са школы, ды з якой школы? – з даясельных яшчэ часоў не ўбівалі ў галовы: "У здаровым целе – здаровы дух"?

Ніколі не любіў. Не разумеў. Не верыў. Бо вочы маю, як мая маці казала, бо наглядзеўся ў жыцці на

безнадзейных, непапраўных калек з ідэальнымі целамі і на здаровых духам, прыгожых інвалідаў. Вось і рымскі сатырык Ювенал, той самы, з якога выбралі і перакруцілі гэтую цытату, таксама сумняваецца ў кульце цела:

"Orandum est ut sit mens sana in corpore sano", -- што значыць: "Як бы хацелася, каб у здаровым целе быў здаровы розум"; у перакладзе на сучасную мову яшчэ лепш: "Добра было б, каб спорт і фізкультура заадно развівалі і мазгі".

У сувязі з нашымі апошнімі цёплымі зімамі хто толькі (ад дворніка да міністра) не цытуе "Анегіна":

"...Зимы ждала, ждала природа.//Снег выпал только в январе", -- з бясплатным тлумачэннем, што во яно як у іхнія экалагічна чыстыя стагоддзі бывала!

Сапраўды, нешта неверагоднае. "В январе" -- у Пушкіна дакладна, трэцяга студзеня; накінем 14 дзён па старым стылі – 17-га! Катаклізм!.. Калі кепска чытаць геніяльны раман. Дастаткова перагарнуць пару старонак назад, туды, дзе: "Стоял ноябрь уж у двора…", "и вот уже трещат морозы…", "блистает речка, льдом одета" (на якім паслізнецца гусь); а вось і яно:

…Весёлый
Мелькает, вьётся первый снег,
Звездами падая на брег.

Так што, на жаль ці на шчасце, тады ўсё было як у нас цяпер, не лепш і не горш: то зіма, то адліга, і ў рамане снег выпадае, як і належыць яму, у свой час, у лістападзе, потым растае, а прыблізна на Вадохрышча зноў вяртаецца зіма.

Яшчэ агульнавядомае (лічыцца). Нібыта Ленін



аднойчы прачытаў "Палату № 6", адчуў фізічнае ўдушша, хутчэй захацелася яму на свежае паветра, і ён прамовіў геніяльна-крылатае:

— Вся Россия — палата номер шесть.

Я сам ледзь не задыхнуўся, ледзь сам не патрапіў у згаданую палату, шукаючы пачаткі і канцы гэтай прыгожай легенды, занадта прыгожай, каб быць праўдаю... Знайшоў – усё тое ж, што звычайна знаходзіцца ў падобных выпадках: "Как известно, Ленин не очень жаловал Россию, назвав её однажды...", "общеизвестно ленинское выражение...", "по меткому ленинскому сравнению...", "со школы мы знаем, что Ленин, прочитав Чехова...", "где-то... кажется... когда-то... исходя из ленинского известного..."

Ды каму "известного"? Дзе назваў? Пры якіх умовах? Мо хто ведае -- падкажыце, буду ўдзячны. Бо я пакуль магу назваць толькі аднаго аўтара гэтага параўнання, рускага пісьменніка Мікалая Ляскова: "У "Палаце №6" у мініяцюры паказаны агульныя нашы парадкі і характары. Паўсюль палата №6. Гэта Расія... Чэхаў сам не думаў таго, што напісаў (ён мне казаў гэта), а між тым гэта так. Палата яго – гэта Русь!"

"А.П.Чехов в воспоминаниях современников", 1947г., с.316. У пазнейшых перавыданнях гэтай кнігі Ляскова не знайсці.

Угадаем з трох разоў, чаму?

## 5.

І ў ноч і ў туман
Ім фарватар падкажа
Запалены Леніным
Вечны маяк.
(А. Вольскі)

Некалі ў студэнцкія гады дзякуючы гэтаму маяку я пацярпеў сур'ёзнае караблекрушэнне і ледзь не пайшоў на дно: атрымаў "нездавальняюча" па "Асновах марксісцка-ленінскай тэорыі культуры", пазбавіўся стыпендыі, семестр галадаў і ўвогуле толькі цудам утрымаўся ў інстытуце. Маю на ўвазе артыкул "Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура". Я ўсё ніяк не мог узяць у толк, каму трэба, каб пісьменнік быў "калёсікам і вінцікам" аднаго адзінага механізма?

Самому творцу хіба хочацца мець у галаве столькі нарэзаў, колькі ў вінціка? Не. Сістэме? І ёй выгадна, каб пісьменнік быў свабодны, каб, груба кажучы, піхаў свой нос ва ўсё, што яму цікава, а яна, сістэма, спадцішка назірала б за ім і рабіла свае высновы, і выпраўляла б тыя хібы, якія свядома ці падсвядома заўважае творца. Леніну гэта трэба было? Не – ён сам кажа, што "любое параўнанне кульгае; кульгае і маё параўнанне літаратуры з вінцікам, жывога руху з механізмам".

Карацей, нікому нічога я не даказаў, атрымаў "нездавальняюча", і вось праз 20 гадоў вымушаны зноў засесці за ленінскія працы. Цяпер мае выкладчыкі могуць ганарыцца мною. Многіх з іх любімых выдатнікаў-"шасцёрак" прымусіш цяпер вывучаць даўно адменены (за непатрэбнасцю) прадмет?



Чытаю, канспектую... Сілюся аддзяліць Божы дар ад яечні, бузіну ад кіеўскага дзядзькі, "мух ад катлет", спрабую рассмакаваць гэты стогадовай заляжаласці вінегрэт, гэты амлет з пралетарыяту, літаратуры і "сапог всмятку"... Сапраўды, не так проста. Супярэчнасцей да халеры. Адзін абзац літаральна перакрэслівае другі, адно слова адмяняе другое...

Ну што гэта такое: "Далоў літаратараў беспартыйных!" – і тут жа: "Горкі – аграмадны талент, але навошта Горкаму брацца за палітыку?"

"Газеты павінны стаць органамі розных палітычных арганізацый, літаратары павінны ўвайсці абавязкова ў партыйныя арганізацыі", – а ніжэй: "бясспрэчна, тут несумненна неабходнае забеспячэнне большага прастору асабістай ініцыятыве, індывідуальным схільнасцям, прастору думкі і фантазіі..."

"Літаратурная справа павінна стаць часткай агульнапралетарскай справы, "калёсікам і вінцікам...", – і зараз жа: "бясспрэчна, літаратурная справа менш за ўсё паддаецца механічнаму раўненню, нівеліраванню..."

-- Ну, -- праз гады пытаю ў сваіх выкладчыкаў, -- і за што мне "неуд"? "За что боролись?!" – крычаў мужык у часы антыалкагольнай кампаніі, душачыся ў чарзе да жаданага акенца.

Фінал артыкула прыводжу ў арыгінале, каб ні адна крупінка гэтых сапраўды залатых слоў не страцілася пры перакладзе:

— Успокойтесь, господа! -- звяртаецца Уладзімір

Ільіч да ўяўных апанентаў-інтэлігентаў, гарачых прыхільнікаў свабоды слова. -- Каждый волен писать и говорить всё, что ему угодно, без малейших ограничений.

I вось гэта, а не вінцікі, болцікі і гаечкі, бачыцца мне сапраўды мудрым, правільным, справядлівым, вартым усялякага вывучэння і канспектавання.

*2007 г.*



## СЕЧКА-11

*Раней усё стараўся, каб была хоць якаясь лейтматыўная лінія, адзін скразны герой (Ракаў, Пісьмянкоў, Варановіч, Рубанаў, Ленін, Сыс, Асташонак, Дамашэвіч, Быкаў...), каб існавала хоць нейкая "глабальная" думка, на якую, як пацеркі, нанізваліся б раздзельчыкі... А цяпер проста хочацца вольнага пісьма, хаатычнага россыпу разваг, абагульненняў-высноў, эпізодаў-выпадкаў – тых, што некалі, ці нядаўна, ды і цяпер падаюцца асабіста мне цікавымі.*

### 1.

У маю медыцынскую картку ў паліклініцы выпадкова патрапіла чужое паведамленне. Нікому яно не спатрэбілася, і я захаваў яго.

УЗ 2 ц р п-ка
Экстренное извещение
об инфекционном заболевании

1. Фамилия, имя, отчество пациента <u>А…ич Наталья Владимировна</u>

2. Дата рождения: <u>1956</u>

3. Пол: <u>мужской</u>, женский (нужное подчеркнуть)

Менавіта так – рашуча, упэўнена, безапеляцыйна падкрэслена: <u>**мужской.**</u>

І ўспомніўся мне стары, пахабны і па вялікім рахунку не смешны анекдот, які, тым не менш, ідэальна падыходзіць да нашага “извещения”.

Савецкі час. Яўрэй перабіраецца цераз мяжу на захад. «Стой, кто идёт? Фамилия!» – Такі й такі. «Имя!» Такое й такое. «Пол!» – «Женский». – «? – как? почему?» – «П…да я, п…да, зачем не пошёл другой дорогой!»

## 2.

Куды менш пахабнае, хоць і блізкае па тэме. Сусед па палаце, малады хлопец з пераламаным хрыбетнікам, раптам прамовіў, гледзячы ў жахлівую белату столі:

Страна нуждается в героях –
П...да рожает дураков.

І вось колькі ўжо часу – ці пазіраю ў вакно, ці ў тэлевізар, ці слухаю пра палітыку або сямейныя праблемы, ці рэдагую-перапісваю чужыя рукапісы, ці бадзяюся па вуліцы, ці спрабую пісаць сваё – перад усім успльваюць гэтыя словы – эпіграфам.

## 3.

...Прыязджаў некалі да мяне ў госці Алесь Асташонак, мы пілі, не разводзячы вадою, спірт, закусвалі чырвонай мурманскай рыбкай, ружовай беларускай паляндвічкай, і я, на правах гаспадара, ведаючы, што ў чужой кватэры Алесь наўрад ці скарыстаецца сваім разрадам па боксе, абдымаючы яго за плечы, чытаў-сцябаўся:



Я то хоть бульбаш обычный,
Ты же, извини, еврей.
Что ж так плачем неприлично
Над Радзімаю своей?

Мы с тобой, Алесь, по-нову
Тельник на груди рванём!
Ведь вначале было слово,
Пятый пункт – уже потом…

...Даўно ні Алеся, ні мурманскай рыбкі, ні пятага пункта, ні Цімура Кібірава (у сэнсе, дзе ён, хто ён?)... Што гэта, блін, было?! Дзе яно, блін, дзелася?!

## 4.

Сябар, каб прывучаць да роднай мовы свайго дзесяцігадовага сына, дае яму – не дае, нават загадвае, каб той чытаў хоць патроху “Шчарбаты талер”. Бедны малы! Бывае, спатыкнуўшыся на якім слове ці каструбаватым сказе, адкідвае ненавісную кніжку і ледзь не ў слязах крычыць:

– Гэта пісаў не Андрэй! (Ён мяне ведае, канечне). Андрэй такога не напіша!

А вось ужо іншы, не малы – тэлефануе: “Што ты пісаць стаў так нецікава, сечкі нейкія прыдумаў – слова калхознае, на Абрамовіча наехаў, яўрэем яго абзываеш (?) – і не баішся, ты што, зусім ужо...”

Бедная, бедная наша літаратура і культура. Як плакала некалі ў часы “Лысай гары” ціхенька ў кутку, так і будзе ўсхліпваць. Ну чаму ў ёй столькі ідыётаў, чым мы перад іншымі народамі прагнявіліся?..

І не паваюеш жа, не зменіш нічога – няма супраць дурня ні лома, ні прыёма; нездарма ж кажуць – хворы

вылечыцца, злачынца пакаецца, п’яны праспіцца, а дурны – ніколі.

Хаця... (Напісаў, а цяпер сам сабе буду супярэчыць.) Мо гэта ўвогуле тэндэнцыя, незалежная ад часу, узросту і нацыянальнасці? Антон Чэхаў – Авілавай:

“Горький... в последнее время начал писать чепуху, чепуху возмутительную, так что скоро я брошу его читать”. І годам пазней – жонцы, пра таго ж беднага Аляксея Максімавіча: “Что-то удивительно дикое. Если бы написал это не Горький, то никто бы читать не стал”.

Як афіцыйны рэдактар публічна я не магу дазволіць сабе падобнай раскошы ў ацэнках. А так, бывае, хочацца!

“Не, вы растлумачце, чаму мяне не друкуюць, не чытаюць, не перакладаюць, а калі друкуюць, чытаюць і перакладаюць, дык няма водгукаў, прэміяў, аддачы...”

Таму, дарагі, што пішаш ты “чепуху, чепуху возмутительную”.

І кропка.

## 5.

Гогаль, выбранае месца з “Выбраных мясцін з перапіскі з сябрамі”.

“Калі пісьменнік пачне апраўдвацца якімі-небудзь абставінамі, што паслужылі прычынай яго няшчырасці, ці неабдуманасці, ці хапатлівай неахайнасці слова, тады і кожны несправядлівы суддзя можа апраўдвацца тым, што браў хабар і выносіў несправядлівыя прысуды, складаючы віну на абставіны, жонку, сям’ю – ды ці мала на што можна спаслацца. Нашчадкам не будзе справы да таго, хто вінаваты, што пісьменнік сказаў глупства ці абсурд, альбо выказаўся прымітыўна.



Нашчадкі не стануць разбірацца, хто штурхаў яго пад руку: ці блізарукі хціўы сябрук, ці рэдактар часопіса, які клапоціцца толькі пра выгоды свайго выдання. Нашчадкі не прымуць да ўвагі ні кумаўства, ні блату, ні цяжкага матэрыяльнага становішча пісьменніка. Яны ўпікнуць толькі аднога пісьменніка. Чаму зламаўся, чаму не выстаяў супраць усяго гэтага?!”

## 6.

Пішуць (часта смакуючы, і гэта так брыдка!) пра душэўную хваробу Гогаля, шукаюць прычыны яе, і чамусьці ніводнаму з даследчыкаў (нават выдатнаму Анры Труаяя) не прыйшло ў галаву задумацца над простым. Бацьку Гогаля было 13, маці – сем месяцаў, і ён, гэты бэйбус, дужа любіў з гэтым, несумненна, прыгожанькім дзіцяняткам нянькацца, гулёкацца, сюсі-пусіцца... Калі ж ёй споўнілася 13, а яму 27, раптам узгарэўся жаданнем ажаніцца з ёю.

Пачалі адгаворваць Васіля адкласці вяселле хаця б на год; дзе там! – яно адбылося ўжо праз месяц.

І вось вынік. Само гэтае яшчэ дзіця нараджае (у супярэчнасці з нашым раздзельчыкам 2) генія, якіх мала ведаў свет, – з аднаго боку, а з іншага – які няшчасны лёс і нядоўгі век быў наканаваны яе беднаму сыну! “Мамачка, злітуйся з мяне, забяры мяне адсюль!..”

## 7.

У іншых народаў, у нармальных нацыяў: “Як справы, як жыццё, сям’я, бізнес?

– “Ол райт! Окей!”

У нас: “Як справа?”

– “Як злева, так і справа”...

“Ну, а так, як яно, жыццё?”

– “Магло б быць лепш...”; “Ні то ні сё, ні два ні паўтара, ні пяць ні дзесяць...”; “Абы дзень да вечара...”; “Жызнь бекава: пая...аў бы – ды некава”, або, як выказаўся мой стары настаўнік беларускай мовы і літаратуры: “І не жывецца, і яб...цца”...

“Ну, тады – як дзела?”

– “Дзела ў пракурора, у нас дзялішкі...”

У самога не кватэра – катэдж, машыны дзве-тры, жонка-красуня, палюбоўніца (не адна), пасада (не адна) грашовая, прэстыжная, а ўсё ўздыхае, усё яму “бекава”...

Беларуская адвечная перастрахоўка, абы не пазайздросцілі, не сурочылі. Народзіцца немаўля – не хваліць яго, яшчэ і плюнуць на яго. Карова ацеліцца – “а каб гэтае цяля да лета не дацягнула!”... Калі хто жадае на словах дабра – нешта тут не так, значыць, у душы штосьці нядобрае мае.

І вось яна – выпаўзае з глыбіні стагоддзяў – замова ад сурокаў:

На “Добры дзень!” – “Штаны здзень”. – “Добрага ранку!” – “Спіну табе ў абаранку”. – “Здароў!” – “Здаравейшых бачылі”, або “Пасі кароў!”



На “Добры вечар” – “Дзячыць нечым!”, на “Дзякую” – “Па спіне ламакаю”...

А гэта што, бадай, самае і паўсюль распаўсюджанае: “Памагай Бог!”

– Казаў Бог, каб ты памог.

У нашай вёсцы жыў некалі камуніст, у вайну яго забілі, дык ён звычайна, калі падыходзіў да талакі, жадаў (не скажа ж атэіст: “Бог у помач”):

– Слава труду! – на што абавязкова якісь дасціпнік, не адрываючыся ад работы, буркаў: “Пацалуй бабу ў п...у”, і камуніст не крыўдзіўся.

## 8.

“Як людзі кажуць” (друкавалася мною ў 1993 годзе ў газеце “Наша слова”, нават Анатоль Клышка хваліў); тэма – правільна каты ці кошкі? Усе слоўнікі, якія ўдалося пераглядзець, даюць кальку з расейскай: “дарогу перабегла кошка”, “сямейства кашэчых, кашачых”, “кашэчы канцэрт”, “гульня ў кошкі-мышкі”, “кошкі на душы скрабуць” (дарэчы, чаму не шкрабуць?), “ведае кошка, чыё мяса з’ела”, казка “Кошкін дом”, і г.д., таксама ў слоўніках замацавана дыялектнае слова “котка” жаночага роду.

Між тым у жывой народнай беларускай мове слова “кошка” ўжываецца ў адным-адзіным значэнні – калі трэба падкрэсліць, што гэта менавіта кошка, а не кот, калі, груба кажучы, зазірнуць ёй пад хвост. Ва ўсіх астатніх выпадках: каты – зборнае значэнне,

выразы – кацiны бацька, ведае кот, чыё мяса з’еў, як кот наплакаў, кот дарогу перабег, кацiны канцэрт (ва ўспамiнах П. Мядзёлкi – “... у касцёле запраўды кацiны канцэрт, хоць вушы затыкай”). Гульня “в кошки-мышки» па-беларуску заўсёды звалася “квач”...

Во праблемы былi 15 гадоў назад! Цяпер бы iх нам.

**9.**

– А нужен ли слепым свет?
– Нет.

Часта думаю: каму гэта трэба? Тое, што я столькi часу (з 2002 года) таўку ваду ў ступе? Сто разоў пiсаў i тлумачыў, што пад час i падчас – розныя часцiны мовы, што ёсць лёгкае правiла: калi можна замянiць на “ў час”, тады i “пад час” пiшацца асобна. Усё адно пасмiхаюцца i робяць па-свойму, г.зн. ва ўсiх выпадках пiшуць злучна, тлумачачы – “так па слоўнiку”. Дык будзьце прынцыповымi да канца, пiшыце, як па слоўнiку – гарком, камунiзма, сацыялiзма...

Прапанаваў некалi прыгожае слова “занiзкi” замест польскага “каралi”, i што – узяў яго хто-небудзь, скарыстаў дзе-небудзь, адзначыў хоць бы?

Спрабаваў даказаць, што пiсаць Фiнляндыя i Грэнландыя ў абодвух выпадках варта было б цi праз я, цi праз а – i што? Нуль на масу.

Толку, што разбiваў лоб, каб давесцi, што i прыгажэй, i па народнаму – на лобе, а не на iлбе, на лёдзе, а не на iльдзе, чацверкам, а не чацвяргом, – i што? “Пофiк дым”.

I ўсё ж!.. Вада камень точыць. Натыкнуўся ў тым жа “Арфаграфiчным слоўнiку” 1990 г.в., якi для нашых



афiцыйных карэктараў i пiсьменнiкаў ёсць Евангеллем, на сказ, якi крыху пагрэў мне душу; вось гэты:

“Пры падрыхтаваннi шостага выдання слоўнiка **ўлiчаны слушныя заўвагi чытачоў**”... Не сумняваемся, што наперадзе будзе яшчэ i шаснаццатае выданне.

*1993, 2008гг.*

## СЕЧКА-12

### 1.

У вядомым мультфільме Дзед Мароз пытае ў вульгарнага шафёра: “Скажы, мілы чалавек, а што такое лета?” – так і ў мяне, бывае, калі-нікалі шчыра цікавяцца:

– Што азначае само слова – сечка?

Я тады хлушу, што гэта наватвор, слова-выдумка, як у рускай мове – “дэцал”; так па-беларуску называецца нешта кароценькае, аднаднёўка, мініяцюрка, вытрымка з дзённіка, карацей – “запіс”, як проста і коратка назвалі гэты жанр у “Дзеяслове” (“Слова ад “Дзеяслова” і “Дуліна ад Барадуліна”).

Мне кажуць – мала. Ты пішаш усё менш і ўсё карацей. А мне б хацелася навучыцца так – восеньскі ліст адарваўся ад галіны, і пакуль падае, марудна кружачыся, на зямлю – вось бы злавіць гэты адрэзак часу і “ўпіхнуць” у яго думку. Альбо – пісаць дубчыкам на мокрым пяску паміж прылівам і адлівам. Напісаў – накаціла хваля, змыла і забрала з сабою ў нікуды, ці, лепш сказаць, у сваю бязмежную прастору.

“След мой волною смоет, а я на берег с утра приду опять...”



### 2.

Бо дзень і ноч працуе ўдарна
Літаратурная сячкарня.
У. Мазго

“Сярдзіта зашамкала сячкарня вострымі нажамі, перасякаючы салому на дробныя шматочкі” (Я. Колас).

Што ў гэтым сказе? У гэтых свісцячых “с” і пагрозлівых “р” і “ж”? Правільна – папярэджанне аб пільнасці, тут не да жартаў – будзь напагатове, трымай вуха востра, а рукі не піхай куды не след!

Небяспечная штука – сячкарня. Не для тых, хто круціць (а круцілі зазвычай па двое, знарок наймалі для гэтага жанчын), – для таго, хто падае ў барабан салому або выграбае з бункера, з-пад крывых нажоў, сечку. Рабіў гэта, як правіла, сам гаспадар. У нашым выпадку Арцень. Ды вазьмі ты палку, ёсць жа, урэшце, спецыяльная лапатка – не, хочацца хутчэй, рукамі, памацаць, лішні раз да свайго дабра дакрануцца...

Вынік: шах-шах! – два пальцы Арценю як карова языком злізала. Упалі ў бункер і пакаціліся ў мяшок. І што? Пакрычаў, пабегаў, паплакаў, заматаў анучаю, дарэзаў сечку... Пасля расказваў, што на вайне гранатаю адарвала. Пакрысе сам паверыў, хадзіў выбіваць паперы ветэрана вайны... Было яму пад 60. І жыў ён яшчэ гадоў 20 без гэтых пальцаў, нібыта без іх і нарадзіўся.

Я ніколі не разумеў – як так лёгка прывыкаюць людзі? Тут хворы зуб вырываць, і то перадумаеш, нашкадуешся, гэты ж зуб столькі быў з табою, памагаў табе есці, яму ж таксама жыць хочацца... А то два рабочыя родныя пальцы!

Яшчэ адзін, Мікола, таму на пілараме адхапіла кісць правай рукі. 50 гадоў. Паляўнічы, матацыкліст,

рыбак, вясковы, карацей, дзядзька. Ды іншы змарнеў бы ад гора, памёр бы! Гэтаму хоць бы хны. Адзене на куксу шкарпэтку, кіруе адной рукой матацыклам, для касы зрабіў цераз плячо шлейку, рыбу таптухаю ловіць, сякерай нешта цюкае – хіба што мат-перамат на ўвесь двор.

А то Люша (ад Іллі), адзін з нямногіх няспітых мужчын, ну, дзядоў. Усё прасіў мяне сфатаграфаваць яго, толькі абавязкова з канём – у яго свой конь. Во, думаю, якія лірычныя вясковыя людзі, правільна нашы пісьменнікі пісалі. Аказалася, уласная картка яму сто гадоў не трэба, гэта каня перыядычна крадуць, дык каб потым праз міліцыю лягчэй было па фотапартрэце яго адшукаць. Прыязджаю чарговы раз у вёску – у Люшы пальца няма! “Сячкарняй адрэзала... Да-а, ерунда!” Вясёлы, шчаслівы... Самому пад 70.

А каб на вас з вашымі сячкарнямі, з вашымі пальцамі і з вашымі галовамі!

І незразумела, і зайздросна.

## 3.

У “Маладосці” № 4 за г.г. крытык Ігар Запрудскі выступае з чарговым артыкулам “Бадай-2”, дзе запрашае да палемікі – да “субяседавання” пісьменніка з крытыкамі ды супрацоўнікамі рэдакцый.

Калі ласка.

Асноўная мэта даволі аб’ёмнага артыкула: “Трэба намагацца нетупа ствараць вобраз баларускага Супергероя... нацыянальнага Героя без недахопаў і заган”.

Уяўляю, што гэта будзе за герой. І што крытыцы з ім рабіць? Як пра такога пісаць? Крытыку заклікаць да стварэння такога тыпа – тое самае, што пісьменніку марыць, каб мастацкія рэчы пісаў камп’ютэр. Каму і навошта тады спатрэбіцца сам пісьменнік?

Увогуле, з артыкула можна даведацца шмат цікавага. Напрыклад, як у часы Рыгора Бярозкіна “слова *цыцка*, як частка жаночага цела, не мела права на існаванне”, а таксама, што “ў некаторых творах нашай найноўшай літаратуры назіраецца відавочнае імкненне не грэбаваць пахамі грамадскай прыбіральні”.

Самае смешнае, што ў беларускай мове цыцкі і грудзі – не адно й тое ж (у нашых грудзей няма адзіночнага ліку), а самае сумнае – што пахі ханжаства і ілжэ-цнатлівасці куды брыдчэйшыя за пахі прыбіральні. У якую, дарэчы, сапраўды наша літаратура раней ніколі не заглядвала. Героі прачыналіся, снедалі – і адразу ж за працу. Калі ў “Знаку бяды” Пятрок, апынуўшыся ў Мінску, захацеў па малой патрэбе, гэта была вялікая пісьменніцкая “смеласць і знаходка”, а з нявіннага і натуральнага жадання героя вырас цэлы вялікі раздзел. Якому ў сваю чаргу прысвеціць цэлы вялікі артыкул пад красамоўнай назвай – “Нявыкрутка” – крытык Сяргей Дубавец: пра “катастрафічную ментальнасць” і “катарсіс” беларусаў.

## 4.

Калі ўжо размова зайшла пра ханжаства, ёсць такая рэч, як ужыванне (ці злоўжыванне) слова “Бог” у літаратуры.

Дастаеўскага ўпікалі, што ён “піхае Бога куды трэба і не трэба”. Упікальшчыкі ўявіць сабе не маглі, якія маштабы гэтае піханне, гэтая згадка Бога “всуе” набудзе ў нашы дні.

Ну, можна карыстацца ўводнымі словамі, устойлівымі выразамі – “далібог”, “дай Бог памяці”, “Божа ты мой мілы// Б’юся я, як гад”...

Але – “Аповесць-малітва”! “Паэма-малітва”! “Прысвячаецца мне, Богу і егіпецкай царыцы Клеапатры”. “Божа, дай здароўя мне, маім дзецям, унукам, праўнукам, нашчадкам і спадкаемцам, і пляменнікам...”

“Это финал? – пытаў герой фільма “Пакроўскія вароты”. – Нет, вы мне скажите, ЭТО финал?!”

Вяртаю аўтару апавяданне:

– Не пойдзе.

– Чаму?!

– Таму што суцэльнае божканне.

– Усё правільна. Чым часцей паўтараць слова Бог, тым лепш. Я некалі даў зарок: у кожным вершы, у кожным апавяданні ўжываць гэтае слова не менш, як 17 разоў. Больш – можна.

– А вы ведаеце, што гэта грэх? І ў рэлігійным, і ў мастацкім сэнсе? Вы не спрабавалі проста напісаць 17 цікавых эпізодаў, 17 жывых дыялогаў і 17 арыгінальных малюнкаў прыроды? І тым самым уславіць Бога больш за прамую згадку яго?

Аўтар, на шчасце, была не скандаліст. Ён толькі крыху здзівіўся:

– Так? А я неяк і не падумаў...

Вышэй напісана – “у нашы дні”. Ды не, разумелі і раней. Якуб Колас, “Песьні жальбы”, 1910 год:

Божа, Божа, твая воля!
(Хоць гэта можа быць і грэх.)

**5.**

Выпадак з божканнем – маленькая ілюстрацыя, што такое рэальнае жыццё і што такое літаратура.

Адзін і той жа факт у жыцці можа выклікаць разуменне і павагу, і той жа самы факт, перанесены ў літаратуру – раздражненне і непрыняцце. І, адпаведна – наадварот.

Уявім футбаліста. Які б свабодны і незалежны ў рэальным жыцці ён ні быў, у межах зялёнага газона ён вымушаны дзейнічаць па законах тэрыторыі, на якой апынуўся.

Літаратура – хоць і геніяльная, але таксама ўсяго толькі гульня. (“У бісер”, як заўважыў немец Г. Гесэ.) У яе ёсць свае законы і правілы. Іх, канечне, можна парушаць, з імі можна не лічыцца, але тады трэба быць гатовым, што за гэта будуць паказваць жоўтыя і чырвоныя карткі і ў выніку выдаляць з поля.

Ніхто не мае права ўказваць чалавеку, як часта і ў якіх выразах яму звяртацца да Усявышняга.

Але калі гэта набіраецца на камп’ютэры, падпісваецца сваім іменем, выстаўляецца на ўсіхнія вочы, ды яшчэ падаецца з праматой аглоблі і з бязбожным самалюбаваннем, гэта яўнае, не вартае ніякіх дыскусій і спрэчак (бо яно па-за межамі літаратурнага “зялёнага газона”) антымастацтва.

**6.**

Часам гартаеш пісьменніцкі даведнік і дзіву даешся. Маю на ўвазе псеўданімы. Чалавек з прыгожым натуральным прозвішчам мяняе яго на зусім немілагучнае. Або бярэ псеўданім амаль такі самы, як і прозвішча.

Прозвішча Тумас, псеўданім – Тумаш. Рукапіс у рэдакцыі, прозвішча аўтара – Рулік, псеўданім – Круглік. Забіце мяне, не разумею.

Вольныя, Свабодныя, Чорныя, Белыя, Грэшныя... Дзям’ян Бедны, Максім Горкі, Антон Крайні (псеўданім З. Гіпіус)...

Разумею Коласа, які не мог працаваць пад прозвішчам Міцкевіч, разумею ў прынцыпе і Максіма Танка, хоць і не ўспрымаю гэтае "мілітары". Некалі ўсё чапляўся да Алеся Жука: "Навошта лірычнаму паэту, аўтару "Аве Марыі", такі цяжкі, гусенічны псеўданім?" – "Што ты з яго хочаш, – неахвотна адказваў Алесь Аляксандравіч, – сялянскі сын, мода тады такая была"...

Тое самае, як цяпер бы гучала – Максім Ноўтбук.

Быў Васіль Быкаў, і застаўся Быкавым. А калі б ён быў Васіль Гармата? Ці Васіль Аўтамат?

"Дарэчы, мяне пры нараджэнні, – піша Бунін, – ледзь не назвалі Філіпам. Уяўляеце, каб гэта здарылася – я зваўся б "Филипп Бунин". Цьфу! З-за такога гнюснага сугучча я, мабыць, і друкавацца ніколі б не стаў".

## 7.

Колькі намучыўся я са сваім прозвішчам, не перадаць.

У самалёт не пускалі, на мытнях затрымлівалі, ганарары не плацілі... Такая прыемная справа, як хадзіць на пошту атрымоўваць грашовы перавод, заказное пісьмо ці бандэроль – для мяне выпрабаванне, ніколі не атрымаецца без праблем.

Справа ў тым, што ў метрыках і ў пашпарце я запісаны па-руску як ФедАренко. А ўсе паперы, канечне ж, афармляюцца на ФедОренко.

У саміх рускіх такіх праблем няма чамусьці. Арлазоров, Аршавин, БАрщевский... У нас бы 100 працэнтаў пісалі Орлозоров, Оршавин і БОрщевский.

Чарговая сварка на пошце. "Почему в паспорте у вас одна фамилия, а в компьютере – другая?.." Не вытрымліваю:

– А як ваша прозвішча?



– Ка-зо-рез, – па складах адказала дзяўчына, упэўненая, што ў яе з гэтым усё ў парадку.

Даўно "крамольна" здагадваюся: майму беларускаму, прыгожаму, лёгкаму ў вымаўленні і ў напісанні, нармальнаму прозвішчу знарок, каб жыццё малінаю не здавалася, навязваюць транскрыпцыю іншай мовы. Няхай сабе і тысячу разоў братняй. А нельга, і не працяй назаўсёды зняць усе пытанні, калі пісаць толькі ў двух варыянтах: ФЕДАРЭНКА раз, і FEDARENKA два?

Без наўгародска-валагодскіх пасрэднікаў?

## 8.

Прыйшла ў рэдакцыю дзяўчына, прынесла апавяданне. Цуд, а не апавяданне! Якія ў нас растуць таленты! А якая прыгожая, сціплая, маладая...

Дабіраюся да прозвішча, якое чамусьці не на першай старонцы, над назваю, а на апошняй, у канцы, чытаю – і вачам не веру. Іна Бл...дкіна. Можа, розыгрыш? Навошта? Ну, нічога, не бяда. Акурат той выпадак, калі псеўданім проста неабходны. Пагавару, яна ўсё зразумее... Званю. Прыходзіць аўтарка. Глядзіць на мяне:

– Можаце не старацца. Я ўсё зразумела.

Забірае рукапіс і, горда несучы прыгожую галаву, выходзіць.

Ну і правільна, Іна! Чорт з ёй, з літаратураю! Прозвішча, як і радзіму, не мяняюць, тым больш, усё адно хутка замуж, і тады тваё ад цябе не ўцячэ – станеш яшчэ выдатнай пісьменніцай...

Як рэдактар кажу.

*2009г.*

## СЕЧКА-13

### 1.

Пасля выхаду першай часткі майго рамана "Мяжа" па "сапсаваным тэлефоне" да мяне даляцела першае рэха:

– Колькі ён яшчэ будзе выварочваць сваю дробную душонку?

Гэта так мяне ўразіла, так спадабалася, так нагадала сёе-тое, што не магу не падзяліцца цытатай.

*"В этой повести автор выворачивает наизнанку свою пошлую и низкую душонку, делая это с наслаждением, со смакованием, с желанием показать всем: – смотрите, вот какой я хулиган.*

*Трудно подыскать в нашей литературе что-либо более отвратительное, чем та "мораль", которую проповедует автор в своей повести, изображая людей и самого себя как гнусных похотливых зверей, у которых нет ни стыда, ни совести"...*

Можна падумаць, што гаворка як мінімум пра якога-небудзь сучаснага Сарокіна. А між тым гэта цытата з даклада А. Жданава, 1946 год; маецца на ўвазе савецкі пісьменнік Міхаіл Зошчанка і яго аповесць "Перад узыходам сонца".

Канечне, само па сабе дзіка, як за бязвінны тэкст, – а аповесць абсалютна бязвінная, як бязвінны любы шэдэўр, – можна было страціць не толькі членства ў



Саюзе пісьменнікаў, прадуктовыя карткі і магчымасць друкавацца, а і ўласна галаву. Уражвае іншае: поўнае неразуменне Андрэем Аляксандравічам Ждановым, 1-м Начальнікам Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК ВКП (б), што такое "отвратительная мораль", якой яна бывае ў сапраўднасці і ў літаратуры.

### 2.

Вось апавяданне аднаго сталага беларускага аўтара пра вайну. У Берліне ідуць апошнія баі. Савецкі салдат Іван заглядае ў падвал ("не інакш, як там схаваліся гансікі, падумаў ён") і бачыць на доўгай лаўцы немаладых жанчын у чорных апратках. Пад шырокай спадніцай адной з немак схавалася дзяўчына. Нядоўга думаючы, Іван бярэ яе за руку і цягне за сабой у ацалелую пабудову. "Хоць яна і малодзенькая (націскае на "о" аўтар), а такая ж галодная, як і я, – паспеў падумаць ён, лежачы побач з гарачым, поўным жадання целам дзяўчыны". Зрабіўшы сваю работу, Іван на руках адносіць дзяўчыну назад у падвал, і калі яна "зноў апынулася пад спадніцай сваёй маці, Іван узяў халодную руку фраў, пацалаваў яе і сказаў ёй "данке".

Замілаванаму "красівай карцінкай" аўтару і ў галаву не прыйшло, што вось гэтае, *пасля ўсяго*, гжэчнае цалаванне ручкі і гуллівая падзяка – самы што ні на ёсць яскравы прыклад амаральнасці, цынізму, апафеоз пошласці; не – наш дзівак-аўтар усур'ёз лічыць, што ягоны персанаж – герой не толькі ў літаратурным, пераносным значэнні, але і ў прамым, чалавечым – гуманны, выхаваны савецкі Герой, варты перайманне.

## 3.

Вернемся, аднак, да сапраўднай літаратуры, да Зошчанкі. Што ж гэта быў за такі чалавек і пісьменнік? Якога любіў чытаць уголас Сталін; аднойчы смяяўся ледзь не да слёз, потым сказаў: “А тут т. Зошчанка ўспомніў пра ГПУ і змяніў канцоўку”. Якога часцей за ўсіх савецкіх пісьменнікаў згадвае Набокаў – ажно тройчы, у той час як, напрыклад, Шолахава, Пастэрнака, Салжаніцына – па адным разе, Булгакава – зусім ні разу... З якім за гонар лічыў выпіць Ясенін і пагутарыць Маякоўскі. Славутасць якога была такой, што часта ён вымушаны быў спыняцца ў гатэлях пад чужым прозвішчам, у той час як па бяскрайніх эсэсэраўскіх дарогах бадзяліся адразу некалькі, як дзяцей Шмідта, фальшывых Зошчанкаў.

Чаго яму не хапала? Чаму не жылося? Што ён усё шукаў? Навошта ў 1942 годзе напісаў тую злашчасную аповесць, а ў 1943-м вырашыў друкаваць яе? Пра што яна?

Ды ўсё пра тое ж. Вечныя пытанні, якія рана ці позна, так ці інакш паўстануць перад любым – без выключэння – творцам, і кожнаму (як кажа Мікола Мятліцкі, “у меру свайго таленту”) давядзецца вырашаць іх.

Рэальнасць ці адлюстраванне? Фантазіі на тэмы жыцця – ці проста жыццё? Творчасць – ці нармальнае існаванне здаровага чалавека?

Зошчанка вельмі пільна ўгледзеў і хутка разабраўся, што розум, звязаны з мастацтвам, з творчасцю, часцей церпіць пакуты, беды, хваробы, у прынцыпе невядомыя чалавеку “сярэдняму, звычайнаму”.

Арганізм у стадыі творчасці – гэта гарэнне свечкі, запаленай з двух канцоў, гэта высмоктванне здароўя, мардаванне сябе, знясільванне, неўрозы, псіхозы, хуткая старасць, ранняя смерць. Вось чаму немагчыма радавацца жыццю, захлынацца простым шчасцем існавання, як у маленстве. Творчасць, літаратура – “варварскі занятак, не ўласцівы мужчыну і чалавеку”.

“Я ж арганізую сваю асобу для нармальнага жыцця, – казаў Зошчанка яшчэ ў 1927 годзе Чукоўскаму (такому ж неўрастэніку, як сам). – Трэба быць чалавекам добрага трэцяга гатунку. Я цяпер, калі кепскае апавяданне напішу, усё роўна друкую. І гарэлку п’ю...”

Але тут новая праблема. Калі стаць “трэцім гатункам” (яшчэ паспрабуй ім стаць), г.зн. абсалютна здаровым чалавекам – *зусім* адпадзе патрэба ў *любой* творчасці. Здаровы нармальны чалавек канечне ж выбярэ рэальнае жыццё замест бясплодных фантазій, яму проста не будзе часу забіваць галаву прыдуманымі персанажамі, калі вакол поўна рэальных людзей з сапраўднымі, жывымі пачуццямі.

Тады не напішаш нават кепскага апавядання, і гарэлкі не будзе на што купіць.

Запаведная мара кожнага творчага чалавека – навучыцца сумяшчаць несумяшчальнае. Як бы гэта ў першай палове дня “ствараць шэдэўры”, а пасля абеду памяняць псіхіку, як кашулю ці шкарпэткі, і стаць звычайным, “як усе”? Зошчанка неўзабаве на “трэці гатунак” забываецца і адным абзацам, катэгарычна сумяшчае несумяшчальнае:

“Абсалютнае здароўе зусім не пазбаўляе магчымасці быць творцам, мастаком. Наадварот, абсалютнае здароўе – гэта ідэал для мастацтва. Толькі тады яно можа быць высокім, сапраўдным, паўнавартым...” і т.п.

Сказана – зроблена. Па сутнасці, лепшыя гады жыцця пісьменнік паклаў на змаганне... з уласным талентам. І атрымалася! І ўдалося! Ад неўрозаў, псіхозаў,

ад цэлага букету фізічных хвароб Зошчанка пазбавіўся без усялякіх дактароў. Практычна здзейсніўшы подзвіг. Перамог, як бы там ні было. І калі, ужо здаровым, "як усе", чалавекам ён расправіў плечы, пацёр рукі і паспрабаваў пісаць так, як раней, калі быў хворы, аказалася, паводле дакладной гэбэшнікаў (менавіта – тады яго ўжо "курыравала" не ГПУ, а Міністэрства дзяржаўнай бяспекі), што "творчасць Зошчанкі ў апошні перыяд мастацкай каштоўнасці не ўяўляе".

Які трагічны прысуд! Як жорстка адпомсціла жыццё непаўторнаму мастаку за ўсяго толькі жаданне крышку пасядзець адразу на двух крэслах...

## 4.

Тым не менш пытанне ставілася правільна, і яно надзвычай важнае.

Давайце паглядзім, колькі гадоў усім гэтым геніям-паэтам-філосафам? Цытатамі з якіх нас нашпігоўвалі са школьных гадоў? Дваццаць сем... Трыццаць пяць... А таму? Сорак. А іншаму? Трыццаць восем. Дваццаць пяць. Трыццаць тры.

"Философом в осьмнадцать лет..."

Міжволі банальнае – "калі ты такі разумны, чаму не багаты?" ператворыцца ў – "калі ты такі таленавіты і мудры, чаму так мала і, у прынцыпе, так нецікава пражыў?

Чаму не ўсё, што можна было, ад жыцця ўзяў?

Чаму не пастараўся паставіць свой розум на службу сабе, свайму здароўю, целу, псіхіцы?

Чаму не выкарыстаў свой талент на проста ўменне жыць, даўжэй, паўней, прыгажэй, з большай карысцю для сябе, для сваіх блізкіх, а ў ідэальным варыянце – і для дальніх"?



## 5.

Праўда, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што некаторымі творцамі такія глабальныя праблемы вырашаюцца з геніяльнай лёгкасцю.

Вось маленькая рэальная гісторыйка. Я куру. Многа. І, відаць, збоку гэта выглядае неяк непрывабна, ненатуральна ("малы, худы і кашляе"), словам, не так, як у іншых, бо не магу прыгадаць пісьменніка, за выключэннем хіба што Быкава, які не рабіў бы мне мімаходзь заўвагі:

– А вось курыць не варта.

– Я не ў зацяжку, – спачатку аджартоўваўся я.

– Гэта яшчэ горш.

– Я дамскія, з фільтрам, толькі супер-лайт, амерыканскія...

– Амерыканскія самыя шкодныя.

Тады я паспрабаваў ускладніць жарты:

– Я толькі калі вып'ю куру.

– Вось бачыш! Адна гадасць другую цягне.

Ніколі, ніводнай усмешкі ні на адным твары мне выціснуць не ўдалося. Затое лішні раз пераканаўся, што гумар і беларускія пісьменнікі – асобная тэма.

Аляксей Слесарэнка, славуты тым, што здымаўся ў ролі падпаска ў фільме "Вясёлыя хлопцы" ("легко на сердце от песни веселой"), а таксама сыграў Мірона ў "Палескіх рабінзонах", – Слесарэнка нарэшце коратка і ясна ўсё растлумачыў.

– Не куры.

У яго нядаўна памерла жонка, якую ён вельмі любіў, і розныя жарцікі тут былі б недарэчы.

– Дзядзька Ляксей. Я б з радасцю не курыў. Але ўжо ўмоўны рэфлекс: цыгарэта ў роце – мазгі ў рабоце. Калі я кіну, я не змагу пісаць. Так што маленькая мадэль вечнага выбару: або – або; ці літаратура, ці свядомае

забойства здароўя.

– Ну-у, калі так стаіць пытанне... Тады трэба ахвяраваць гэтай, як яе, літаратураю.

### 6.

Пакуль пісаў гэтыя шэсць старонак (з перапынамі паўтара гады), патрапіла на вочы яшчэ апавяданне, ужо не сталага, а добра старога аўтара.

Таксама сімпатычны, у тэму прыклад: чалавек і пражыў многа, і па-ранейшаму займаецца творчасцю...

Апавяданне пра сучасную вёску. Хоць яна і сучасная, але герой стары, той самы, што ўсё пускае хітрую ўсмешку ў пшанічныя вусы; вясковы, мудры, бессмяротны дзед, які ведае пра ўсё на свеце. Хіба што ва ўнутраную палітыку цяпер абачліва не лезе. Ды яшчэ лексіка яго змянілася. Не, ён не каверкае ні смартфоны, ні мабілы, ні вінду, ні кампы, – ён проста пачаў казаць так:

“Эх-ма”, “то-біш”...

“Ей-права”, “знам-дзела”...

“Дзе-скаць”, “та-скаць”...

“Сядай, мілок”...

“А вось мы лучку, агурчыкаў”...

“Няма дзе рабяткам галубоў паганяць”... (Якіх у Беларусі зроду ніхто ніколі не ганяў.)

“Была і ў мяне зазноба”...

“Назваўся груздом – лезь у кузаў”...

Пажадана самазвальны. А мы тут пра нейкія высокія матэрыі – што з чым сумясціць, ды як гарманізаваць... Дзівакі, ей-права!

*2010 г.*



## СЕЧКА-14

### 1.

Крытык Леанід Галубовіч піша – не ў прыватным нататніку, не на сцяне грамадскай прыбіральні, не ў камп’ютарным Livejornal, а ў тоўстай афіцыйнай кнізе, “ничтоже сумняшеся”:

“Федарэнка – убогі геній сучаснай нацыянальнай прозы і самотны пакутнік уласнага няўдала скроенага жыцця”.

Аднаму Алаху вядома, што Лёня хацеў гэтым сказаць. Можа, ён сабраўся за мяне замуж і цяпер выбракоўвае за хібы? Ці наадварот, я – змучаны няўдалым асабістым жыццём, прэтэндую, як мінімум, на лішнія квадратныя метры яго жылплошчы?

Калі для Галубовіча я – “убогі геній у літаратуры”, дык для пісьменніцы Паліны Качатковай – “Пільны Бібліятэкар у літаратуры”. І вось гэта, як мне падаецца, найбольш адпавядае сапраўднасці. Калупаючыся ў розных каментарах, зносках, спасылках, разбіраючы ледзь не з лупаю драбнюткія шрыфты варыянтаў, я адчуваю проста фізічную насалоду, калі адшукваецца хоць на маленечкая знаходка, доўга потым у адзіноце любуюся гэтай вымытай з тонаў шлаку залацінкай, не жадаючы з ёю развітвацца, не хочучы несці ў “скупны пункт”, інакш – друкаваць.

Вось чытаю – з самага лета – таўсценны том

пісьмаў Чэхава. І ў гэтым таўсценным томе, на жаль, поўна купюр. Але ўсё гэта акупаецца ціхай прыемнай радасцю, калі натыкаешся раптам на дэталь, якая самым неверагодным чынам пераклікаецца з... галубовічаўскім пасажам:

“Па вёсцы (піша Чэхаў) я праходжу не часта, і бабы сустракаюць мяне прыветна і лагодна, са шкадаваннем, як юродзівага”.

І далей – нібы пасланне-падтрымка нашаму пісьменніку-містыку Анатолю Казлову: “Надакучыла ўсё адно й тое ж! Хочацца пра чарцей пісаць, пра страшных, вулканічных жанчын, пра ведзьмакоў – але! Патрабуюць цнатлівыя аповесці і апавяданні пра Іванаў Гаўрылавічаў і іхніх жонак”. (Потым Маякоўскі з пагардлівай злараднасцю будзе называць літаратуру такога кшталту – “про дядю Ваню и тётю Маню”.)

Які-небудзь даследчык іншага калібру, канечне, ухапіўся б за Івана Гаўрылавіча, згадаў бы “святлейшага” Чыгрынава... Але мы не з такіх. Мы тут такое ў гэтых пісьмах выгледзелі, што любому гурману-філолагу толькі ахнуць. У наступным раздзельчыку будзе і пра ўбогасць, і пра юродства, і пра неасцярожнае абыходжанне са словам, і пра кашчунны гумар...

Вось ён, гэты №

## 2.

Іван Бунін у сваім так і няскончаным даследаванні “Антон Чэхаў” ускліквае:

– Очень зоркие глаза дал ему Бог!

І ўсё. Адзін сказ, адбіты зверху і знізу рыскамі. Проста як бы асноўная думка будучага раздзела. Потым, гэта, канечне, планавалася развіць, і мы нават можам здагадвацца, у якім накірунку: Бунін багатварыў



чэхаўскі “Стэп”, а там якраз і адшукваецца кавалачак з фенаменальна зоркім героем Васем – за некалькі кіламетраў той умудраўся ўбачыць “лісіц, якія гуляліся, зайцаў, што мыліся лапкамі, дрохваў з раскінутымі крыламі, стрэпетаў, якія выбівалі ножкамі свае пляцоўкі. Дзякуючы такой вастрыні зроку, акрамя свету, які бачылі ўсе, у Васі быў яшчэ іншы свет, свой уласны, нікому не даступны і, верагодна, вельмі добры, цікавы, таму што калі ён глядзеў і захапляўся, цяжка было не зайздросціць яму”.

Вось прыблізна гэта і хацеў сказаць Бунін, толькі ў дачыненні да свету самога Чэхава:

– Вельмі зоркія вочы даў яму Бог!

“У мяне гасцюе акуліст са сваімі шкельцамі, – піша знаёмай Антон Паўлавіч. – Ужо два месяцы як ён падбірае для мяне акуляры. У мяне гэтак званы астыгматызм, – дзякуючы якому ў мяне часта бывае мігрэнь, і, акрамя таго, яшчэ правае вока блізарукае, а левае дальназоркае... Вось бачыце, які я калека”.

Не ведаю, што ўбачыла ў гэтым прызнанні знаёмая вялікага пісьменніка, – мы ж бачым тут амаль неверагодны, на дзіва паказальны выпадак, як небяспечна суадносіць рэальнасць з непрадуманай вобразнасцю, як могуць адпомсціць даследчыку яго ж уласныя, хай сабе і з самымі добрымі намерамі ўсклікнутыя словы: “Зоркія вочы даў яму Бог!”

## 3.

У газеце “Антенна” за 2006 г. напісана:

“Три талера” доберутся аж до Латинской Америки».

Ну што ж, пакуль усё гэта “бардзо міво”.

“Белорусский четырехсерийный телефильм

ожидает удачная прокатная судьба. После премьеры на БТ-1 предложения закупить его поступили из Украины, Германии, Франции и даже Латинской Америки. А на одном из крупнейших российских каналов «Три талера» будут показаны уже в ближайшее время".

Прайшло чатыры гады. І ні капеечкі аўтарскіх, ні сантыма, ні грыўны, ні талерчыка, ні шчарбатага! А вы ж вуснамі вашых юрыстаў абяцалі мне з пракату працэнты, нахабныя бессаромнікі, я ж каторы ўжо год на аптэку працую, хоць бы пра гэта падумалі, хоць бы чыста па-чалавечы пашкадавалі...

Некалі перад маскоўскай Алімпіядай-80 быў аб'яўлены конкурс на лепшы сімвал яе, і выбралі гэтага ўсім цяпер вядомага сімпатычнага мядзведзіка з пяццю кольцамі на спражцы рамяня – працу невядомага правінцыйнага мастака. Адвалілі яму за перамогу ажно сто савецкіх рублікаў. І быў наш мастак на сёмым небе ад шчасця, пакуль не грымнула перабудова і ён не даведаўся, колькі "наварыла" дзяржава з адных толькі сувеніраў, і што ад іх рэалізацыі ў прынцыпе законна яму належала така-а-я доля... Кінуўся гаротнік па судах, канечне, імгненна нажыў інфаркт і, як кажуць, "памёр і некралога не пабачыў". Цяпер – менавіта цяпер, у нашае XXI стагоддзе! – "справу мастака працягвае яго ўдава", таксама пакуль беспаспяхова.

Знакамітаму рэжысёру Сяргею Бандарчуку праклятый савецкі рэжым ніяк не даваў разгарнуцца – зняць серыял паводле "Ціхага Дона". І вось зіхоткі промнямі свабоды 1991-ы! Пішы, друкуй, стварай, здымай што хочаш! Акурат аб'явіліся на Кубані некалькі італьянскіх прайдзісветаў, якія назвалі сябе прадзюсерамі, прывезлі чамаданы грошай на здымкі, наабяцалі Бандарчуку сем бочак апельсінаў, паставілі невялічкія ўмовы (нпр., усе галоўныя героі павінны быць з Галівуда; першы



інфаркт здарыўся з Бандарчуком, калі ён даведаўся, што яго Рыгор Мелехаў мае нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю...). Як бы там ні было, з горам папалам фільм знялі, і тым жа вечарам прадзюсеры разам з гэтым адзнятым фільмам зніклі ў паўднёвым накірунку – як высветлілася, назаўсёды. Ні Бандарчук, ні здымачная група, ні шматлікія мясцовыя ўдзельнікі масовак не атрымалі ні капейкі. Дзе цяпер знаходзіцца гэты серыял, хто яго глядзіць, навошта гэта ўвогуле трэба было – загадка па сёння.

Як сапраўдны, шчыры, наіўны славянін Бандарчук, успомніўшы, што ўсе шляхі вядуць у Рым, едзе судзіцца... прама ў італьянскую сталіцу. І сустракаецца там з такім жа старэнькім Фрэдэрыка Феліні. Выслухаўшы калегу, Феліні ў знак суцяшэння запрасіў яго на прэм'еру свайго апошняга фільма. Прыйшлі ўвечары ў абсалютна пустую, рымскую, гулкую, як Калізей, кіназалу. "А дзе ж гледачы?!" – "Бачыш, Серджыо, справа ў тым, што ўсе мае сапраўдныя гледачы ўжо на тым свеце. І адзіны спосаб вярнуць іх – самому памерці".

Неўзабаве і адзін, і другі праўда памерлі.

...Як падумаеш пра ўсё гэта, пачухаеш патыліцу ды і махнеш рукою. Бог з імі, з талерамі, тут ужо неяк не да талераў...

## 4.

Даўно мяне падмывала напісаць штосьці пра ЖЖ. Свядома называю так – Жывы Журнал, хаця нашы дамарослыя грамацеі прапаноўваюць Жывы Часопіс – тое самае, як бы настаўнік разгарнуў перад сабой класны часопіс. Падмывала – ды вось пакуль не ведаю, як уплішчыць лыка ў стр*о*чку... зрэшты, я

ўжо дастаткова прывучыў свае думкі да незалежнасці і смела адпускаю іх на волю, упэўнены, што па першым свісце яны збягуцца да мяне, як сабачкі да нагі...

Цікавая ўсё ж з'ява гэты ЖЖ – Livejornal. Гэткая свая, адрозная ад звыкла папярова-друкаванай, літаратура, свой сусвет, дзе няма аўтарытэтаў, дзе ты сам сабе і пісьменнік, і рэдактар, і выдавец, і крытык...

Дык вось: надумаў я – як сам сабе гаспадар – распачаць у тым ЖЖ дыскусійку пра канчаткі польскіх прозвішчаў. Не так даўно іх перасталі скланяць. Калі не памыляюся, пачынаючы з пікантнай гісторыі з Монікай Лявінскай. Журналістам падалося, што прыгажэй будзе гучаць Моніка Лявінскі.

Падхапілі рускія журналісты, палітолагі, і нашыя следам, затым спартыўныя каментатары і ўрэшце ўсе пагалоўна, як так і трэба – панеслі! "Тэнісістка Каралін Вазняцкі..." (чым кепска Караліна Вазняцкая?) "У футбаліста Лукаша Падольскі траўма..." "У Яраслава Качыньскі – гора... Выдатная актрыса з выдатнага фільма "Іронія лёсу" Барбара Брыльская ўжо "наведвае нашую краіну" як Барбара Брыльскі (тым самым ператварыўшыся напалову ў мужчыну).

Няправільна! Непрыгожа. Рэжа вуха! Чорт ведае што. Абы папугайнічаць, як казаў Мікалай Васільевіч Гогаль вуснамі Чычыкава.

Як бы там ні было, але не атрымалася дыскусійкі. Быў я прысаромлены, абвінавачаны ў тым, што адстаў ад жыцця, а некаторыя шчыра дзівіліся, як такая лухта можа некага цікавіць у гарачы перадвыбарчы час.

### 5.

Затое атрымаўся казус. Адна дзяўчынка з Вільні напісала, відаць, штосьці з чымсьці зблытаўшы:



"Ну, гэта старое і балючае пытанне – у нас крытыкі проста няма, бо занадта ўсе крыўдлівыя: слова не скажы, а калі хто што пра каго напіша ў крытычным ключы, то век яму тое будуць выпамінаць. У нас працуе_пакуль што піяр, прычым самапіяр, і толькі..."

Хачу спытаць – і ў дзяўчынкі, і ва ўсіх – рытарычна:

– А што яшчэ ў нас, у творчых людзей, павінна працаваць?

З "Займальнай гісторыі": "Напалеон пад Барадзіно скіраваў свае галоўныя сілы на тое, каб прарваць цэнтр рускіх, а трэба было зрабіць наадварот. Напалеону трэба было скіраваць свае галоўныя сілы на тое, каб прарваць свой уласны цэнтр".

Так і нам трэба рабіць?

Нам трэба скіраваць свае сілы на тое, каб піярыць не сябе, а іншых? І тады ўсе аўтаматычна паробяцца геніямі, ні да кога не будзе ніякіх прэтэнзій, і ў нашай Сінявокай усталююцца даўно чаканыя лад і згода? Так выходзіць?

*2010–2011 г.*

## СЕЧКА-15

### 1.

Хто мае хоць якое дачыненне да літаратуры, канечне ж, будзе ведаць выдатнага рускага пісьменніка (цяпер жыве ў Ізраілі; копія анекдатычнага энцыклапедыйнага радка: “Вялікі рускі мастак Ільля Рэпін нарадзіўся ў беднай яўрэйскай сям'і) – Сяргея Каледзіна.

Яго нашумелы “Будбат”, “Поп і работнік”, “Заміраныя могілкі” (“Смиренное кладбище”)... Паводле апошняга зняты фільм.

Цікавая гісторыя стварэння і ходу да чытача гэтых “Могілак”. Пісаліся яны замест дыплома. Сяргей адлічыў 50 чыстых старонак, унізе апошняй напісаў “П...ц”, вярнуўся да першай старонкі і ўсяго за месяц стварыў маленькі шэдэўр.

Стварыў, бліскуча абараніўся. Аднак што далей? Пачаў рассылаць твор па рэдакцыях – дзеля цікавасці.

“...Мы прачыталі аповесць. Напісана добрай моваю. Але ў партфелі часопіса ёсць больш моцныя творы на падобную тэматыку” (“Нява”).

“...Мова аповесці неахайная, засмечаная жарганізмамі, рэкамендаваць да надрукавання нельга” (“Наш сучаснік”).



“...Рэкамендаваць аповесць не ўяўляецца магчымым – яна далёкая ад задач, якія перад сабою ставіць наша выдавецтва” (“Маладая гвардыя”).

Карацей, старая гісторыя. Ніхто ў Расіі не ацаніў і не падтрымаў маладога аўтара. І тут ад старэйшага сябра прагучала: “Нужно в Минск, к Василю!”, – як да апошняй, самай справядлівай інстанцыі.

Каледзін едзе ў Мінск. Хвалюецца, доўга шукае дом, адцягваючы сустрэчу.

Быкаў папрасіў пакласці папку з рукапісам у куток, на кіпу вышынёй з паўметра.

– Пра што твор?

– Пра могілкі, я працаваў там.

– Свежая тэма. Усяго добрага.

І неўзабаве вось ён, той каштоўны лісток паперы ў канверце:

“...Я з асалодаю прачытаў Вашу аповесць і магу сказаць, што яна цудоўная ў многіх адносінах. Праўда, яна пачатая з нешчаслівым лёсам, і ў суцяшэнне аўтару хай будзе толькі ўсведамленне ўласнага таленту, які несумненны, значны і шчыры.

Вельмі зычу Вам удачы. В. Быкаў”.

Прыемна! Гонар за Беларусь! Нібыта і цябе асабіста датычыцца...

Але вось на якія думкі ўсё гэта наводзіць. Ці знайшоўся б у нас у Беларусі пісьменнік, які не змясціў бы падобны ліст, як ахоўную грамату, папярэдзе свайго твора? (Калі б, вядома, такі ліст атрымаў.)

Каледзін жа проста мімаходзь згадвае гэты эпізод у адной са сваіх біяграфічных аповесцяў.

Якая ўсё ж вялікая розніца паміж двума літаратурамі. Або так – розніца паміж дзвюма катэгорыямі пісьменнікаў: вялікім і малым, самадастатковым і тым, каму абавязкова трэба падстрахоўка, чужое плячо.

**2.**

Знішчаў старыя запісы, перавярнуў аркушык і ўбачыў, што гэта "палымянская" гранка з тэкстам Янкі Брыля. Некалі я быў дзяжурны па нумары і вычытваў яе, паправіў "радзіску" на слоўнікавую "радыску". Івану Антонавічу не вельмі спадабалася, але ён змоўчаў.

На гэтай адной староначцы можна знайсці многа Янкі Брыля. Тут і яго творчая візітная картка – слова "хораша" ў значэнні рускага "хорошо", і асалода ад піцця ("а вы пайдзіце да збанка ў цянёчку ад снапоў, хлебаніце сабе"), і любімыя пісьменнікам сакавітыя простанароддзі:

"Грубка халодная, як мёртвая дупа", а ў Валодзі Караткевіча яшчэ лепш – радыска з белымі дупкамі".

Ну і параўнаннейкі... Яшчэ разбіраюцца, у каго лепш, у каго горш... Ва ўсіх лепш.



Анатоль Сыс падпісаў яму свой "Агмень" так:

"Бога малю,
каб даў сто гадоў Янку Брылю".

Не без долі падхалімства я сказаў Івану Антонавічу, што лічу гэта адным з самых лаканічных і цёплых у беларускай літаратуры аўтографаў.

– Глупства, – быў адказ. – Нашто мне сто гадоў? Пажыў, і хопіць, трэба другім даць месца.

"Паміж смерцю ў 45 гадоў ці пазней – усяго толькі колькасная розніца", – пісаў любімы Брылём Талстой. Інакш кажучы – або жыць вечна, або няважна колькі.

Янка Брыль нейкім чынам змог стварыць для сябе своеасаблівы міні-залаты век у літаратуры, здолеў усё, што трапляла ў поле яго зроку, падпарадкаваць любімай справе.

І праўда, як гэта здорава і зайздросна: пахадзіць па свежай пакошы, папіць у спёку халоднага малака нагбом з паліванай гладышкі, паслухаць рып маладога снегу пад падэшвамі, пасумаваць разам з жоўтым восеньскім лістом, памацаць у пальцах клейкую пахкую веснавую пупышку, пачытаць любімую кнігу, няспешна, роўным прыгожым почыркам запісаць усё гэта...

Не жыццё, а песня! А песні хіба можна адмераць мяжу, хіба не кашчунна акрэсліваць яе канкрэтыкай, нават такой спаважнай, як цэлых сто гадоў?

## 3.

Нeяк Машэраў склікаў аўтарытэтных пісьменнікаў на раду.

"Чаму ў вашых рэдакцыях працуюць усяго тры гадзіны, з 14 да 17? І то называецца гэта не праца, а сустрэчы з аўтарамі?"

На што Янка Брыль расказаў Пятру Міронавічу, як у іх у польскай арміі быў надта шкадлівы, прыдзірлівы капрал, які тым не менш не стамляўся паўтараць:

"Мне ўсё роўна, дзе, чым, у які час вы будзеце чысціць боты – абы яны блішчэлі!"

– Так і мы, Пятро Міронавіч, думаем, што абсалютна няважна, колькі пісьменнік працуе – абы вынік быў. А ён ёсць – добрыя часопісы выходзяць, новыя выдатныя імёны з'яўляюцца, і ў выніку наша літаратура квітнее.

Машэраву так спадабалася, што ён рассмяяўся і махнуў рукой: рабіце што хочаце, "абы боты блішчэлі!"

Разумею, што мы цяпер жывем у іншым часе, пры іншых умовах і нават у іншым фізічным вымярэнні. Нашых гісторыяй з капралам не праб'еш. І ўсё ж круціцца ў мазгах і на языку простая арыфметыка: чаму раней, калі рэдакцыі працавалі 3 гадзіны ў дзень, былі Мележы, Шамякіны, Брылі, Быкавы, Караткевічы, Стральцовы, Танкі, Макаёнкі?.. Пачалі працаваць па-стаханаўску, як на рэжымна-стратэгічным аб'екце (ледзь не па зменах: "Сёння мне ў начную – рэдагаваць новага Караткевіча"), – зніклі Мележы і Брылі...



Рэдактарства – гэта творчасць. Талент рэдактара ніколькі не меншы, чым талент пісьменніка. І, як любы талент, падуладны ён натхненню, але ніяк не рэжыму. Толькі людзі, самі да смешнага чужыя і творчасці, і натхненню, могуць не разумець гэтага. Або наадварот, вельмі добра яны разумеюць, а ўся справа ў тым, што:

Нам, товарищи, нужны
Подобрее Мележы,
И такие Быковы,
Чтобы нас не трогали…

## 4.

(Наступны эпізодзік чакаў свайго часу роўна 10 гадоў, з самай першай "сечкі", ды ўсё не надаралася магчымасці ўплішчыць яго куды-небудзь. Хай ідзе цяпер.)

Грамадзянскі подзвіг далёкага ад палітыкі Чэхава – адмовіўся ад звання ганаровага акадэміка ў знак пратэсту, што не прынялі ў тыя ж акадэмікі Горкага.

Заўсёды цікава было, як ён адважыўся? Ён, які так сярдзіта выгаворваў захопленаму рэвалюцыйным уздымам Лугавому: "Студэнты бунтуюць, каб стаць героямі і падабацца паненкам: вось уся рэвалюцыя!"

У школе і ВНУ нас вучылі: "Перапоўніўся святым гневам да царызму". Ніколькі не збіраюся прыніжаць учынак вялікага пісьменніка, проста хачу разабрацца – а што ён губляў?

“Белетрысты могуць быць толькі ганаровымі акадэмікамі, – піша Чэхаў Суворыну, – а гэта нічога не значыць, усё адно як ганаровы грамадзянін горада Вязьмы ці Чарапаўца; ні грошай, ні права голасу. Скажыце: дзеля чаго трэба было прыдумваць званне ганаровага акадэміка?”

Усё ж доўга яны з Караленкам раіліся, абмяркоўвалі, узважвалі, быў цэлы падрыхтоўчы перыяд, паўпадпольныя сустрэчы, зашыфраваная перапіска...

Вырашылі падстрахавацца Талстым, каб ён таксама напісаў заяву з адрачэннем. Чэхаў паехаў на перамовы.

“Я не лічу сябе ніякім акадэмікам”, – буркнуў Талстой і ўнурыўся ў чытанне. (З такою ж лёгкасцю двойчы, у 1897 і 1906 гг., адмовіцца ад вылучэння яго на прэмію, зацверджаную выхадцам з Расіі Альфрэдам Нобелем.)

У Караленкі лопнула цярпенне, ён падаў заяву ў Акадэмію адзін.

Толькі праз месяц (!) Чэхаў, які “пасля пакутлівых роздумаў змог прыйсці да высновы, вельмі для мяне цяжкай і сумнай”, нарэшце напісаў славуты ліст, з такой мілай канцоўкай, што рука не падымаецца перакладаць:

“С чувстом глубокого уважения имею честь пребыть Вашим покорнейшим слугою”.



**5.**

*“Пераглядаючы самыя сварлівыя крытыкі,*
*я знаходжу іх настолькі*
*забаўнымі, што не разумею, як мог на*
*іх крыўдаваць; здаецца, каб хацеў я з іх пасмяяцца,*
*дык нічога не мог бы лепшага прыдумаць,*
*як толькі перадрукаваць без усялякіх каментароў”.*
А. Пушкін

“…Меня и моих друзей, прочитавших в журнале «Молодость» № 8 за 2009 г. «произведение» «писателя» А. Федоренко «Уночы», настолько возмутила и разгневала эта публикация, что мы не выдержали.

Просим Вас, кто причастен к вопросам идеологии, прочесть этот «шедевр» автора, если сможете без омерзения дочитать его до конца.

Сразу возникает масса вопросов и проблем. Как и где в нашей стране могут быть такие преступники-«герои»? Они могут быть только в бредовом сознании больного «писателя», а скорее врага нашей страны, нашего народа. А если ты враг, то почему ты печатаешься в государственном журнале? Что можно сказать о населении нашей страны, прочитав этот провокационный рассказ? Это преднамеренное очернение наших людей, всего государства. Таких выродков в нашей стране нет и никогда не было. Тогда куда же были направлены силы и воспитательные средства нашего государства, если у нас выросли такие люди?

Это оскорбление всего народа, государства и

Президента в том числе. Что будут разные читатели думать о Белоруссии?

Почему главный редактор Боровикова это печатает? Кстати, с постоянным размещением своего портрета в каждом номере журнала! И это не первое подобное такое произведение в этом журнале! Страшно, что заставляют студентов подписываться на него.

Такой журнал надо закрывать или переориентировать. А указанного автора и редактора нужно привлечь к отвественности, даже судить за подобные публикации. Их нельзя даже близко подпускать к литературной деятельности. Думаем, что есть в кодексе необходимые статьи и положения, а у Вас хватит власти, чтобы не повторялось больше ничего подобного.

SOS! Спасите наши души от подобных публикаций и «произведений»!

*2011г.*

**Канец**